ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ Х

№ 3
Сакавік 1937 г.



ЗМЕСТ





**Адрас рэдакцыі:**
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.

Тэлефон рэдакцыі
па камутатару 20000, даб. 50.

# Інфармацыйнае паведамленне аб чарговым пленуме ЦК ВКП(б)

У пачатку сакавіка закончыўся Пленум ЦК ВКП(б). Пленум абмеркаваў пытанне аб задачах партыйных арганізацый у сувязі з надыходзячымі выбарамі Вярхоўнага Совета СССР на аснове новай Канстытуцыі. Пленум прыняў адпаведную рэзалюцыю, якая публікуецца ніжэй. Пленум абмеркаваў далей пытанні гаспадарчага і партыйнага будаўніцтва і прыняў адпаведныя практычныя рашэнні. Пленум разглядзеў таксама пытанне аб антыпартыйнай дзейнасці Бухарына і Рыкава і пастанавіў выключыць іх з радоў ВКП(б).

*І. В. Сталін*

# Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў*)

Таварышы!

З дакладаў і спрэчак па іх, заслуханых на Пленуме, відаць, што мы маем тут справу з наступнымі трыма асноўнымі фактамі.

Па-першае, шкодніцкая і дыверсійна-шпіёнская работа агентаў замежных дзяржаў, у ліку якіх даволі актыўную ролю адыгрывалі трацкісты, закранула ў той або іншай ступені ўсе ці амаль усе нашы арганізацыі, як гаспадарчыя, так і адміністрацыйныя і партыйныя.

Па-другое, агенты замежных дзяржаў, у тым ліку трацкісты, пранікці не толькі ў нізавыя арганізацыі, але і на некаторыя адказныя пасты.

Па-трэцяе, некаторыя нашы кіруючыя таварышы, як у цэнтры, так і на месцах, не толькі не здолелі разглядзець сапраўдны твар гэтых шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў і забойцаў, але аказаліся да таго бесклапотнымі, благадушнымі і наіўнымі, што нярэдка самі садзейнічалі прасоўванню агентаў замежных дзяржаў на тыя або іншыя адказныя пасты.

Такавы тры бясспрэчныя факты, якія натуральна выцякаюць з дакладаў і спрэчак па іх.

## I

### Палітычная бесклапотнасць

Чым вытлумачыць, што нашы кіруючыя таварышы, якія маюць багаты вопыт барацьбы з усякага роду антыпартыйнымі і антысавецкімі плынямі, аказаліся ў даным выпадку настолькі наіўнымі і сляпымі, што не здолелі разглядзець сапраўдны твар ворагаў народу, не здолелі распазнаць ваўкоў у авечай скуры, не здолелі сарваць з іх маску?

Ці можна сцвярджаць, што шкодніцкая і дыверсійна-шпіёнская работа агентаў замежных дзяржаў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі СССР, можа з'явіцца для нас чым-небудзь нечаканым і небывалым?

*) Даклад на Пленуме ЦК ВКП(б) 3 сакавіка 1937 года.

Не, нельга гэтага сцвярджаць. Аб гэтым гавораць шкодніцкія акты ў розных галінах народнай гаспадаркі за апошнія 10 год, пачынаючы з шахцінскага перыяда, зафіксаваныя ў афіцыяльных дакументах.

Ці можна сцвярджаць, што за апошні час не было ў нас якіх-небудзь перасцерагаючых сігналаў і папярэджваючых указанняў наконт шкодніцкай, шпіёнскай ці тэрарыстычнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскіх агентаў фашызма? Не, нельга гэтага сцвярджаць. Такія сігналы былі, і большэвікі не маюць права забываць пра іх.

Зладзейскае забойства таварыша Кірава было першым сур'ёзным папярэджаннем, якое гаварыла аб тым, што ворагі народу будуць двурушнічаць і, двурушнічаючы, будуць маскіравацца пад большэвіка, пад партыйца, для таго, каб уцерціся ў давер'е і адкрыць сабе доступ у нашы арганізацыі.

Судовы працэс «Ленінградскага цэнтра», роўным чынам як судовы працэс «Зіноўева—Каменева», даў новае абгрунтаванне урокам, якія выцякалі з факта зладзейскага забойства таварыша Кірава.

Судовы працэс «Зіноўеўска-трацкісцкага блока» расшырыў урокі папярэдніх працэсаў, паказаўшы відавочна, што зіноўеўцы і трацкісты яднаюць вакол сябе ўсе варожыя буржуазныя элементы, што яны ператварыліся ў шпіёнскую і дыверсійна-тэрарыстычную агентуру германскай паліцэйскай ахранкі, што двурушніцтва і маскіроўка з'яўляецца адзіным сродкам зіноўеўцаў і трацкістаў для пранікнення ў нашы арганізацыі, што пільнасць і палітычная празорлівасць прадстаўляюць найбольш верны сродак для прадухілення такога пранікнення, для ліквідацыі зіноўеўска-трацкісцкай шайкі.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) у сваім закрытым пісьме ад 18 студзеня 1935 года па поваду зладзейскага забойства таварыша Кірава рашуча перасцерагаў партыйныя арганізацыі ад палітычнай благадушнасці і абывацельскага ратазейства. У закрытым пісьме сказана:

«Трэба пакончыць з апартуністычнай благадушнасцю, якая зыходзіць з памылковага дапушчэння аб тым, што па меры росту нашых сіл вораг становіцца быццам-бы ўсё больш ручным і бяскрыўдным. Такое дапушчэнне ў корані няправільна. Яно з'яўляецца адрыжкай правага ўхілу, які запэўнівае ўсіх і кожнага, што ворагі будуць ціхком упаўзаць у соцыялізм, што яны стануць урэшце сапраўднымі соцыялістамі. Не справа большэвікоў спачываць на лаўрах і ратазействаваць. Не благадушнасць нам патрэбна, а пільнасць, сапраўдная большэвіцкая рэволюцыйная пільнасць. Трэба памятаць, што чым больш безнадзейна становішча ворагаў, тым больш ахвотна яны будуць хватацца за крайнія сродкі, як адзіныя сродкі асуджаных у іх барацьбе з совецкай уладай. Трэба памятаць гэта і быць пільным».

У сваім закрытым пісьме ад 29 ліпеня 1936 года па поваду шпіёнска-тэрарыстычнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскага блока Цэнтральны Камітэт ВКП(б) зноў заклікаў партыйныя арганізацыі да максімальнай пільнасці, да ўмення распазнаваць ворагаў народу, якбы добра яны ні былі замаскаваны. У закрытым пісьме сказана:

«Цяпер, калі даказана, што трацкісцка-зіноўеўскія ізвергі яднаюць у барацьбе супроць совецкай улады ўсіх найбольш азлобленых і заклятых ворагаў працоўных нашай краіны,— шпіёнаў, правакатараў, дыверсантаў, белагвардзейцаў, кулакоў і т. д., калі паміж гэтымі элементамі, з аднаго боку, і трацкістамі і зіноўеўцамі, з другога боку, сцёрліся ўсякія грані,—усе нашы партыйныя арганізацыі, усе члены партыі павінны зразумець, што пільнасць комуністаў неабходна на любым участку і ва ўсякай абстаноўцы. Неад'емнай якасцю кожнага большэвіка ў сучасных умовах павінна быць уменне распазнаваць ворага партыі, як-бы добра ён ні быў замаскаваны».

Значыць, сігналы і папярэджанні былі.

Да чаго заклікалі гэтыя сігналы і папярэджанні?

Яны заклікалі да таго, каб ліквідаваць слабасць партыйна-арганізацыйнай работы і ператварыць партыю ў непрыступную крэпасць, куды не мог-бы пранікнуць ні адзін двурушнік.

Яны заклікалі да таго, каб пакончыць з недаацэнкаю партыйна-палітычнай работы і зрабіць рашучы паварот у бок усямернага ўзмацнення такой работы, у бок узмацнення палітычнай пільнасці.

І што-ж? Факты паказалі, што сігналы і папярэджанні ўспрымаліся нашымі таварышамі больш чым туга.

Аб гэтым красамоўна гавораць усім вядомым факты з галіны кампаніі па праверцы і абмену партыйных дакументаў.

Чым вытлумачыць, што гэтыя перасцярогі і сігналы не мелі належнага дзеяння?

Чым вытлумачыць, што нашы партыйныя таварышы, не гледзячы на іх вопыт барацьбы з антысовецкімі элементамі, не гледзячы на цэлы рад перасцерагаючых сігналаў і папярэджваючых указанняў, аказаліся палітычна блізарукімі перад тварам шкодніцкай і шпіёнска-дыверсійнай работы ворагаў народу?

Можа быць нашы партыйныя таварышы сталі горш, чым яны былі раней, сталі менш свядомымі і дысцыплінаванымі? Не, вядома не!

Можа быць яны сталі перараджацца? Зноў-жа не! Такое меркаванне пазбаўлена ўсякай падставы.

Дык у чым-жа справа? Адкуль такое ратазейства, бесклапотнасць, благадушша, слепата?

Справа ў тым, што нашы партыйныя таварышы, будучы захоплены гаспадарчымі кампаніямі і каласальнымі поспехамі на фронце гаспадарчага будаўніцтва, забылі проста аб некаторых вельмі важ-

ных фактах, аб якіх большэвікі не маюць права забываць. Яны забылі аб адным асноўным факце з галіны міжнароднага становішча СССР і не заўважылі двух вельмі важных фактаў, якія маюць прамыя адносіны да цяперашніх шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў, што прыкрываюцца партыйным білетам і маскуюцца пад большэвіка.

II

## Капіталістычнае акружэнне

Што гэта за факты, аб якіх забылі або якіх проста не заўважылі нашы партыйныя таварышы?

Яны забылі аб тым, што совецкая ўлада перамагла толькі на адной шостай частцы свету, што пяць шостых свету складаюць уладанні капіталістычных дзяржаў. Яны забылі, што Совецкі Саюз знаходзіцца ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння. У нас прынята балбатаць аб капіталістычным акружэнні, але не хочуць удумацца, што гэта за штука—капіталістычнае акружэнне. Капіталістычнае акружэнне—гэта не пустая фраза, гэта вельмі рэальная і непрыемная з'ява. Капіталістычнае акружэнне—гэта значыць, што ёсць адна краіна, Совецкі Саюз, якая ўстанавіла ў сябе соцыялістычныя парадкі, і ёсць, апрача таго, многа краін—буржуазныя краіны, якія прадаўжаюць весці капіталістычны вобраз жыцця і якія акружаюць Совецкі Саюз, чакаючы выпадку для таго, каб напасці на яго, разбіць яго або, ва ўсякім выпадку—падарваць яго магутнасць і аслабіць яго.

Аб гэтым асноўным факце забылі нашы таварышы. А ён-жа іменна і вызначае аснову ўзаемаадносін паміж капіталістычным акружэннем і Совецкім Саюзам.

Узяць, напрыклад, буржуазныя дзяржавы. Наіўныя людзі могуць падумаць, што паміж імі існуюць выключна добрыя адносіны, як паміж дзяржавамі аднатыпнымі. Але так могуць думаць толькі наіўныя людзі. На самай справе адносіны паміж імі больш чым далёкі ад добрасуседскіх адносін. Даказана, як двойчы два чатыры, што буржуазныя дзяржавы засылаюць адна да адной у тыл сваіх шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў, а часам і забойцаў, даюць ім заданне ўкараніцца ва ўстановы і прадпрыемствы гэтых дзяржаў, стварыць там сваю сетку і «у выпадку неабходнасці»—узарваць іх тылы, каб аслабіць іх і падарваць іх магутнасць. Так абстаіць справа ў сучасны момант. Так абстаяла справа і ў мінулым. Узяць, напрыклад, дзяржавы ў Еўропе часоў Напалеона I. Францыя кішэла тады шпіёнамі і дыверсантамі з лагера рускіх, немцаў, аўстрыйцаў, англічан. І, наадварот, Англія, нямецкія дзяржавы, Аўстрыя, Расія мелі тады ў сваім тылу не меншую колькасць шпіёнаў і дыверсантаў з французскага лагера. Агенты Англіі двойчы рабілі замах на жыццё Напалеона і некалькі

раз падымалі вандэйскіх сялян ва Францыі супроць урада Напалеона. А што-ж сабою прадстаўляў напалеонаўскі ўрад? Буржуазны ўрад, які задушыў французскую рэволюцыю і захаваў толькі тыя рэзультаты рэволюцыі, якія былі выгадны буйнай буржуазіі. Няма чаго і гаварыць, што напалеонаўскі ўрад не аставаўся ў даўгу ў сваіх суседзяў і таксама прыдпрымаў свае дыверсійныя мерапрыемствы. Так было ў мінулым, 130 гадоў таму назад. Так абстаіць справа цяпер, праз 130 гадоў пасля Напалеона I. Зараз Францыя і Англія кішаць нямецкімі шпіёнамі і дыверсантамі і, наадварот, у Германіі ў сваю чаргу падвізаюцца англа-французскія шпіёны і дыверсанты. Амерыка кішыць японскімі шпіёнамі і дыверсантамі, а Японія — амерыканскімі.

Такі закон узаемаадносін паміж буржуазнымі дзяржавамі.

Паўстае пытанне, чаму буржуазныя дзяржавы павінны адносіцца да совецкай соцыялістычнай дзяржавы больш мякка і больш падобрасуседску, чым да аднатыпных буржуазных дзяржаў? Чаму яны павінны засылаць у тылы Совецкага Саюза менш шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і забойцаў, чым засылаюць іх у тылы родсценых ім буржуазных дзяржаў? Адкуль вы гэта ўзялі? Ці не вярней будзе, з пункту погляду марксізма, дапусціць, што ў тылы Совецкага Саюза буржуазныя дзяржавы павінны засылаць удвая і ўтрая больш шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў, чым у тылы любой буржуазнай дзяржавы?

Ці не ясна, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў?

Аб усім гэтым забылі нашы партыйныя таварышы, і, забыўшы аб гэтым, аказаліся захвачанымі знянацку.

Вось чаму шпіёнска-дыверсійная работа трацкісцкіх агентаў япона-нямецкай паліцэйскай ахранкі аказалася для некаторых нашых таварышоў поўнай нечаканасцю.

III

## Сучасны трацкізм

Далей. Ведучы барацьбу з трацкісцкімі агентамі, нашы партыйныя таварышы не заўважылі, прагледзелі, што цяперашні трацкізм ужо не той, чым ён быў, скажам, год 7—8 таму назад, што трацкізм і трацкісты працярпелі за гэты час сур'езную эвалюцыю, якая ў корані змяніла твар трацкізма, што з прычыны гэтага і барацьба з трацкізмам, метады барацьбы з ім павінны быць зменены ў корані. Нашы партыйныя таварышы не заўважылі, што трацкізм перастаў быць палітычнаю плынню ў рабочым класе, што з палітычнай плыні ў рабочым класе, якім ён быў 7—8 год таму назад, трацкізм ператварыўся ў агалцелую і беспрынцыпную банду шкоднікаў, дыверсантаў,

шпіёнаў і забойцаў, якія дзейнічаюць па заданнях разведвальных органаў замежных дзяржаў.

Што такое палітычная плынь у рабочым класе? Палітычная плынь у рабочым класе—гэта такая група або партыя, якая мае сваю пэўную палітычную фізіяномію, платформу, праграму, якая не хавае і не можа хаваць сваіх поглядаў ад рабочага класа, а наадварот, прапагандуе свае погляды адкрыта і чэсна, на вачах у рабочага класа, якая не баіцца паказаць свой палітычны твар рабочаму класу, не баіцца дэманстраваць сваіх сапраўдных мэт і задач перад рабочым класам, а наадварот, з адкрытым забралам ідзе ў рабочы клас для таго, каб пераканаць яго ў праваце сваіх поглядаў. Трацкізм у мінулым, год 7—8 таму назад, быў адной з такіх палітычных плыней у рабочым класе, праўда, антыленінскай і таму глыбока памылковай, але ўсё-ж палітычнаю плынню.

Ці можна сказаць, што цяперашні трацкізм, трацкізм, скажам, 1936 года, з'яўляецца палітычнаю плынню ў рабочым класе? Не, нельга гэтага гаварыць. Чаму? Таму, што сучасныя трацкісты баяцца паказаць рабочаму класу свой сапраўдны твар, баяцца адкрыць яму свае сапраўдныя мэты і задачы, старанна хаваюць ад рабочага класа сваю палітычную фізіяномію, апасаючыся, што, калі рабочы клас даведаецца аб іх сапраўдных намерах, ён пракляне іх, як людзей чуждых, і прагоніць іх ад сябе. Гэтым, уласна, і тлумачыцца, што асноўным метадам трацкісцкай работы з'яўляецца цяпер не адкрытая і чэсная прапаганда сваіх поглядаў у рабочым класе, а маскіроўка сваіх поглядаў, ліслівае і падхалімскае ўсхваленне поглядаў сваіх праціўнікаў, фарысейскае і фальшывае ўтоптванне ў гразь сваіх уласных поглядаў.

На судовым працэсе 1936 года, калі ўспомніце, Каменеў і Зіноўеў рашуча адмаўлялі наяўнасць у іх якой-небудзь палітычнай платформы. У іх была поўная магчымасць разгарнуць на судовым працэсе сваю палітычную платформу. Аднак яны гэтага не зрабілі, заявіўшы, што ў іх няма ніякай палітычнай платформы. Не можа быць сумнення, што абодва яны хлусілі, адмаўляючы наяўнасць у іх платформы. Цяпер нават сляпыя бачаць, што ў іх была свая палітычная платформа. Але чаму яны адмаўлялі наяўнасць у іх якой-небудзь палітычнай платформы? Таму што яны баяліся адкрыць свой сапраўдны палітычны твар, яны баяліся прадэманстраваць сваю сапраўдную платформу рэстаўрацыі капіталізма ў СССР, апасаючыся, што такая платформа выкліча ў рабочым класе агіду.

На судовым працэсе ў 1937 годзе Пятакоў, Радэк і Сакольнікаў сталі на іншы шлях. Яны не адмаўлялі наяўнасці палітычнай платформы ў трацкістаў і зіноўеўцаў. Яны прызналі наяўнасць у іх пэўнай палітычнай платформы, прызналі і разгарнулі яе ў сваіх паказаннях. Але разгарнулі яе не для таго, каб заклікаць рабочы клас, заклікаць

народ да падтрымання трацкісцкай платформы, а для таго, каб праклясці і заклеймiць яе, як платформу антынародную і антыпралетарскую. Рэстаўрацыя капіталізма, ліквідацыя калгасаў і соўгасаў, аднаўленне сістэмы эксплаатацыі, саюз з фашысцкімі сіламі Германіі і Японіі для прыбліжэння вайны з Совецкім Саюзам, барацьба за вайну і супроць палітыкі міру, тэрытарыяльнае расчляненне Совецкага Саюза з аддачай Украіны немцам, а Прымор'я—японцам, падрыхтоўка ваеннага паражэння Совецкага Саюза ў выпадку нападу на яго варожых дзяржаў, і, як сродак дасягнення гэтых задач,—шкодніцтва, дыверсія, індывідуальны тэрор супроць кіраўнікоў совецкай улады, шпіянаж на карысць япона-нямецкіх фашысцкіх сіл,—такава разгорнутая Пятаковым, Радэкам і Сакольнікавым палітычная платформа цяперашняга трацкізма. Зразумела, што такую платформу не маглі не хаваць трацкісты ад народу, ад рабочага класа. І яны хавалі яе не толькі ад рабочага класа, але і ад трацкісцкай масы, і не толькі ад трацкісцкай масы, але нават ад кіруючай трацкісцкай верхавінкі, якая складалася з невялікай кучкі людзей у 30—40 чалавек. Калі Радэк і Пятакоў патрабавалі ад Троцкага дазволу на склікание маленькай канферэнцыі трацкістаў у 30—40 чалавек для інфармацыі аб характары гэтай платформы, Троцкі забараніў ім гэта, сказаўшы, што немэтазгодна гаварыць аб сапраўдным характары платформы нават маленькай кучцы трацкістаў, бо такая «аперацыя» можа выклікаць раскол.

«Палітычныя дзеячы», якія хаваюць свае погляды, сваю платформу не толькі ад рабочага класа, але і ад трацкісцкай масы, і не толькі ад трацкісцкай масы, але і ад кіруючай верхавінкі трацкістаў,—такава фізіяномія сучаснага трацкізма.

Але з гэтага выцякае, што сучасны трацкізм нельга ўжо называць палітычнаю плынню ў рабочым класе.

Сучасны трацкізм ёсць не палітычная плынь у рабочым класе, а беспрынцыпная і безыдэйная банда шкоднікаў, дыверсантаў, разведчыкаў, шпіёнаў, забойцаў, банда заклятых ворагаў рабочага класа, якія дзейнічаюць па найму ў разведвальных органаў замежных дзяржаў.

Такі бясспрэчны рэзультат эвалюцыі трацкізма за апошнія 7—8 год.

Такава розніца паміж трацкізмам у мінулым і трацкізмам у сучасным.

Памылка нашых партыйных таварышоў заключаецца ў тым, што яны не заўважылі гэтай глыбокай розніцы паміж трацкізмам у мінулым і трацкізмам у сучасным. Яны не заўважылі, што трацкісты даўно ўжо перасталі быць ідэйнымі людзьмі, што трацкісты даўно ўжо ператварыліся ў разбойнікаў з вялікай дарогі, здольных на любую гадасць, здольных на ўсе мярзотнае аж да шпіянажу і прамой



здрады сваей радзіме, толькі-б напакасціць совецкай дзяржаве і совецкай уладзе. Яны не заўважылі гэтага і таму не здолелі своечасова перабудавацца для таго, каб павесці барацьбу з трацкістамі па-новаму, больш рашуча. Вось чаму мерзасці трацкістаў за апошнія гады з'явіліся для некаторых нашых партыйных таварышоў поўнай нечаканасцю.

Далей Нарэшце, нашы партыйныя таварышы не заўважылі таго, што паміж цяперашнімі шкоднікамі і дыверсантамі, сярод якіх трацкісцкія агенты фашызма адыгрываюць даволі актыўную ролю, з аднаго боку, і шкоднікамі і дыверсантамі часоў шахцінскага перыяда, з другога боку, ёсць істотная розніца.

Па-першае. Шахцінцы і промпартыйцы былі адкрыта чужымі нам людзьмі. Гэта былі большаю часткай былыя ўласнікі прадпрыемстваў, былыя упраўляючыя пры старых гаспадарках, былыя кампаньёны старых акцыянерных таварыстваў, або проста старыя буржуазныя спецыялісты, адкрыта варожыя нам палітычна. Ніхто з нашых людзей не сумняваўся ў сапраўднасці палітычнага твару гэтых паноў, ды і самі шахцінцы не скрывалі сваіх непрыязных адносін да совецкага ладу. Нельга тое-ж самае сказаць аб цяперашніх шкодніках і дыверсантах, аб трацкістах. Цяперашнія шкоднікі і дыверсанты, трацкісты,—гэта большаю часткай людзі партыйныя, з партыйным білетам у кішэні,—стала быць, людзі фармальна не чужыя. Калі старыя шкоднікі ішлі супроць нашых людзей, то новыя шкоднікі, наадварот, ліслівяць перад нашымі людзьмі, усхваляюць нашых людзей, падхалімнічаюць перад імі для таго, каб уцерціся ў давер'е. Розніца, як бачыце, істотная.

Па-другое. Сіла шахцінцаў і промпартыйцаў заключалася ў тым, што яны мелі ў большай ці меншай ступені неабходныя тэхнічныя веды, у той час, як нашы людзі, не меўшыя такіх ведаў, вымушаны былі вучыцца ў іх. Гэта акалічнасць давала шкоднікам шахцінскага перыяда вялікую перавагу, давала ім магчымасць шкодзіць свабодна і бесперашкодна, давала ім магчымасць ашукваць нашых людзей тэхнічна. Не тое з цяперашнімі шкоднікамі, з трацкістамі. У цяперашніх шкоднікаў няма ніякіх тэхнічных пераваг у адносінах да нашых людзей. Наадварот, тэхнічна нашы людзі больш падрыхтаваны, чым цяперашнія шкоднікі, чым трацкісты. За час ад шахцінскага перыяда да нашых дзён у нас выраслі дзесяткі тысяч сапраўдных тэхнічна падкаваных большэвіцкіх кадраў. Можна было-б назваць тысячы і дзесяткі тысяч тэхнічна вырасшых большэвіцкіх кіраўнікоў, у параўнанні з якімі ўсе гэтыя Пятаковы і Ліўшыцы, Шэстовы і Багуслаўскія, Муралавы і Дробнісы з'яўляюцца пустымі балбатунамі і прыгатавішкамі з пункту погляду тэхнічнай падрыхтоўкі. У чым-жа ў такім выпадку заключаецца сіла сучасных шкоднікаў, трацкістаў? Іх сіла заключаецца ў партыйным білеце, у тым, што яны маюць партыйны

білет. Іх сіла заключаецца ў тым, што партыйны білет дае ім палітычнае давер'е і адкрывае ім доступ ва ўсе нашы ўстановы і арганізацыі. Іх перавага заключаецца ў тым, што, маючы партыйныя білеты і прыкідваючыся прыяцелямі совецкай улады, яны ашуквалі нашых людзей **палітычна**, злоужывалі давер'ем, шкодзілі цішком і адкрывалі нашы дзяржаўныя сакрэты ворагам Совецкага Саюза. «Перавага» сумнявальная па сваей палітычнай і маральнай вартасці, але ўсё-ж «перавага». Гэтай «перавагай» і тлумачыцца, уласна, тая акалічнасць, што трацкісцкія шкоднікі, як людзі з партбілетам, якія маюць доступ ва ўсе месцы нашых устаноў і арганізацый, аказаліся прамой знаходкай для разведвальных органаў замежных дзяржаў.

Памылка некаторых нашых партыйных таварышоў заключаецца ў тым, што яны не заўважылі, не зразумелі ўсёй гэтай розніцы паміж старымі і новымі шкоднікамі, паміж шахцінцамі і трацкістамі, і, не заўважыўшы гэтага, не здолелі своечасова перабудавацца для таго, каб павесці барацьбу з новымі шкоднікамі па-новаму.

IV

### Ценявыя бакі гаспадарчых поспехаў

Такавы асноўныя факты з галіны нашага міжнароднага і ўнутранага становішча, аб якіх забылі або якіх не заўважылі многія нашы партыйныя таварышы.

Вось чаму нашы людзі аказаліся захвачанымі знянацку падзеямі апошніх год па частцы шкодніцтва і дыверсій.

Могуць запытаць: але чаму нашы людзі не заўважылі ўсяго гэтага, чаму яны забылі аб усім гэтым?

Адкуль узяліся ўсе гэтыя забыўчывасць, слепата, бяспечнасць, благадушша?

Ці не ёсць гэта арганічны парок у рабоце нашых людзей?

Не, гэта не арганічны парок. Гэта—часовая з'ява, якая можа быць хутка ліквідавана пры наяўнасці некаторых намаганняў з боку нашых людзей.

У чым-жа тады справа?

Справа ў тым, што нашы партыйныя таварышы за апошнія гады былі цалкам захоплены гаспадарчай работай, яны былі да крайнасці захоплены гаспадарчымі поспехамі і, будучы захоплены ўсёй гэтай справай,—забылі аб усім іншым, закінулі ўсё астатняе.

Справа ў тым, што, будучы захоплены гаспадарчымі поспехамі, яны сталі бачыць у гэтай справе пачатак і канец усяго, а на такія справы, як міжнароднае становішча Совецкага Саюза, капіталістычнае акружэнне, узмацненне палітычнай работы партыі, барацьба са шкодніцтвам і т. п.—не сталі проста зварачаць увагі, думаючы, што ўсе гэтыя пытанні прадстаўляюць другарадную або нават трэцярадную справу.

Поспехі і дасягненні—справа, вядома, вялікая. Нашы поспехі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва сапраўды велізарны. Але поспехі, як і ўсё на свеце, маюць і свае ценявыя бакі. У людзей, мала спрактыкаваных у палітыцы, вялікія поспехі і вялікія дасягненні нярэдка параджаюць бяспечнасць, благадушша, самаздаволенасць, празмерную самаўпэўненасць, зазнайства, самахвальства. Вы не можаце адмаўляць, што за апошні час хвастуноў у нас развялося процьма. Не дзіўна, што ў гэтай абстаноўцы вялікіх і сур'езных поспехаў у галіне соцыялістычнага будаўніцтва ствараюцца настроі бахвальства, настроі парадных маніфестацый нашых поспехаў, ствараюцца настроі недаацэнкі сіл нашых ворагаў, настроі пераацэнкі сваіх сіл і, як вынік усяго гэтага,—з'яўляецца палітычная слепата.

Тут я павінен сказаць некалькі слоў аб небяспеках, звязаных з поспехамі, аб небяспеках, звязаных з дасягненнямі.

Аб небяспеках, звязаных з цяжкасцямі, мы ведаем па вопыту. Вось ужо некалькі год вядзем барацьбу з такога роду небяспекамі і, трэба сказаць, не без поспеху. Небяспекі, звязаныя з цяжкасцямі, у людзей нястойкіх параджаюць нярэдка настроі смутку, нявер'я у свае сілы, настроі песімізма. І, наадварот, там, дзе справа ідзе аб тым, каб перамагчы небяспекі, якія выцякаюць з цяжкасцей, людзі загартоўваюцца ў гэтай барацьбе і выходзяць з барацьбы сапраўды цвердакаменнымі большэвікамі. Такава прырода небяспек, звязаных з цяжкасцямі. Такавы рэзультаты пераадалення цяжкасцей.

Але ёсць другога роду небяспекі, небяспекі, звязаныя з поспехамі, небяспекі, звязаныя з дасягненнямі. Так, так, таварышы, небяспекі, звязаныя з поспехамі, з дасягненнямі. Небяспекі гэтыя заключаюцца у тым, што у людзей, мала спрактыкаваных у палітыцы і не вельмі многа бачыўшых, абстаноўка поспехаў—поспех за поспехам, дасягненне за дасягненнем, перавыкананне планаў за перавыкананнем,—параджае настроі бяспечнасці і самаздаволенасці, стварае атмасферу парадных урачыстасцей і ўзаемных прывітанняў, якія забіваюць пачуцце меры і прытупляюць палітычнае чуцце, размагнічвае людзей і штурхае іх на тое, каб спачыць на лаўрах.

Нядзіва, што ў гэтай адурмаючай атмасферы зазнайства і самаздаволенасці, атмасферы парадных маніфестацый і шумлівых самаўсхваленняў людзі забываюць аб некаторых істотных фактах, якія маюць першаступеннае значэнне для лесу нашай краіны, людзі пачынаюць не заўважаць такіх непрыемных фактаў, як капіталістычнае акружэнне, новыя формы шкодніцтва, небяспекі, звязаныя з нашымі поспехамі і т. п. Капіталістычнае акружэнне? Ды гэта-ж глупства! Якое значэнне можа мець нейкае капіталістычнае акружэнне, калі мы выконваем і перавыконваем нашы гаспадарчыя планы? Новыя формы шкодніцтва, барацьба з трацкізмам? Усё гэта пусцякі! Якое значэнне могуць мець усе гэтыя дробязі, калі мы выконваем і перавыконваем

нашы гаспадарчыя планы? Партыйны статут, выбарнасць парторганаў, справаздачнасць партыйных кіраўнікоў перад партыйнай масай? Ды ці ёсць ва ўсім гэтым патрэба? ЦК варта наогул вазіцца з гэтымі дробязямі, калі гаспадарка ў нас расце, а матэрыяльнае становішча рабочых і сялян усё больш і больш паляпшаецца? Глупствы ўсё гэта! Планы перавыконваем, партыя ў нас нядрэнная, ЦК партыі таксама нядрэнны, -якога ражна яшчэ нам трэба? Дзіўныя людзі сядзяць там у Маскве, у ЦК партыі: выдумляюць нейкія пытанні, талкуюць аб нейкім шкодніцтве, самі не спяць, іншым спаць не даюць...

Вось вам наглядны прыклад таго, як легка і «проста» заражаюцца палітычнай слепатою некаторыя нашы нявопытныя таварышы ў рэзультаце галавакружыцельнага захаплення гаспадарчымі поспехамі.

Такавы небяспекі, звязаныя з поспехамі, з дасягненнямі.

Такавы прычыны таго, што нашы партыйныя таварышы, захапіўшыся гаспадарчымі поспехамі, забылі аб фактах міжнароднага і ўнутранага характару, якія маюць істотнае значэнне для Савецкага Саюза, і не заўважылі цэлага раду небяспек, акружаючых нашу краіну.

Такавы карэнні нашай бяспечнасці, забыўчывасці, благадушнасці, палітычнай слепаты.

Такавы карэнні недахопаў нашай гаспадарчай і партыйнай работы.

## V

## Нашы задачы

Як ліквідаваць гэтыя недахопы нашай работы?

Што трэба зрабіць для гэтага?

Неабходна ажыццявіць наступныя мерапрыемствы.

1) Неабходна перш за ўсё павярнуць увагу нашых партыйных таварышоў, якія вязнуць у «бягучых пытаннях» па лініі таго або іншага ведамства,—у бок вялікіх палітычных пытанняў міжнароднага і ўнутранага характару.

2) Неабходна ўзняць палітычную работу нашай партыі на належную вышыню, паставіўшы ў цэнтр увагі задачу палітычнай асветы і большэвіцкай загартоўкі партыйных, савецкіх і гаспадарчых кадраў.

3) Неабходна растлумачваць нашым партыйным таварышам, што гаспадарчыя поспехі, значэнне якіх бясспрэчна вельмі вяліка і якіх мы будзем дабівацца і ў далейшым, з дня ў дзень, з года ў год,—усё-ж не вычэрпваюць усей справы нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Растлумачваць, што ценявыя бакі, якія звязаны з гаспадарчымі поспехамі і выражаюцца ў самаздаволенасці, бяспечнасці, у прытуп-

лечні палітычнага чуцця, могуць быць ліквідаваны толькі ў тым выпадку, калі гаспадарчыя поспехі спалучаюцца з поспехамі партыйнага будаўніцтва і разгорнутай палітычнай работай нашай партыі.

Растлумачваць, што самі гаспадарчыя поспехі, іх трываласць і працяжнасць цалкам і поўнасцю залежаць ад поспехаў партыйна-арганізацыйнай і партыйна-палітычнай работы, што без гэтай умовы гаспадарчыя поспехі могуць аказацца пабудаванымі на пяску.

4) Неабходна памятаць і ніколі не забываць, што капіталістычнае акружэнне з'яўляецца асноўным фактам, які вызначае міжнароднае становішча Совецкага Саюза.

Памятаць і ніколі не забываць, што пакуль ёсць капіталістычнае акружэнне,—будуць і шкоднікі, дыверсанты, шпіёны, тэрарысты, засылаемыя у тылы Совецкага Саюза разведвальнымі органамі замежных дзяржаў, памятаць аб гэтым і весці барацьбу з тымі таварышамі, якія недаацэньваюць значэння факта капіталістычнага акружэння, якія недаацэньваюць сілы і значэння шкодніцтва.

Растлумачваць нашым партыйным таварышам, што ніякія гаспадарчыя поспехі, як-бы яны ні былі вялікі, не могуць ануляваць факта капіталістычнага акружэння і выцякаючых з гэтага факта рэзультатаў.

Прыняць неабходныя меры для таго, каб нашы таварышы, партыйныя і беспартыйныя большэвікі, мелі магчымасць знаёміцца з мэтамі і задачамі, з практыкай і тэхнікай шкодніцка-дыверсійнай і шпіёнскай работы замежных разведвальных органаў.

5) Неабходна растлумачыць нашым партыйным таварышам, што трацкісты, якія прадстаўляюць актыўныя элементы дыверсійна-шкодніцкай і шпіёнскай работы замежных разведвальных органаў, даўно ўжо перасталі быць палітычнаю плынню ў рабочым класе, што яны даўно ўжо перасталі служыць якой-небудзь ідэі, сумяшчальнай з інтарэсамі рабочага класа, што яныператварыліся ў беспрынцыпную і безыдэйную банду шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў, забойцаў, якія працуюць па найму ў замежных разведвальных органаў.

Растлумачыць, што ў барацьбе з сучасным трацкізмам патрэбны цяпер не старыя метады, не метады дыскусій, а новыя метады, метады выкарчоўвання і разгрому.

6) Неабходна растлумачыць нашым партыйным таварышам розніцу паміж сучаснымі шкоднікамі і шкоднікамі шахцінскага перыяда, растлумачыць, што калі шкоднікі шахцінскага перыяда ашуквалі нашых людзей на тэхніцы, выкарыстоўваючы іх тэхнічную адсталасць, то сучасныя шкоднікі, якія маюць партыйны білет, ашукваюць нашых людзей на палітычным давер'і да іх, як да членаў партыі, выкарыстоўваючы палітычную бяспечнасць нашых людзей.

Неабходна дапоўніць стары лозунг аб авалоданні тэхнікай, які адпавядае перыяду шахцінскіх часоў, новым лозунгам аб палітыч-

ным выхаванні кадраў, аб авалоданні большэвізмам і ліквідацыі нашай палітычнай даверчывасці, лозунгам, які зусім адпавядае цяперашняму перажываемаму перыяду.

Могуць запытаць: хіба нельга было год дзесяць таму назад, у перыяд шахцінскіх часоў, даць адразу абодва лозунгі, і першы лозунг аб авалоданні тэхнікай, і другі лозунг аб палітычным выхаванні кадраў? Не, нельга было. Так у нас справы не робяцца ў большэвіцкай партыі. У паваротныя моманты рэвалюцыйнага руху заўсёды высоўваецца адзін які-небудзь асноўны лозунг, як вузлавы, для таго, каб, ухапіўшыся за яго, выцягнуць праз яго ўвесь ланцуг. Ленін так вучыў нас: адшукайце асноўнае звяно ў ланцугу нашай работы, ухапіцеся за яго і выцягвайце яго для таго, каб праз яго выцягнуць увесь ланцуг і ісці наперад. Гісторыя рэвалюцыйнага руху паказвае, што гэта тактыка з'яўляецца адзіна правільнай тактыкай. У шахцінскі перыяд слабасць нашых людзей заключалася ў іх тэхнічнай адсталасці. Не палітычныя, а тэхнічныя пытанні з'яўляліся там нашым слабым месцам. Што датычыць нашых палітычных адносін да тагачасных шкоднікаў, то яны былі зусім ясны, як адносіны большэвікоў да палітычна чужых людзей. Гэту нашу тэхнічную слабасць мы ліквідавалі тым, што далі лозунг аб авалоданні тэхнікай і выхавалі за мінулы перыяд дзесяткі і сотні тысяч тэхнічна падкаваных большэвіцкіх кадраў. Іншая справа цяпер, калі мы маем ужо тэхнічна падкаваныя большэвіцкія кадры і калі ў ролі шкоднікаў выступаюць не адкрыта чужыя людзі, якія не маюць к таму-ж ніякіх тэхнічных пераваг у параўнанні з нашымі людзьмі, а людзі, якія маюць партыйны білет і карыстаюцца ўсімі правамі членаў партыі. Цяпер слабасць нашых людзей складае не тэхнічная адсталасць, а палітычная бяспечнасць, сляпое давер'е да людзей, выпадкова атрымаўшых партыйны білет, адсутнасць праверкі людзей не па іх палітычных дэкларацыях, а па рэзультатах іх работы. Цяпер вузлавым пытаннем для нас з'яўляецца не ліквідацыя тэхнічнай адсталасці нашых кадраў, бо яна ў асноўным ужо ліквідавана, а ліквідацыя палітычнай бяспечнасці і палітычнай даверчывасці да шкоднікаў, выпадкова атрымаўшых партыйны білет.

Такава карэнная розніца паміж вузлавым пытаннем у справе барацьбы за кадры ў перыяд шахцінскіх часоў і вузлавым пытаннем цяперашняга перыяда.

Вось чаму мы не маглі і не павінны былі даваць год дзесяць таму назад адразу абодва лозунгі, і лозунг аб авалодванні тэхнікай, і лозунг аб палітычным выхаванні кадраў.

Вось чаму стары лозунг аб авалоданні тэхнікай неабходна цяпер дапоўніць новым лозунгам аб авалоданні большэвізмам, аб палітычным выхаванні кадраў і ліквідацыі нашай палітычнай бяспечнасці.

7) Неабходна разбіць і адкінуць прэч гнілую тэорыю аб тым, што

з кожным нашым прасоўваннем наперад класавая барацьба ў нас павінна нібыта ўсё больш і больш затухаць, што па меры нашых поспехаў класавы вораг становіцца нібыта ўсё больш і больш ручным.

Гэта—не толькі гнілая тэорыя, але і небяспечная тэорыя, бо яна ўсыпляе нашых людзей, заводзіць іх у пастку, а класаваму ворагу дае магчымасць аправіцца для барацьбы з савецкаю ўладай.

Наадварот, чым больш будзем прасоўвацца наперад, чым больш будзем мець поспехаў, тым больш будуць азлабляцца астаткі разбітых эксплаататарскіх класаў, тым хутчэй будуць яны ісці на больш вострыя формы барацьбы, тым больш яны будуць пакасціць савецкай дзяржаве, тым больш яны будуць хапацца за самыя адчайныя сродкі барацьбы, як апошнія сродкі асуджаных.

Трэба мець на ўвазе, што астаткі разбітых класаў у СССР не адзінокі. Яны маюць прамое падтрыманне з боку нашых ворагаў за межамі СССР. Памылкова было-б думаць, што сфера класавай барацьбы абмежавана граніцамі СССР. Калі адзін канец класавай барацьбы мае свае дзеянне ў рамках СССР, то другі яе канец працягваецца ў межы акружаючых нас буржуазных дзяржаў. Аб гэтым не могуць не ведаць астаткі разбітых класаў. І іменна таму, што яны аб гэтым ведаюць, яны будуць і ў далейшым прадаўжаць свае адчайныя вылазкі.

Так вучыць нас гісторыя. Так вучыць нас ленінізм.

Неабходна памятаць усё гэта і быць на-чаку.

8) Неабходна разбіць і адкінуць прэч другую гнілую тэорыю, якая гаворыць аб тым, што не можа быць нібыта шкоднікам той, хто не заўсёды шкодзіць і хто хоць калі-небудзь паказвае поспехі ў сваёй рабоце.

Гэта дзіўная тэорыя выкрывае наіўнасць яе аўтараў. Ні адзін шкоднік не будзе ўвесь час шкодзіць, калі ён не хоча быць выкрытым у самы кароткі тэрмін. Наадварот, сапраўдны шкоднік павінен час ад часу паказваць поспехі ў сваёй рабоце, бо гэта адзіны сродак захавацца яму, як шкодніку, уцерціся ў давер'е і прадаўжаць сваю шкодніцкую работу.

Я думаю, што пытанне гэта ясна і не мае патрэбы ў далейшых тлумачэннях.

9) Неабходна разбіць і адкінуць прэч трэцюю гнілую тэорыю, якая гаворыць аб тым, што сістэматычнае выкананне гаспадарчых планаў зводзіць нібыта на нішто шкодніцтва і рэзультаты шкодніцтва.

Падобная тэорыя можа мець толькі адну мэту: пакасытаць ведамственую самалюбнасць нашых работнікаў, супакоіць іх і аслабіць іх барацьбу са шкодніцтвам.

Што значыць—«сістэматычнае выкананне нашых гаспадарчых планаў»?

Па-першае, даказана, што ўсе нашы гаспадарчыя планы з'яўляюцца заніжанымі, бо яны не ўлічваюць велізарных рэзерваў і магчымасцей, якія тояцца ў нетрах нашай народнай гаспадаркі.

Па-другое, сумарнае выкананне гаспадарчых планаў па наркаматах у цэлым яшчэ не значыць, што па некаторых вельмі важных галінах таксама выконваюцца планы. Наадварот, факты гавораць, што цэлы рад наркаматаў, выканаўшых і нават перавыканаўшых гадавыя гаспадарчыя планы, сістэматычна не выконвае планаў па некаторых вельмі важных галінах народнай гаспадаркі.

Па-трэцяе, не можа быць сумнення ў тым, што калі-б шкоднікі не былі выкрыты і выкінуты вон, з выкананнем гаспадарчых планаў справа абстаяла-б куды горш, аб чым трэба было-б памятаць блізарукім аўтарам разбіраемай тэорыі.

Па-чацвёртае, шкоднікі звычайна прыўрочваюць галоўную сваю шкодніцкую работу не да перыяда мірнага часу, а да перыяду пярэдадня вайны ці самой вайны. Дапусцім, што мы сталі-б убаюкваць сябе гнілой тэорыяй аб «сістэматычным выкананні гаспадарчых планаў» і не чапалі-б шкоднікаў. Ці ўяўляюць аўтары гэтай гнілой тэорыі, якую каласальную шкоду нанеслі-б нашай дзяржаве шкоднікі ў выпадку вайны, калі-б далі ім застацца ў нетрах нашай народнай гаспадаркі пад сенню гнілой тэорыі аб «сістэматычным выкананні гаспадарчых планаў».

Ці не ясна, што тэорыя аб «сістэматычным выкананні гаспадарчых планаў» ёсць тэорыя, выгадная для шкоднікаў?

10) Неабходна разбіць і адкінуць прэч чацвёртую гнілую тэорыю, якая гаворыць аб тым, што стаханаўскі рух з'яўляецца быццам асноўным сродкам ліквідацыі шкодніцтва.

Гэта тэорыя выдумана для таго, каб пад шумок балбатні аб стаханаўцах і стаханаўскім руху адвесці ўдар ад шкоднікаў. Таварыш Молатаў у сваім дакладзе дэманстраваў цэлы рад фактаў, якія гавораць аб тым, як трацкісцкія і не-трацкісцкія шкоднікі ў Кузбасе і Донбасе, злоўжываючы давер'ем нашых палітычна бяспечных таварышоў, сістэматычна вадзілі за нос стаханаўцаў, ставілі ім палкі ў калёсы, штучна стваралі цэлы рад перашкод для іх паспяховай работы і дабіліся, нарэшце, таго, што разладзілі іх работу. Што могуць зрабіць адны толькі стаханаўцы, калі шкодніцкае вядзенне капітальнага будаўніцтва, скажам, у Донбасе прывяло да разрыву паміж падрыхтоўчымі работамі па здабычы вугалю, якія адстаюць ад тэмпаў, і ўсімі іншымі работамі? Ці не ясна, што сам стаханаўскі рух мае патрэбу ў рэальнай дапамозе з нашага боку супроць усіх і ўсякіх махінацый шкоднікаў для таго, каб рушыць наперад справу і выканаць сваю вялікую місію? Ці не ясна, што барацьба са шкодніцтвам, барацьба за ліквідацыю шкодніцтва, абузданне шкодніцтва з'яўляецца

ўмовай, неабходнай для таго, каб стаханаўскі рух мог разгарнуцца ва ўсю шыр?

Я думаю, што пытанне гэта таксама ясна і не мае патрэбы ў далейшых тлумачэннях.

11) Неабходна разбіць і адкінуць прэч пятую гнілую тэорыю, якая гаворыць аб тым, што ў трацкісцкіх шкоднікаў няма нібыта больш рэзерваў, што яны дабіраюць нібыта свае апошнія кадры.

Гэта няверна, таварышы. Такую тэорыю маглі выдумаць толькі наіўныя людзі. У трацкісцкіх шкоднікаў ёсць свае рэзервы. Яны складаюцца перш за ўсё з астаткаў разбітых эксплаататарскіх класаў у СССР. Яны складаюцца з цэлага раду груп і арганізацый за межамі СССР, варожых Совецкаму Саюзу.

Узяць, напрыклад, трацкісцкі контррэвалюцыйны IV інтэрнацыянал, які складаецца на дзве трэці са шпіёнаў і дыверсантаў. Чым гэта не рэзерв? Хіба не ясна, што гэты шпіёнскі інтэрнацыянал будзе вылучаць кадры для шпіёнска-шкодніцкай работы трацкістаў?

Або яшчэ, узяць, напрыклад, групу прайдзісвета Шэфло ў Нарвегіі, якая прытуліла ў сябе обер-шпіёна Троцкага і дапамагала яму пакасціць Совецкаму Саюзу. Чым гэта група не рэзерв? Хто можа адмаўляць, што гэта контррэвалюцыйная група будзе і надалей аказваць паслугі трацкісцкім шпіёнам і шкоднікам?

Або яшчэ, узяць, напрыклад, другую групу такога-ж прайдзісвета, як Шэфло, групу Суварына ва Францыі. Чым яна не рэзерв? Хіба можна адмаўляць, што гэта група прайдзісветаў таксама будзе дапамагаць трацкістам у іх шпіёнска-шкодніцкай рабоце супроць Совецкага Саюза?

А ўсе гэтыя паны з Германіі, усякія там Рут Фішэры, Маславы, Урбансы, прадаўшыя душу і цела фашыстам,—чым яны не рэзерв для трацкісцкай шпіёнска-шкодніцкай работы?

Або, напрыклад, вядомая арда пісьменнікаў з Амерыкі на чале з вядомым жулікам Істменам, усе гэтыя разбойнікі пяра, якія тым і жывуць, што паклёпнічаюць на рабочы клас СССР,—чым яны не рэзерв для трацкізма?

Не, трэба адкінуць прэч гнілую тэорыю аб тым, што трацкісты дабіраюць нібыта апошнія кадры.

12) Нарэшце, неабходна разбіць і адкінуць прэч яшчэ адну гнілую тэорыю, якая гаворыць аб тым, што паколькі нас, большэвікоў, многа, а шкоднікаў мала, паколькі нас, большэвікоў, падтрымліваюць дзесяткі мільёнаў людзей, а трацкісцкіх шкоднікаў толькі адзінкі і дзесяткі, то мы, большэвікі, маглі-б і не звяртаць увагі на нейкую там кучку шкоднікаў.

Гэта няверна, таварышы. Гэта больш чым дзіўная тэорыя прыдумана для таго, каб уцешыць некаторых нашых кіруючых таварышоў,

якія правaліліся на рабоце з прычыны іх няўмення змагацца са шкодніцтвам, і ўсыпіць іх пільнасць, даць ім спакойна спаць.

Што трацкісцкіх шкоднікаў падтрымліваюць адзінкі, а бальшэвікоў дзесяткі мільёнаў людзей—гэта, вядома, верна. Але з гэтага зусім не следуе, што шкоднікі не могуць нанесці нашай справе сур'ёзнейшую шкоду. Для таго, каб напакасціць і нашкодзіць, для гэтага зусім не патрэбна вялікая колькасць людзей. Каб пабудаваць Днепрабуд, трэба пусціць у ход дзесяткі тысяч рабочых. А каб яго узарваць, для гэтага патрэбна можа быць некалькі дзесяткаў чалавек, не больш. Каб выйграць бой ў час вайны, для гэтага можа патрабавацца некалькі карпусоў чырвонаармейцаў. А для таго, каб праваліць гэты выйгрыш на фронце, для гэтага даволі некалькі чалавек шпіёнаў дзе-небудзь у штабе арміі, або нават у штабе дывізіі, якія могуць выкрасці аператыўны план і перадаць яго праціўніку. Каб пабудаваць вялікі чыгуначны мост, для гэтага патрабуюцца тысячы людзей. Але каб яго узарваць, на гэта даволі ўсяго некалькі чалавек. Такіх прыкладаў можна было-б прывесці дзесяткі і сотні.

Стала быць, нельга ўцяшаць сябе тым, што нас многа, а іх, трацкісцкіх шкоднікаў, мала.

Трэба дабіцца таго, каб іх, трацкісцкіх шкоднікаў, не было зусім у нашых радах.

Так абстаіць справа з пытаннем аб тым, як ліквідаваць недахопы нашай работы, агульныя для ўсіх нашых арганізацый, як гаспадарчых і совецкіх, так і адміністрацыйных і партыйных.

Такавы меры, неабходныя для таго, каб ліквідаваць гэтыя недахопы.

Што датычыць спецыяльна партыйных арганізацый і недахопаў у іх рабоце, то аб мерах ліквідацыі гэтых недахопаў даволі падрабязна гаворыцца ў прадстаўляемым на ваша ўгледжанне праекце рэзалюцыі. Я думаю, таму, што няма неабходнасці многа гаварыць тут аб гэтым баку справы.

Хацелася-б толькі сказаць некалькі слоў па пытанню аб палітычнай падрыхтоўцы і ўдасканаленні нашых партыйных кадраў.

Я думаю, што калі-б мы змаглі, калі-б мы здолелі нашы партыйныя кадры, знізу да верху, падрыхтаваць ідэалагічна і загартаваць іх палітычна такім чынам, каб яны маглі свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, калі-б мы здолелі зрабіць іх зусім зрэлымі ленінцамі, марксістамі, здольнымі вырашаць без сур'ёзных памылак пытанні кіраўніцтва краінай, то мы вырашылі-б гэтым дзевяць дзесятых усіх нашых задач.

Як абстаіць справа з кіруючым складам нашай партыі?

У складзе нашай партыі, калі мець на ўвазе яе кіруючыя слаі, есць каля 3—4 тысяч вышэйшых кіраўнікоў. Гэта, я-б сказаў,—генералітэт нашай партыі.



Далей ідуць 30—40 тысяч сярэдніх кіраўнікоў. Гэта—наша партыйнае афіцэрства.

Далей ідуць каля 100—150 тысяч ніжэйшага партыйнага каманднага складу. Гэта, так сказаць, наша партыйнае унцер-афіцэрства.

Узняць ідэалагічны ўзровень і палітычную загартоўку гэтых камандных кадраў, уліць у гэтыя кадры свежыя сілы, якія чакаюць свайго вылучэння, і расшырыць такім чынам склад кіруючых кадраў,—вось задача.

Што патрабуецца для гэтага?

Перш за ўсё неабходна прапанаваць нашым партыйным кіраўнікам, ад сакратароў ячэек да сакратароў абласных і рэспубліканскіх партыйных арганізацый, падабраць сабе на працягу пэўнага перыяда па два чалавекі, па два партыйныя работнікі, якія здольны быць іх сапраўднымі намеснікамі. Могуць сказаць: а дзе іх дастаць, двух намеснікаў на кожнага, у нас няма такіх людзей, няма адпаведных работнікаў. Гэта няверна, таварышы. Людзей здольных, людзей таленавітых у нас дзесяткі тысяч. Трэба толькі іх ведаць і своечасова вылучаць, каб яны не перастойвалі на старым месцы і не пачыналі гніць. Шукайце і знойдзеце.

Далей. Для партыйнага абучэння і перападрыхтоўкі сакратароў ячэек неабходна стварыць у кожным абласным цэнтры чатырохмесячныя «Партыйныя курсы». На гэтыя курсы трэба накіроўваць сакратароў усіх пярвічных партыйных арганізацый (ячэек), а потым, пасля праходжання курсаў і звароту іх на месца,—іх намеснікаў і найбольш здольных членаў пярвічных партарганізацый.

Далей. Для палітычнай перападрыхтоўкі першых сакратароў раённых арганізацый неабходна стварыць па СССР, скажам, у 10 найбольш важных цэнтрах, васьмімесячныя «Ленінскія курсы». На гэтыя курсы трэба накіроўваць першых сакратароў раённых і акруговых партыйных арганізацый, а потым, пасля праходжання курсаў і звароту іх на месца,—іх намеснікаў і найбольш здольных членаў раённых і акруговых арганізацый.

Далей. Для ідэалагічнай перападрыхтоўкі і палітычнага ўдасканалення сакратароў гарадскіх арганізацый неабходна стварыць пры ЦК ВКП(б) шасцімесячныя «Курсы па гісторыі і палітыцы партыі». На гэтыя курсы трэба накіроўваць першых ці другіх сакратароў гарадскіх арганізацый, а потым, пасля праходжання курсаў і звароту іх на месца, найбольш здольных членаў гарадскіх арганізацый.

Нарэшце, неабходна стварыць пры ЦК ВКП(б) шасцімесячную «Нараду па пытаннях унутранай і міжнароднай палітыкі». Сюды трэба накіроўваць першых сакратароў абласных і краявых арганізацый і цэнтральных камітэтаў нацыянальных комуністычных партый. Гэтыя таварышы павінны даць не адну, а некалькі змен, якія могуць

замяніць кіраўнікоў Цэнтральнага Камітэта нашай партыі. Гэта неабходна і гэта павінна быць сроблена.

Я канчаю, таварышы.

Мы пералічылі, такім чынам, асноўныя недахопы нашай работы, як тыя, якія агульны для ўсіх нашых арганізацый, гаспадарчых, адміністрацыйных, партыйных, так і тыя, якія ўласцівы толькі спецыяльна партыйным арганізацыям, недахопы, якія выкарыстоўваюцца ворагамі рабочага класа для сваей дыверсійна-шкодніцкай і шпіёнска-тэрарыстычнай работы.

Мы намецілі, далей, асноўныя мерапрыемствы, неабходныя для таго, каб ліквідаваць гэтыя недахопы і абясшкодзіць дыверсійна-шкодніцкія і шпіенска-тэрарыстычныя вылазкі трацкісцка-фашысцкіх агентаў замежных разведвальных органаў.

Паустае пытанне, ці можам ажыццявіць усе гэтыя мерапрыемствы, ці ёсць у нас для гэтага ўсе неабходныя магчымасці?

Безумоўна, можам. Можам, бо ў нас ёсць у нашым распараджэнні ўсе сродкі, неабходныя для таго, каб ажыццявіць гэтыя мерапрыемствы.

Чаго-ж нехапае ў нас?

Нехапае толькі аднаго: гатоўнасці ліквідаваць сваю ўласную бяспечнасць, сваю ўласную благадушнасць, сваю ўласную палітычную блізарукасць.

У гэтым загвоздка.

Але няўжо-ж мы не здолеем расправіцца з гэтай смешнай і ідыецкай хваробай, мы, якія скінулі капіталізм, пабудавалі ў асноўным сацыялізм і ўзнялі вялікі сцяг сусветнага комунізма?

У нас няма падстаў сумнявацца ў тым, што безумоўна расправімся з ёю, калі, вядома, захочам гэтага. Расправімся не проста, а па-большэвіцку, па-сапраўднаму.

І калі мы расправімся з гэтай ідыецкай хваробай, мы можам сказаць з поўнай упэўненасцю, што нам не страшны ніякія ворагі, ні унутраныя, ні знешнія, нам не страшны іх вылазкі, бо мы будзем іх разбіваць у будучым так сама, як разбіваем іх у сучасным, як разбівалі іх у мінулым. **(Апладысменты).**

# Заключнае слова таварыша Сталіна на Пленуме ЦК ВКП(б) 5 сакавіка 1937 года

Таварышы!

Я гаварыў у сваім дакладзе аб асноўных пытаннях абмяркоўваемай справы. Спрэчкі паказалі, што ў нас есць цяпер поўная яснасць, есць разуменне задач і ёсць гатоўнасць ліквідаваць недахопы нашай работы. Але спрэчкі паказалі таксама, што ёсць некаторыя канкрэтныя пытанні нашай арганізацыйна-палітычнай практыкі, па якіх няма яшчэ ў нас зусім яснага разумення. Такіх пытанняў я налічыў сем.

Дазвольце сказаць некалькі слоў аб гэтых пытаннях.

1) Цяпер, трэба думаць, усе зразумелі, усвядомілі, што празмернае захапленне гаспадарчымі кампаніямі і гаспадарчымі поспехамі пры недаацэнцы і забыцці партыйна-палітычных пытанняў—вядзе да тупіка. Неабходна, стала быць, павярнуць увагу работнікаў у бок партыйна-палітычных пытанняў з тым, каб поспехі гаспадарчыя спалучаліся і ішлі побач з поспехамі партыйна-палітычнай работы.

Як практычна ажыццявіць задачу ўзмацнення партыйна-палітычнай работы, задачу вызвалення партыйных арганізацый ад гаспадарчых дробязей? Як відаць са спрэчак, некаторыя таварышы схільны рабіць з гэтага няправільны вывад аб тым, што цяпер прыдзецца быццам-бы адыйсці зусім ад гаспадарчай работы. Па крайняй меры былі галасы: ну, цяпер, дзякуй богу, вызвалімся ад гаспадарчых спраў, цяпер можна заняцца і партыйна-палітычнай работай. Ці правільны гэты вывад? Не, няправільны. Калі нашы партыйныя таварышы, захапляючыся гаспадарчымі поспехамі, адыходзілі ад палітыкі, гэта была крайнасць, каштаваўшая нам вялікіх афяр. Калі цяпер некаторыя нашы таварышы, беручыся за ўзмацненне партыйна-палітычнай работы, уздумаюць адыйсці ад гаспадаркі, то гэта будзе другая крайнасць, якая будзе нам каштаваць не меншых афяр. Нельга шарахацца ад адной крайнасці да другой. Нельга аддзяляць палітыку ад гаспадаркі. Мы не можам адыйсці ад гаспадаркі так сама, як не можам адыйсці ад палітыкі. Для зручнасці вывучэння людзі звычайна аддзяляюць метадалагічна пытанні гаспадаркі ад пытанняў палітыкі. Але тэта робіцца толькі метадалагічна, штучна, толькі для зручнасці вывучэння. У жыцці, наадварот, на практыцы палітыка і гаспа-

дарка неаддзельны. Яны існуюць разам і дзейнічаюць разам. І той, хто думае ў нашай практычнай палітыцы аддзяліць гаспадарку ад палітыкі, узмацніць гаспадарчую работу цаной умалення палітычнай работы, ці, наадварот, узмацніць палітычную работу цаной умалення гаспадарчай работы,—той абавязкова пападае ў тупік.

Сэнс вядомага пункта праекта рэзалюцыі аб вызваленні партыйных арганізацый ад гаспадарчых дробязей і ўзмацненне партыйна-палітычнай работы заключаецца не ў тым, каб адыйсці ад гаспадарчай работы і гаспадарчага кіраўніцтва, а ўсяго толькі ў тым, каб не дапускаць больш практыкі падмены і абязлічання гаспадарчых органаў, у тым ліку і асабліва зямельных органаў, нашымі партыйнымі арганізацыямі. Неабходна, стала быць, усвоіць метад большэвіцкага кіраўніцтва гаспадарчымі органамі, які заключаецца ў тым, каб сістэматычна дапамагаць гэтым органам, сістэматычна умацоўваць іх і кіраваць гаспадаркай не паміма гэтых органаў, а праз іх. Трэба даць гаспадарчым органам і перш за ўсё зямельным органам лепшых людзей, трэба ўкамплектаваць гэтыя органы новымі лепшымі работнікамі, здольнымі выконваць ускладзеныя на іх задачы. Толькі пасля таго, як будзе прароблена гэта работа, можна будзе разлічваць на тое, што партыйныя арганізацыі будуць поўнасцю вызвалены ад гаспадарчых дробязей. Зразумела, што справа гэта сур'ёзная і патрабуе вядомага часу. Але пакуль гэта не зроблена, партыйным арганізацыям прыдзецца і ў далейшым, на пэўна кароткі тэрмін, займацца ўшчыльную сельскагаспадарчымі справамі з усімі іх дробязямі, ворывам, сяўбой, уборкай і т. д.

2) Два словы аб шкодніках, дыверсантах, шпіёнах і т. д. Цяпер, я думаю, ясна для ўсіх, што цяперашнія шкоднікі і дыверсанты, якім-бы сцягам яны ні маскаваліся, трацкісцкім ці бухарынскім, даўно ўжо перасталі быць палітычнай плынню ў рабочым руху, што яны ператварыліся ў беспрынцыпную і безыдэйную банду прафесіянальных шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў, забойцаў. Зразумела, што гэтых паноў прыдзецца граміць і карчаваць бязлітасна, як ворагаў рабочага класа, як здраднікаў нашай радзіме. Гэта ясна і не патрабуе далейшых тлумачэнняў.

Але вось пытанне: як практычна ажыццявіць задачу разгрому і выкарчоўвання япона-германскіх агентаў трацкізма? Ці значыць гэта, што трэба біць і выкарчоўваць не толькі сапраўдных трацкістаў, але і тых, якія калісьці хісталіся ў бок трацкізма, а потым, даўно ўжо, адыйшлі ад трацкізма, не толькі тых, якія сапраўды з'яўляюцца трацкісцкімі агентамі шкодніцтва, але і тых, якія мелі калісьці выпадак прайсці па вуліцы, па якой некалі праходзіў той або іншы трацкіст? Па крайняй меры такія галасы раздаваліся тут на Пленуме. Ці можна лічыць такое тлумачэнне рэзалюцыі правільным? Не, нельга лічыць

правільным. У гэтым пытанні, як і ва ўсіх іншых пытаннях, неабходны індывідуальны, дыферэнцыяваны падыход. Нельга стрыгчы ўсіх пад адзін грэбень. Такі агульны падыход можа толькі пашкодзіць справе барацьбы з сапраўднымі трацкісцкімі шкоднікамі і шпіёнамі.

Сярод нашых адказных таварышоў ёсць некаторая колькасць былых трацкістаў, якія даўно ўжо адыйшлі ад трацкізма і вядуць барацьбу з трацкізмам не горш, а лепш некаторых нашых паважаных таварышоў, не меўшых выпадку хістацца ў бок трацкізма. Было-б неразумна апарочваць цяпер такіх таварышоў.

Сярод нашых таварышоў ёсць і такія, якія ідэалагічна стаялі заўсёды супроць трацкізма, але, не гледзячы на гэта, падтрымлівалі асабістую сувязь з паасобнымі трацкістамі, якую яны не замедлілі ліквідаваць, як толькі стала для іх яснай практычная фізіяномія трацкізма. Не добра, вядома, што яны прарвалі сваю асабістую прыяцельскую сувязь з паасобнымі трацкістамі не адразу, а са спазненнем. Але было-б неразумна валіць такіх таварышоў у адну кучу з трацкістамі.

3) Што значыць—правільна падбіраць работнікаў і правільна расстаўляць іх на рабоце?

Гэта значыць падбіраць работнікаў, па-першае, па палітычнай адзнацы, г. зн. ці заслугоўваюць яны палітычнага давер'я, і, па-другое, па дзелавой адзнацы, г. зн. ці прыгодны яны для такой-то канкрэтнай работы.

Гэта значыць не ператвараць дзелавы падыход у дзяляцкі падыход, калі людзі цікавяцца дзелавымі якасцямі работнікаў, але не цікавяцца іх палітычнай фізіяноміяй.

Гэта значыць, не ператвараць палітычны падыход у адзіны і вычарпальны падыход, калі людзі цікавяцца палітычнай фізіяноміяй работнікаў, але не цікавяцца іх дзелавымі якасцямі.

Ці можна сказаць, што гэта большэвіцкае правіла выконваецца нашымі партыйнымі таварышамі? На жаль, нельга гэтага сказаць. Тут на Пленуме ўжо гаварылі аб гэтым. Але не сказалі ўсяго. Справа ў тым, што гэта выпрабаванае правіла парушаецца ў нашай практыцы скрозь і ўсюды і прытым самым грубым чынам. Часцей за ўсё падбіраюць работнікаў не па аб'ектыўных адзнаках, а па адзнаках выпадковых, суб'ектыўных, абывацельска-мяшчанскіх. Падбіраюць часцей за ўсё так званых знаемых, прыяцеляў, землякоў, асабіста адданых людзей, майстраў па ўсхваленню сваіх шэфаў—безадносна да іх палітычнай і дзелавой прыгоднасці.

Зразумела, што замест кіруючай групы адказных работнікаў атрымліваецца сямейка блізкіх людзей, арцель, члены якой стараюцца жыць у згодзе, не крыўдзіць адзін аднаго, не выносіць смецця з хаты, усхваляць адзін аднаго і час ад часу пасылаць у цэнтр пустапарожнія і моташныя рапарты аб поспехах.

Не цяжка зразумець, што ў такой сямейственай абстаноўцы не можа быць месца ні для крытыкі недахопаў работы, ні для самакрытыкі кіраўнікоў работай.

Зразумела, што такая сямейственая абстаноўка стварае спрыяльнае асяроддзе для вырошчвання падхалімаў, людзей, пазбаўленых пачуцця сваёй годнасці і таму не маючых нічога агульнага з бальшэвізмам.

Узяць, напрыклад, таварышоў Мірзаяна і Вайнова. Першы з іх з'яўляецца сакратаром краявой партыйнай арганізацыі Казахстана, другі—сакратаром Яраслаўскай абласной партыйнай арганізацыі. Гэтыя людзі ў нашым асяроддзі—не апошнія работнікі. А як яны падбіраюць работнікаў? Першы перацягнуў з сабой у Казахстан з Азербайджана і Урала, дзе ён раней працаваў, 30—40 «сваіх» людзей і расставіў іх на адказныя пасты ў Казахстане. Другі перацягнуў з сабой у Яраслаўль з Донбаса, дзе ён раней працаваў, звыш дзесятка таксама «сваіх» людзей і расставіў іх таксама на адказныя пасты. Ёсць, стала быць, свая арцель у таварыша Мірзаяна, ёсць яна і ў таварыша Вайнова. Хіба нельга было падабраць работнікаў з мясцовых людзей, кіруючыся вядомым бальшэвіцкім правілам аб падборы і расстаноўцы людзей? Вядома, можна было-б. Чаму-ж яны гэтага не зрабілі? Таму, што бальшэвіцкае правіла падбору работнікаў выключае магчымасць абывацельска-мяшчанскага падыходу, выключае магчымасць падбору работнікаў па адзнаках сямейственасці і арцельнасці. Апрача таго, падбіраючы ў якасці работнікаў асабіста адданых людзей, гэтыя таварышы хацелі, відаць, стварыць для сябе абстаноўку некаторай незалежнасці як у адносінах мясцовых людзей, так і ў адносінах ЦК партыі. Дапусцім, што таварышы Мірзаян і Вайноў у сілу тых ці іншых акалічнасцей будуць пераведзены з месца цяперашняй іх работы ў якія-небудзь іншыя месцы. Як яны павінны паступаць у такім выпадку ў адносінах сваіх «хвастоў»? Няўжо ім прыйдзецца зноў перацягваць іх у новыя месцы сваёй работы?

Вось да якога абсурду прыводзіць парушэнне бальшэвіцкага правіла аб правільным падборы і расстаноўцы работнікаў.

4) Што значыць—правяраць работнікаў, правяраць выкананне заданняў?

Правяраць работнікаў, гэта значыць правяраць іх не па іх абяцаннях і дэкларацыях, а па рэзультатах іх работы.

Правяраць выкананне заданняў, гэта значыць правяраць іх не толькі ў канцэлярыі і не толькі па фармальных справаздачах, але перш за ўсе правяраць іх на месцы работы па фактычных рэзультатах выканання.

Ці патрэбна наогул такая праверка? Безумоўна, патрэбна. Патрэбна, па-першае, таму, што толькі такая праверка дае магчы-

масць распазнаць работніка, вызначыць яго сапраўдныя якасці. Патрэбна, па-другое, таму, што толькі такая праверка дае магчымасць вызначыць вартасці і недахопы выканаўчага апарата. Патрэбна, па-трэцяе, таму, што толькі такая праверка дае магчымасць вызначыць вартасці і недахопы саміх заданняў.

Некаторыя таварышы думаюць, што правяраць людзей можна толькі зверху, калі кіраўнікі правяраюць кіруемых па рэзультатах іх работы. Гэта няверна. Праверка зверху, вядома, патрэбна, як адна з сапраўдных мер праверкі людзей і праверкі выканання заданняў. Але праверка зверху далёка яшчэ не вычэрпвае ўсей справы праверкі. Існуе яшчэ другога роду праверка, праверка знізу, калі масы, калі кіруемыя правяраюць кіраўнікоў, адзначаюць іх памылкі і ўказваюць шляхі іх выпраўлення. Гэтага роду праверка з'яўляецца адным з самых сапраўдных спосабаў праверкі людзей.

Партыйныя масы правяраюць сваіх кіраўнікоў на актывах, на канферэнцыях, на з'ездах шляхам заслухоўвання іх справаздач, шляхам крытыкі недахопаў, нарэшце шляхам абрання ці неабрання ў кіруючыя органы тых ці іншых кіруючых таварышоў. Дакладнае правядзенне дэмакратычнага цэнтралізма ў партыі, як гэтага патрабуе статут нашай партыі, безумоўная выбарнасць партыйных органаў, права выстаўлення і адводу кандыдатаў, закрытае галасаванне, свабода крытыкі і самакрытыкі,—усе гэтыя і падобныя ім мерапрыемствы неабходна правесці ў жыцці для таго, між іншым, каб палегчыць праверку і кантроль кіраўнікоў партыі з боку партыйных мас.

Беспартыйныя масы правяраюць сваіх гаспадарчых, прафесіяналісцкіх і іншых кіраўнікоў на беспартыйных актывах, на масавых нарадах ўсякага роду, дзе яны заслухоўваюць справаздачы сваіх кіраўнікоў, крытыкуюць недахопы і намячаюць шляхі іх выпраўлення.

Нарэшце, народ правярае кіраўнікоў краіны ў час выбараў у органы ўлады Савецкага Саюза шляхам усеагульнага, роўнага, прамога і тайнага галасавання.

Задача заключаецца ў тым, каб злучыць праверку зверху з праверкай знізу.

5) Што значыць—навучаць кадры на іх уласных памылках?

Ленін вучыў, што добрасумленнае ўскрыццё памылак партыі, вывучэнне прычын, парадзіўшых гэтыя памылкі, і намячэнне шляхоў, неабходных для выпраўлення гэтых памылак, з'яўляецца адным з вярнейшых сродкаў правільнага навучання і выхавання партыйных кадраў, правільнага навучання і выхавання рабочага класа і працоўных мас. Ленін гаворыць:

> «Адносіны палітычнай партыі да яе памылак ёсць адзін з важнейшых і вярнейшых крытэрыяў сур'ёзнасці партыі і выканання ёю на справе яе абавязкаў да свайго класа і да працоўных мас. Адкрыта прызнаць памылку, ускрыць яе прычыны, пра-

аналізаваць абстаноўку, яе парадзіўшую, абмеркаваць уважліва сродкі выправіць памылку—вось гэта адзнака сур'ёзнай партыі, вось гэта выкананне ёю сваіх абавязкаў, вось гэта—выхаванне і навучанне класа, а затым і масы».

Гэта значыць, што абавязкам большэвікоў з'яўляецца не замазванне сваіх памылак, не ўвільванне ад пытання аб іх памылках, як гэта бывае ў нас часта, а чэснае і адкрытае прызнанне сваіх памылак, чэснае і адкрытае намячэнне шляхоў для выпраулення гэтых памылак, чэснае і адкрытае выпраўленне сваіх памылак.

Я-б не сказаў, каб многія з нашых таварышоў з прыемнасцю пайшлі на гэту справу. Але большэвікі, калі яны сапраўды хочуць быць большэвікамі, павінны знайсці ў сабе мужнасць адкрыта прызнаць свае памылкі, ускрыць іх прычыны, намеціць шляхі іх выпраўлення і тым дапамагчы партыі даць кадрам правільнае навучанне і правільнае палітычнае выхаванне. Бо толькі на гэтым шляху, толькі ў абстаноўцы адкрытай і чэснай самакрытыкі можна выхаваць сапраўды большэвіцкія кадры, можна выхаваць сапраўдных большэвіцкіх лідэраў.

Два прыклады, якія дэманструюць правільнасць палажэння Леніна.

Узяць, напрыклад, нашы памылкі з калгасным будаўніцтвам. Вы памятаеце, мабыць, 1930 год, калі нашы партыйныя таварышы думалі вырашыць найскладанейшае пытанне пераводу сялянства на калгаснае будаўніцтва ў якія-небудзь 3—4 месяцы і калі Цэнтральны Камітэт партыі аказаўся вымушаным асадзіць захапляючыхся таварышоў. Гэта быў адзін з самых небяспечных перыядаў у жыцці нашай партыі. Памылка заключалася ў тым, што нашы партыйныя таварышы забылі аб добраахвотнасці калгаснага будаўніцтва, забылі, што нельга пераводзіць сялян на калгасны шлях шляхам адміністрацыйнага націску, забылі, што калгаснае будаўніцтва патрабуе не некалькіх месяцаў, а некалькіх год старанная і прадуманай работы. Яны забылі аб гэтым і не хацелі прызнаваць сваіх памылак. Вы памятаеце, мабыць, што ўказанне ЦК аб галавакружэнні ад поспехаў і аб тым, каб нашы таварышы на месцах не забягалі наперад, ігнаруючы рэальную абстаноўку,—было сустрэнута ў штыкі. Але гэта не ўтрымала ЦК ад таго, каб пайсці супроць цячэння і павярнуць нашых партыйных таварышоў на правільны шлях. І што-ж? Цяпер ясна для ўсіх, што партыя дабілася свайго, павярнуўшы нашых партыйных таварышоў на правільны шлях. Зараз у нас ёсць дзесяткі тысяч выдатных кадраў з сялян па калгаснаму будаўніцтву і калгаснаму кіраўніцтву. Гэтыя кадры выраслі і выхаваліся на памылках 1930 года. Але гэтых кадраў не было-б у нас цяпер, калі-б партыя не ўсвядоміла тады сваіх памылак і не выправіла іх своечасова.

Другі прыклад ужо з галіны прамысловага будаўніцтва. Я маю на ўвазе нашы памылкі ў перыяд шахцінскага шкодніцтва. Нашы па-

мылкі заключаліся ў тым, што мы не ўлічвалі усей небяспекі тэхнічнай адсталасці нашых кадраў у прамысловасці, мы мірыліся з гэтай адсталасцю і думалі разгарнуць шырокае соцыялістычнае прамысловае будаўніцтва пры дапамозе варожа настроеных спецыялістаў, асуджаючы нашы гаспадарчыя кадры на ролю дрэнных камісараў пры буржуазных спецыялістах. Вы памятаеце, мабыць, як неахвотна прызнавалі тады нашы гаспадарчыя кадры свае памылкі, як неахвотна прызнавалі яны сваю тэхнічную адсталасць і да чаго туга ўсвоівалі яны лозунг—«аўладаць тэхнікай». І што-ж? Факты паказваюць, што лозунг «аўладаць тэхнікай» узымеў свае дзеянне і даў свае добрыя рэзультаты. Цяпер у нас есць дзесяткі і сотні тысяч выдатных большэвіцкіх гаспадарчых кадраў, якія ўжо аўладалі тэхнікай і рухаюць наперад нашу прамысловасць. Але гэтых кадраў не было-б у нас цяпер, калі-б партыя спасавала перад ўпартасцю гаспадарнікаў, не жадаўшых прызнаць сваю тэхнічную адсталасць, калі-б партыя не ўсвядоміла тады сваіх памылак і не выправіла іх своечасова.

Некаторыя таварышы´гавораць, што немэтазгодна гаварыць адкрыта аб сваіх памылках, бо адкрытае прызнанне сваіх памылак можа быць расцэнена нашымі ворагамі, як наша слабасць, і можа быць скарыстана імі. Гэта пусцякі, таварышы, сапраўдныя пусцякі. Адкрытае прызнанне нашых памылак і чэснае іх выпраўленне, наадварот, можа толькі ўзмацніць нашу партыю, узняць аўтарытэт нашай партыі ў вачах рабочых, сялян, працоўнай інтэлігенцыі, узняць сілу і магутнасць нашай дзяржавы. А гэта галоўнае. Былі-б з намі рабочыя, сяляне, працоўная інтэлігенцыя, а ўсё астатняе прыложыцца.

Другія таварышы гавораць, што адкрытае прызнанне нашых памылак можа прывесці не да навучання і ўмацавання нашых кадраў, а да іх аслаблення і расстройства, што мы павінны шкадаваць і берагчы свае кадры, што мы павінны шкадаваць іх самалюбства і спакой. Для гэтага яны прапануюць замазваць памылкі нашых таварышоў, аслабіць сілу крытыкі, а яшчэ лепш—прайсці міма гэтых памылак. Такая ўстаноўка з'яўляецца не толькі у корані няправільнай, але і ў вышэйшай ступені небяспечнай, небяспечнай перш за ўсё для кадраў, якіх хочуць «шкадаваць» і «берагчы». Шкадаваць і захаваць кадры пры дапамозе замазвання іх памылак—гэта значыць напэўна загубіць гэтыя самыя кадры. Мы-б напэўна загубілі свае калгасныя большэвіцкія кадры, калі-б не ўскрылі памылак 1930 года і не навучылі іх на гэтых памылках. Мы-б напэўна загубілі свае прамысловыя большэвіцкія кадры, калі-б мы не ўскрылі памылак нашых таварышоў ў перыяд шахцінскага шкодніцтва і не навучылі нашы прамысловыя кадры на гэтых памылках. Хто думае шкадаваць самалюбства нашых кадраў шляхам замазвання іх памылак, той губіць і кадры, і самалюбства кадраў, бо ен замазваннем іх памылак аблягчае паўтарэнне новых, можа быць больш сур'езных памылак, якія, трэба думаць,

прывядуць да поўнага правалу кадраў на шкоду іх «самалюбству» і «спакою».

6) Ленін вучыў нас не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас.

Што гэта значыць?

Гэта значыць, па-першае, што мы, кіраўнікі, не павінны зазнавацца і павінны разумець, што, калі мы з'яўляемся членамі ЦК ці наркомамі, то гэта яшчэ не значыць, што мы маем усе веды, неабходныя для таго, каб правільна кіраваць. Чын сам па сабе не дае ведаў і вопыту. Званне—тым больш.

Гэта значыць, па-другое, што аднаго толькі нашага вопыту кіраўнікоў недастаткова для таго, каб правільна кіраваць, што неабходна, стала быць, дапаўняць свой вопыт, вопыт кіраўнікоў, вопытам мас, вопытам партыйнай масы, вопытам рабочага класа, вопытам народу.

Гэта значыць, па-трэцяе, ні на мінуту не аслабляць, а тым больш не разрываць нашых сувязей з масамі.

Гэта значыць, па-чацвертае, чула прыслухоўвацца да голасу мас, да голасу радавых членаў партыі, да голасу так званых «маленькіх людзей», да голасу народу.

Што значыць правільна кіраваць?

Гэта зусім не значыць сядзець ў канцылярыі і страчыць дырэктывы.

Правільна кіраваць—гэта значыць:

па-першае, знайсці правільнае рашэнне пытання. А правільнае рашэнне немагчыма знайсці без уліку вопыту мас, якія на сваёй уласнай спіне адчуваюць рэзультаты нашага кіраўніцтва;

па-другое, арганізаваць правядзенне ў жыццё правільнага рашэння, чаго, аднак, нельга зрабіць без прамой дапамогі з боку мас;

па-трэцяе, арганізаваць праверку выканання гэтага рашэння, чаго, зноў-такі, немагчыма зрабіць без прамой дапамогі мас.

Мы, кіраўнікі, бачым рэчы, падзеі, людзей толькі з аднаго боку, я-б сказаў—зверху, наша поле зроку, стала быць, больш ці менш абмежавана. Масы, наадварот, бачаць рэчы, падзеі, людзей з другога боку, я-б сказаў—знізу. Іх поле зроку таксама, стала быць, у вядомай ступені абмежавана. Каб атрымаць правільнае рашэнне пытання, трэба аб'яднаць гэтыя два вопыты. Толькі ў такім выпадку кіраўніцтва будзе правільным.

Вось што значыць, не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас.

Два прыклады, якія дэманструюць правільнасць гэтага палажэння Леніна.

Гэта было некалькі год таму назад. Мы, члены ЦК, абмяркоўвалі пытанне аб паляпшэнні становішча ў Донбасе. Праект мерапрыемстваў, прадстаўлены Наркомцяжам, быў яўна нездавальняючы. Тры разы варочалі праект ў Наркомцяж. Тры разы атрымлівалі з Наркомцяжа ўсё розныя праекты. І ўсё-ж нельга было прызнаць іх здаваль-

няючымі. Нарэшце, мы парашылі выклікаць з Донбаса некалькі рабочых і радавых гаспадарчых і прафесіянальных работнікаў. Тры дні гутарылі з гэтымі таварышамі. І ўсе мы, члены ЦК, павінны былі прызнаць, што толькі яны, гэтыя радавыя работнікі, гэтыя «маленькія людзі» здолелі падказаць нам правільнае рашэнне. Вы памятаеце, мабыць, вядомае рашэнне ЦК і Соўнаркома аб мерах узмацнення здабычы вугалю ў Донбасе. Так вось гэта рашэнне ЦК і Соўнаркома, якое прызнана ўсімі нашымі таварышамі правільным і нават славутым рашэннем, падсказалі нам простыя людзі з нізоў.

Другі прыклад. Я маю на ўвазе прыклад з тав. Нікалаенка. Хто такая Нікалаенка? Нікалаенка—гэта радавы член партыі. Яна—звычайны «маленькі чалавек». Цэлы год яна падавала сігналы аб тым, што не ўсё добра ў партыйнай арганізацыі ў Кіеве, выкрывала сямейственасць, мяшчанска-абывацельскі падыход да работнікаў, заціск самакрытыкі, засілле трацкісцкіх шкоднікаў. Ад яе адмахваліся, як ад назойнай мухі. Нарэшце, каб адбіцца ад яе, узялі і выключылі яе з партыі. Ні Кіеўская арганізацыя, ні ЦК КП(б)У не дапамаглі ёй дабіцца праўды. Толькі ўмяшанне Цэнтральнага Камітэта партыі дапамагло разблытаць гэты заблытаны вузел. А што выяснілася пасля разбору справы? Выяснілася, што Нікалаенка была права, а Кіеўская арганізацыя была не права. Ні больш, ні менш. А хто-ж такая Нікалаенка? Яна, вядома, не член ЦК, яна не нарком, яна не сакратар Кіеўскай абласной арганізацыі, яна нават не сакратар якой-небудзь ячэйкі, яна толькі просты радавы член партыі.

Як бачыце, простыя людзі аказваюцца часам куды бліжэй да ісціны, чым некаторыя высокія ўстановы.

Можна было-б прывесці яшчэ дзесяткі і сотні такіх прыкладаў.

Выходзіць, такім чынам, што для кіраўніцтва нашай справай аднаго толькі нашага вопыту, вопыту кіраўнікоў, далёка яшчэ недастаткова. Для таго, каб правільна кіраваць, неабходна вопыт кіраўнікоў дапоўніць вопытам партыйнай масы, вопытам рабочага класа, вопытам працоўных, вопытам так званых «маленькіх людзей».

А калі гэта магчыма?

Гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі кіраўнікі звязаны з масамі цяснейшым чынам, калі яны звязаны з партыйнымі масамі, з рабочым класам, з сялянствам, з працоўнай інтэлігенцыяй.

Сувязь з масамі, умацаванне гэтай сувязі, гатоўнасць прыслухоўвацца да голасу мас, — вось у чым сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва.

Можна прызнаць, як правіла, што пакуль большэвікі захоўваюць сувязь з шырокімі масамі народу, яны будуць непераможнымі, і наадварот, варта большэвікам адарвацца ад мас і страціць сувязь з імі, варта ім пакрыцца бюракратычнай іржою, каб яны пазбавіліся ўсякай сілы і ператварыліся ў пустышку.

У старажытных грэкаў у сістэме іх міфалогіі быў адзін славуты герой—Антэй, які быў, як апавядае міфалогія, сынам Пасейдона—бога мораў і Геі—багіні зямлі. Ён адчуваў асаблівую прывязанасць да мацеры сваёй, якая яго нарадзіла, ускарміла і выхавала. Не было такога героя, якога-б ён не перамог—гэты Антэй. Ён лічыўся непераможным героем. У чым заключалася яго сіла? Яна заключалася ў тым, што кожны раз, калі яму ў барацьбе з праціўнікам прыходзілася туга, ён датыкаўся да зямлі, да сваёй мацеры, якая нарадзіла і ўскарміла яго, і атрымліваў новую сілу. Але ў яго было ўсё-такі сваё слабое месца—гэта небяспека быць якім-небудзь чынам адарваным ад зямлі. Ворагі ўлічвалі гэту яго слабасць і падпільноўвалі яго. І вось знайшоўся вораг, які скарыстаў яго гэту слабасць і перамог яго. Гэта быў Геркулес. Але як ён яго перамог? Ён адарваў яго ад зямлі, падняў яго на паветра, адняў у яго магчымасць датыкацца да зямлі і задушыў яго такім чынам у паветры.

Я думаю, што бальшавікі напамінаюць нам героя грэцкай міфалогіі, Антэя. Яны так сама, як і Антэй, моцны тым, што трымаюць сувязь са сваёй мацерай, з масамі, якія нарадзілі, ускармілі і выхавалі іх. І пакуль яны трымаюць сувязь са сваёй мацерай, з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб астацца непераможнымі.

У гэтым ключ непераможнасці бальшэвіцкага кіраўніцтва.

7) Нарэшце, яшчэ адно пытанне. Я маю на ўвазе пытанне аб фармальных і бяздушна-бюракратычных адносінах некаторых нашых партыйных таварышоў да лёсу паасобных членаў партыі, да пытання аб выключэнні з партыі членаў партыі, або да пытання аб аднаўленні выключаных у правах членаў партыі. Справа ў тым, што некаторыя нашы партыйныя кіраўнікі хварэюць адсутнасцю ўвагі да людзей, да членаў партыі, да работнікаў. Больш таго, яны не вывучаюць членаў партыі, не ведаюць, чым яны жывуць і як яны растуць, не ведаюць наогул работнікаў. Таму ў іх няма індывідуальнага падыходу да членаў партыі, да работнікаў партыі. І іменна таму, што ў іх няма індывідуальнага падыходу пры ацэнцы членаў партыі і партыйных работнікаў, яны звычайна дзейнічаюць наўздагад: або хваляць іх агулам, без меры, або збіваюць іх таксама агулам і без меры, выключаюць з партыі тысячамі і дзесяткамі тысяч. Такія кіраўнікі наогул стараюцца мысліць дзесяткамі тысяч, не клапоцячыся аб «адзінках», аб паасобных членах партыі, аб іх лёсе. Выключыць з партыі тысячы і дзесяткі тысяч людзей яны лічаць пусцяковай справай, цешачы сябе тым, што партыя ў нас двухмільённая, і дзесяткі тысяч выключаных не могуць што-небудзь змяніць у становішчы партыі. Але так могуць падыходзіць да членаў партыі толькі людзі, па сутнасці справы, глыбока антыпартыйныя.

У рэзультаце такіх бяздушных адносін да людзей, да членаў партыі і партыйных работнікаў штучна ствараецца нездавальненне і аз-

лабленне ў адной частцы партыі, а трацкісцкія двурушнікі лоўка падчапляюць такіх азлобленых таварышоў і ўмела цягнуць іх за сабой у балота трацкісцкага шкодніцтва.

Самі па сабе трацкісты ніколі не прадстаўлялі вялікай сілы ў нашай партыі. Успомніце апошнюю дыскусію ў нашай партыі ў 1927 годзе. Гэта быў сапраўдны партыйны рэферэндум. З 854 тысяч членаў партыі галасавала тады 730 тысяч членаў партыі. З іх за большэвікоў, за Цэнтральны Камітэт партыі супроць трацкістаў галасавала 724 тысячы членаў партыі, за трацкістаў 4 тысячы членаў партыі, гэта значыць каля поўпрацанта, і устрымалася 2.600 членаў партыі. Не прыняла ўдзелу ў галасаванні 123 тысячы членаў партыі. Не прынялі яны ўдзелу або таму, што былі ў ад'ездзе, або таму, што былі ў зменах. Калі да 4 тысяч, галасаваўшых за трацкістаў, дадаць усіх устрымаўшыхся,—думаючы, што яны таксама спачувалі трацкістам, і калі да гэтай сумы дадаць не поўпрацанта няўдзельнічаўшых у галасаванні, як гэта трэба было-б зрабіць па правілу, а 5 працантаў няўдзельнічаўшых, гэта значыць, каля 6 тысяч членаў партыі, то атрымаецца каля 12 тысяч членаў партыі, спачуваўшых так або інакш трацкізму. Вось вам уся сіла паноў трацкістаў.

Дадайце да гэтага тую акалічнасць, што многія з гэтага ліку расчараваліся ў трацкізме і адыйшлі ад яго, і вы атрымаеце ўяўленне аб нікчэмнасці трацкісцкіх сіл. І калі, не гледзячы на гэта, трацкісцкія шкоднікі ўсё-ж маюць такія-сякія рэзервы каля нашай партыі, то гэта таму, што няправільная палітыка некаторых нашых таварышоў па пытанню аб выключэнні з партыі і аднаўленні выключаных, бяздушныя адносіны некаторых нашых таварышоў да лёсу паасобных членаў партыі і паасобных работнікаў штучна плодзяць колькасць нездаволеных і азлобленых і ствараюць, такім чынам, трацкістам гэтыя рэзервы.

Выключаюць большай часткай за так званую пасіўнасць. Што такое пасіўнасць? Лічаць, аказваецца, што калі член партыі не засвоіў праграму партыі, то ён пасіўны і падлягае выключэнню. Але гэта-ж няправільна, таварышы. Нельга-ж так па-букваедску тлумачыць статут нашай партыі. Каб засвоіць праграму партыі, трэба быць сапраўдным марксістам, правераным і тэарэтычна падрыхтаваным марксістам. Я не ведаю, ці многа знойдзецца ў нас членаў партыі, якія ужо засвоілі нашу праграму, сталі сапраўднымі марксістамі, тэарэтычна падрыхтаванымі і праверанымі. Калі ісці далей па гэтаму шляху, то нам прышлося-б пакінуць ў партыі толькі інтэлігентаў і наогул людзей вучоных. Каму патрэбна такая партыя? У нас ёсць правераная і вытрымаўшая ўсе іспыты ленінская формула аб членстве ў партыі. Згодна гэтай формуле, членам партыі лічыцца той, хто прызнае праграму партыі, плаціць членскія ўзносы і працуе ў адной з яе арганізацый. Звярніце ўвагу: у ленінскай формуле гаворыцца не аб засва-

енні праграмы, а аб прызнанні праграмы. Гэта дзве зусім розныя рэчы. Няма чаго і даказваць, што праў тут Ленін, а не нашы партыйныя таварышы, якія дарэмна балбочуць аб засваенні праграмы. Яно і зразумела. Калі-б партыя выходзіла з таго, што членамі партыі могуць быць толькі такія таварышы, якія ўжо засвоілі праграму і сталі тэарэтычна падрыхтаванымі марксістамі, то яна не стварала-б у партыі тысячы партыйных гурткоў, сотні партыйных школ, дзе членаў партыі навучаюць марксізму і дапамагаюць ім засвоіць нашу праграму. Зусім ясна, што калі партыя арганізуе такія школы і гурткі сярод членаў партыі, то гэта таму, што яна ведае, што члены партыі не паспелі яшчэ засвоіць партыйную праграму, не паспелі яшчэ стаць тэарэтычна падрыхтаванымі марксістамі.

Стала быць, каб выправіць нашу палітыку па пытанню аб членстве ў партыі і аб выключэнні з партыі, неабходна пакончыць з цяперашнім галавацяпскім талкаваннем пытання аб пасіўнасці.

Але ў нас ёсць яшчэ другая пагрэшнасць у гэтай галіне. Справа ў тым, што нашы таварышы не прызнаюць сярэдзіны паміж двума крайнасцямі. Варта рабочаму, члену партыі, крыху правініцца, спазніцца раз-два на партыйны сход, не заплаціць чаму-небудзь членскіх узносаў, каб яго у момант выкінулі вон з партыі. Не цікавяцца ступенню яго правіннасці, прычынай няяўкі на сход, прычынай неплацяжу членскіх узносаў. Бюракратызм у гэтых пытаннях проста нябачаны. Не цяжка зразумець, што іменна ў рэзультаце такой бяздушнай палітыкі аказалися выкінутымі з партыі выдатныя кадравыя рабочыя, вельмі добрыя стаханаўцы. А хіба нельга было, перш чым выключаць з партыі, зрабіць папярэджанне, калі гэта не дзейнічае— паставіць на від ці вынесці вымову, а калі і гэта не дзейнічае—паставіць тэрмін для выпраўлення ці, у крайнім выпадку, перавесці у кандыдаты, але не выключаць з маху з партыі? Вядома, можна было. Але для гэтага патрэбны ўважлівыя адносіны да людзей, да членаў партыі, да лёсу членаў партыі. А гэтага іменна і нехапае ў некаторых нашых таварышоў.

Час, таварышы, даўно час пакончыць з гэтай агіднасцю. (Апладысменты).

---

# Падрыхтоўка партыйных арганізацый да выбараў у Вярхоўны Совет СССР па новай выбарчай сістэме і адпаведная перабудова партыйна-палітычнай работы

*Даклад тав. Жданава на Пленуме ЦК ВКП(б)*
*26 лютага 1937 года*

### Паварот у палітычным жыцці краіны і нашы задачы

Таварышы, у сувязі з прыняццем новай Канстытуцыі Саюза ССР нам прадстаяць выбары у Вярхоўны Совет СССР і ў советы дэпутатаў працоўных зверху данізу па новай выбарчай сістэме. Перад нашай партыяй высоўваецца задача падрыхтоўкі да выбараў.

Характар гэтай падрыхтоўкі, яе аб'ём, маштаб і звязаная з ей перабудова партыйнай работы вызначаюцца глыбінёй тых пераўтварэнняў, якія выцякаюць з новай Канстытуцыі для палітычнага жыцця нашай краіны.

Увядзенне новай Канстытуцыі азначае паварот у палітычным жыцці краіны. Сутнасць гэтага павароту заключаецца ў далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы у сэнсе замены не зусім роўных выбараў у советы—роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых - закрытымі.

Увядзенне новай Канстытуцыі адкідае ўсякія абмежаванні, існаваўшыя да гэтага часу для так званых лішэнцаў.

Калі раней, да ўвядзення новай Канстытуцыі, выбары ў Советы былі не роўнымі, то цяпер неабходнасць абмежавання роўнасці выбараў адпала, і ўсе грамадзяне маюць права прымаць удзел у выбарах на роўных падставах.

Калі раней выбары сярэдніх і вышэйшых органаў улады былі многаступеннымі, то цяпер, згодна новай Канстытуцыі, выбары ва усе Советы будуць рабіцца ўсімі грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

Калі раней, па старой Канстытуцыі, галасаванне пры выбарах было адкрытым і па спісах, то цяпер, згодна новай Канстытуцыі, галасаванне пры новых выбарах будзе тайным і па асобных кандыдатурах, высоўваемых па выбарчых акругах.

Нарэшце, Канстытуцыяй уводзіцца ўсенароднае апытанне, так званы рэферэндум.

Што азначаюць гэтыя змены ў выбарчай сістэме?

Яны азначаюць узмацненне кантролю мас у адносінах совецкіх органаў і ўзмацненне адказнасці совецкіх органаў у адносінах мас. Новая выбарчая сістэма умацуе сувязь народных абраннікаў з масамі выбаршчыкаў. Яна дасць магутны штуршок да палепшання

работы савецкіх органаў, да ліквідацыі бюракратычных недахопаў і скажэнняў у рабоце нашых савецкіх арганізацый, а гэтыя недахопы, як вы ведаеце, вельмі істотны.

Вынікам увядзення ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні будзе далейшае ўзмацненне палітычнай актыўнасці мас, уцягненне новых пластоў працоўных у работу па кіраванню дзяржавай.

Тым самым дыктатура пролетарыята становіцца больш гібкай і, стала быць, больш магутнай сістэмай дзяржаўнага кіраўніцтва рабочага класа грамадствам, база пролетарскай дыктатуры расшыраецца, яе аснова становіцца больш моцнай.

Ленінізм вучыць:

«Дыктатура пролетарыята мае свае перыяды, свае асобыя формы, рознастайныя метады работы. У перыяд грамадзянскай вайны асабліва б'е ў вочы гвалтоўны бок дыктатуры... У перыяд будаўніцтва соцыялізма, наадварот, асабліва б'е ў вочы мірная, арганізатарская, культурная работа дыктатуры, рэвалюцыйная законнасць і т. д. Але з гэтага зноў-такі зусім не вынікае, што гвалтоўны бок дыктатуры адпаў ці можа адпасці ў перыяд будаўніцтва. Органы падаўлення, армія і іншыя арганізацыі, неабходны цяпер, у момант будаўніцтва, так сама, як у перыяд грамадзянскай вайны. Без наяўнасці гэтых органаў немагчыма колькі-небудзь забяспечаная будаўнічая работа дыктатуры. Не трэба забываць, што рэволюцыя перамагла пакуль што ўсяго толькі ў адной краіне. Не трэба забываць, што пакуль ёсць капіталістычнае акружэнне, будзе і небяспека інтэрвенцыі з усімі выцякаючымі з гэтай небяспекі вынікамі». (Сталін, «К вопросам ленинизма»).

Што побач з мірнымі, арганізатарскімі, культурнымі бакамі нашай дыктатуры не адпала неабходнасць у гвалтоўных яе баках, наглядна паказвае толькі-што абмеркаванае намі пытанне аб справе Бухарына Рыкава. Дыктатуры рабочага класа і ў далейшым прыдзецца бязлітаснай рукой перамагаць супраціўленне астаткаў варожых капіталістычных класаў і агентаў фашысцкай буржуазii— трацкістаў, зіноўеўцаў, правых і іншых ворагаў народу.

Таварыш Сталін вучыў нас, што нам патрэбна моцная і магутная дыктатура рабочага класа для таго, каб развеяць упрах апошнія астаткі паміраючых класаў і разбіць іх зладзейскія махінацыі.

Правядзенне дэмакратычных выбараў—гэта справа вельмі сур'ёзная. Гэта вельмі сур'езны экзамен для нашай партыі у сэнсе праверкі яе сувязі з масамі, працаздольнасці і аўтарытэта нашых партыйных арганізацый у масах. Правядзенне выбараў патрабуе велізарнай напружанасці ўсіх сіл нашай партыі.

Каб сустрэць гэты паварот у палітычным жыцці нашай краіны ва ўсеузбраенні, наша партыя павінна стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць сваю кіруючую ролю ў выбарах вярхоўных органаў краіны.

Што значыць узначаліць і забяспечыць кіруючую ролю партыі ў выбарах вярхоўных органаў? Якія задачы павінна будзе вырашыць партыя?

Перш за ўсё трэба мець на ўвазе, што нашы работнікі будуць мець справу з вядомай навізною становішча. Мы ўпершыню праводзім выбары па новай выбарчай сістэме. У нас няма навыкаў да

выбараў па асобных кандыдатурах, па прынцыпу тайнага галасавання і т. д. Гэта прадстаўляе вядомую цяжкасць для нашых партыйных арганізацый.

Па-другое, узначаліць паварот у палітычным жыцці нашай краіны і кіраваць выбарамі—гэта значыць забяспечыць поўнае захаванне новай выбарчай сістэмы, устаноўленай Канстытуцыяй, г. зн. строга захоўваць прынцып усеагульнага, прамога, роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні. Гэта значыць, што нашы партыйныя арганізацыі павінны ахоўваць, як зрэнку вока, наш новы выбарчы закон ад усякіх парушэнняў.

Па-трэцяе, нашы партыйныя арганізацыі павінны быць гатовы да выбарчай барацьбы. Пры выбарах нам прыдзецца мець справу з варожай агітацыяй і варожымі кандыдатурамі. Што такая магчымасць з'яўляецца рэальнай, відаць з таго, што ўжо зараз мае месца вядомае ажыўленне антысовецкіх элементаў, іменна ў сувязі з надыходзячымі выбарамі. Нашы партыйныя арганізацыі павінны ва ўсеўзбраенні сустрэць спробы варожых элементаў скарыстаць легальныя магчымасці, прадастаўляемыя новай Канстытуцыяй.

Пакуль нашы людзі дрэмлюць і раскачваюцца, ворагі ўжо дзейнічаюць і моцна рыхтуюцца да выбараў.

Па-чацвертае, тайнае і персанальнае галасаванне ў адрозненне ад галасавання адкрытага і па спісах будзе азначаць павышэнне адказнасці партыі за кожную высоўваемую кандыдатуру. Для таго, каб быць абранымі, нашы кандыдаты павінны быць добра вядомы выбаршчыкам той акругі, дзе яны будуць высунуты, іх дзейнасць павінна быць добра вядома выбаршчыкам.

Праверка тайным галасаваннем будзе самай грунтоўнай праверкай нашых работнікаў, бо тайнае галасаванне прадстаўляе куды больш шырокія магчымасці адводу нежаданых і нягодных з пункту погляду мас кандыдатур, чым гэта было да гэтага часу. Гэта трэба выразна ўяўляць.

Па-пятае, трэба перамагчы шкодную псіхалогію, якая ёсць у некаторых нашых партыйных і совецкіх работнікаў, якія думаюць, што народнае давер'е можна атрымаць дарам і што можна спакойна спаць, чакаючы прыпаднясення дэпутацкіх мандатаў на-дом, пад гром апладысментаў у сілу ранейшых заслуг. Атрымаць давер'е дарам,— гэта не выйдзе пры тайным галасаванні.

У нас ёсць даволі значны слой работнікаў у партыйных і совецкіх арганізацыях, якія лічаць, што іх задача, уласна, скончана тады, калі яны выбраны ў совет. Аб гэтым сведчыць вялікая колькасць адказных работнікаў, якія не наведваюць пленумаў советаў, дэпутацкіх груп і секцый нашых советаў, якія ўхіляюцца ад нясення элементарных дэпутацкіх абавязкаў.

Такога роду пережыткі ў псіхалогіі нашых работнікаў неабходна зламаць, трэба выхаваць у нашых работнікаў усведамленне сваей адказнасці перад выбаршчыкамі, маючы на ўвазе, што кожны абраннік будзе прагледжан і праверан самімі масамі дасканальна і ўсебакова.

Было-б грубай памылкай адкладваць барацьбу з гэтымі перажыткамі да моманту выбараў. Без адцяжкі мы павінны ўзяцца за няўхільнае палепшанне работы нашых совецкіх арганізацый, сувязь іх з масамі, узмацненне адказнасці нашых совецкіх работнікаў перад масамі.

Па-шостае, трэба ўжо цяпер выхоўваць у работнікаў усведамленне таго, што новая выбарчая сістэма азначае куды больш шырокую гласнасць у дзейнасці совецкіх арганізацый і што іх дзейнасць будзе праходзіць на віду ў мас, што адказнасць іх перад масамі будзе больш поўнай. Многія дэпутаты советаў — члены нашай партыі — прывыклі адказваць толькі перад сваей партыйнай арганізацыяй. Шмат якія нашы совецкія работнікі з людзей, схільных да бюракратызма, маючых буйныя недахопы у рабоце, гатовы дзесяць раз адчытацца у сваей рабоце перад бюро партыйнага камітэта, у вузкім сямейным коле, чым выйсці на пленум совета, крытыкаваць сябе і выслухаць крытыку мас. З такой практыкай безадказнасці трэба пакончыць.

Па-сёмае, узначаліць паварот у палітычным жыцці краіны і забяспечыць дэмакратычныя выбары — гэта азначае, што нашы партыйныя арганізацыі не павінны чакаць, калі масы штурхнуць іх знізу ў адносінах крытыкі і адводу нашых кандыдатур, а павінны самі быць на чале крытыкі і адводаў нягодных кандыдатур, не чакаючы іх правалу пры тайным галасаванні. Пры гэтым нашы партыйныя арганізацыі павінны навучыцца адрозніваць сяброўскую крытыку ад варожай. У нас нярэдка бывае так, што нездаволенасць працоўных паасобнымі недахопамі і скажэннямі ў дзейнасці нашых совецкіх органаў расцэньваецца і разглядаецца як варожая крытыка. Уменне адрозніваць сяброўскую крытыку, якая часам бывае вельмі вострай, ад крытыкі ворага патрабуе ад нашых партыйных арганізацый высокага ўзроўню партыйна-палітычнага выхавання і вялікай чуласці.

У часе новых выбараў магчымы спробы агітацыі супроць нашых кандыдатаў з боку варожых элементаў. Нашым работнікам прыходзіцца весці не мала цяжкіх кампаній на розных участках загатоўчай работы, будаўніцтва і т. д., а такога роду кампаніі не абыходзяцца без вядомага націску. Гэта ўваходзіць у разуменне дыктатуры рабочага класа. Мы не адмаўляемся ад такога націску і ў далейшым, і было-б смешна ад гэтага адмаўляцца. Будзе, як відаць, дэмагогія наконт раздування ўсякага роду недахопаў нашых работнікаў па гэтай лініі. Гутарка ідзе аб кадрах нашых сельсоветчыкаў, райвыканкомшчыкаў і т. д. Партыйныя арганізацыі павінны ўмець узяць пад абарону гэтых людзей. Гэтага нельга выпускаць з-пад увагі.

Па-восьмае, пытанне адносна беспартыйных. Было-б вельмі шкодным і небяспечным, калі-б пры новых выбарах былі паўтораны памылкі, меўшыя месца ў старой практыцы выбараў і якія заключаліся ў няўважлівых адносінах да кандыдатур беспартыйных, калі ў мэтах забеспячэння партыйнага ўплыву ў советах беспартыйныя кандыдатуры не карысталіся неабходнай увагай і падтрыманнем, якія выцякаюць з асноў большэвіцкага разумення кіраўніцтва і сувязі з масамі. Майце на ўвазе, што комуністаў у нашай краіне 2 мільёны, а беспартыйных «некалькі» больш. Стала быць, мы павінны, калі хочам узначаліць выбары, узмацніць наш уплыў і сувязі з беспартыйнымі і падтрымліваць, а не адцясніць беспартыйныя кандыдатуры, якія карыстаюцца давер'ем мас.

Такавы некаторыя пытанні, якія датычаць кіраўніцтва і арганізацыі падрыхтоўкі да выбараў. Яны сталі на чаргу не ў парадку аддаленай перспектывы, а ў парадку баявой, зусім неадкладнай і надзённай задачы.

## Парушэнне выбарнасці партыйных органаў несумяшчальна з арганізацыйнымі прынцыпамі большавізма

Што патрабуецца ад партыі для таго, каб яна магла стаць на чале новых, да канца дэмакратычных выбараў? Якія галоўныя ўмовы, што забяспечваюць кіраўніцтва партыі паваротам у палітычным жыцці краіны?

Для гэтага патрэбна, каб партыя сама праводзіла паслядоўную дэмакратычную практыку, каб яна праводзіла да канца ва ўнутрыпартыйным жыцці асновы дэмакратычнага цэнтралізма, як гэтага патрабуе статут нашай партыі, каб партыя сама мела неабходныя ўмовы, у сілу якіх усе органы партыі з'яўляліся-б выбарнымі, каб крытыка і самакрытыка унутры партыі развівалася ў поўнай меры, каб адказнасць партыйных органаў перад партыйнай масай была поўнай і каб сама партыйная маса была поўнасцю актывізавана.

Ленінізм вучыць, што ўздым актыўнасці рабочага класа, якога мы дабіваемся ў сувязі з правядзеннем совецкага дэмакратызма да канца,—справа сур'ёзная і вялікая. Для таго, каб падняць актыўнасць рабочага класа, трэба перш за ўсё актывізаваць саму партыю. Трэба, каб сама партыя цвёрда і рашуча стала на шлях унутрыпартыйнай дэмакратыі, каб нашы арганізацыі уцягвалі ў абмеркаванне пытанняў нашага будаўніцтва шырокія масы партыі, якія твораць лёс нашай партыі. Без гэтага няма чаго і гаварыць аб актывізацыі рабочага класа. Гэтаму вучыць нас таварыш Сталін.

Ці можна сказаць, што ўсе нашы партыйныя арганізацыі ўжо гатовы выканаць гэтыя умовы і што яны ужо перабудаваліся на дэмакратычны лад? На жаль, гэтага з поўнай упэўненасцю сказаць нельга.

Якія-ж факты сведчаць аб тым, што гэтага нельга сказаць з поўнай упэўненасцю?

Аб гэтым гаворыць маючаяся ў некаторых арганізацыях практыка парушэння статута партыі і асноў унутрыпартыйнага дэмакратызма.

Якія гэтыя парушэнні?

Статутам партыі, як вядома, прадпісваецца правядзенне выбараў камітэтаў пярвічных арганізацый адзін раз у год, гарадскіх і раённых камітэтаў адзін раз у год, абласных, краявых камітэтаў і цэнтральных камітэтаў нацыянальных кампартый—адзін раз у паўтара года. Так гаворыць статут.

Калі звярнуцца да практыкі, то факты гавораць аб тым, што гэта патрабаванне статута парушана ў нас у цэлым радзе арганізацый. За апошнія 2—3 гады выбары абласных, краявых камітэтаў і ЦК нацкомпартый праводзіліся толькі ў тых арганізацыях, якія створаны занава, у сувязі з фармаваннем новых абласцей (Калінінская, Краснаярская, Омская, Орэнбургская і Яраслаўская арганізацыі). Большасць нашых абласных, краявых камітэтаў і ЦК нацкомпартый, гаркомаў, райкомаў і пярвічных парткамітэтаў існуюць з перыяда XVII з'езда партыі, г. зн. з перыяда, калі адбываецца агульная кампанія выбараў партворганаў. Выключэнні з гэтага становішча складаюць, як я ужо гаварыў, новыя краі і абласці, а таксама паасобныя раённыя і гарадскія арганізацыі, галоўным чынам, у сувязі з праваламі ў партыйнай рабоце.

Значыць, законы нашай партыі апракінуты, хоць мы клянемся і божымся статутам, зубрым яго ў гуртках, патрабавалі ў час праверкі

і абмену партдакументаў ад членаў партыі ведання статута. Выходзіць на паверку, што самі мы недапушчальна ліберальна адносімся да нашых уласных партыйных законаў.

Статутам нашай партыі прадпісваецца, далей, выбарнасць усіх кіруючых органаў партыі зверхуданізу. Гэтага патрабуе асноўны прынцып арганізацыйнай будовы нашай партыі — прынцып дэмакратычнага цэнтралізма.

Параграф 18 статута партыі гаворыць, што: «Кіруючым прынцыпам арганізацыйнай будовы партыі з'яўляецца дэмакратычны цэнтралізм, які азначае:

а) выбарнасць усіх кіруючых органаў партыі зверху данізу;

б) перыядычную справаздачнасць партыйных органаў перад сваімі партыйнымі арганізацыямі;

в) суровую партыйную дысцыпліну і падпарадкаванне меншасці большасці;

г) безумоўную абавязковасць рашэнняў вышэйшых органаў для ніжэйшых і для ўсіх членаў партыі».

Гэты асноўны арганізацыйны прынцып нашай партыі ў радзе арганізацый парушан. Членам пленума, мабыць, ужо вядома, да якіх шкодных вынікаў для нашай партыйнай справы прывяла практыка парушэння статута партыі у Кіеўскай, Азова-Чорнаморскай і іншых арганізацыях, дзе забыццё статута ў сэнсе адыходу ад выбарнасці прывяло да аслабляючай запушчанасці партыйнай работы і садзейнічала пранікненню варожых элементаў у кіруючыя партыйныя органы.

Такім сур'ёзнейшым парушэннем статута нашай партыі ў адносінах выбарнасці з'яўляецца нічым не апраўдваемае пашырэнне кааптацыі розных кіруючых работнікаў у члены пленумаў парткомаў, райкомаў, гаркомаў, абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый.

Даныя, якія ёсць у распараджэнні ЦК ВКП(б), гавораць, што шкодная практыка кааптацыі ўкаранілася і зайшла далёка. Практыка кааптацыі парушае законнае права членаў партыі прымаць удзел у выбарах сваіх кіруючых органаў. Пры кааптацыі-ж члены партыі пазбаўляюцца магчымасці ўдзельнічаць у выбарах, магчымасці адводу нягодных кандыдатаў, іх думкі наогул не пытаюцца, бо кааптацыя праводзіцца на пленуме.

Кааптацыя прымяняецца вельмі шырока. Гэта парок, якім хварэе цэлы рад арганізацый.

У абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый кааптаваных у члены пленумаў — 11,6 проц. Гэта сярэдняя лічба. Па асобных арганізацыях процант кааптаваных дахо дзіць да 22,8 проц. (Кіеўская) і нават да 26,2 проц. (Беларусь), г. зн. больш чацвёртай часткі пленума складаецца з кааптаваных.

У складзе райкомаў і гаркомаў кааптаваных: у Маскоўскай арганізацыі 17 проц., у Ленінградскай 17,2 проц., у Азова-Чорнаморскай 17,5 проц., у Днепрапетроўскай 26,7 проц., у Беларускай 28,9 проц., у Варонежскай 29,8 проц., у Армянскай 30 проц., г. зн. амаль адна трэць кааптаваных.

У складзе бюро райкомаў і гаркомаў па абласных арганізацыях процант кааптаваных хістаецца ў сярэднім ад 14 да 39 проц. абраных. У Заходняй вобласці, у Арменіі, у Іванаўскай і Карэльскай арганізацыях больш паловы членаў бюро райкомаў і гаркомаў з'яўляецца кааптаванымі. Тут ужо не разбярэш, што засталося ад законнага складу, які вядзе свой пачатак ад выбараў.

Размах кааптацыі даходзіць да таго, што, напрыклад, на пленуме Кіеўскага абкома 19 кастрычніка 1934 года было каатавана ў пленум адразу 14 чалавек, і ў тым ліку Ашраф'ян, Дзеніс, Сеичэнко, Тодэр і інш., выкрытыя ў сучасны момант, як ворагі партыі.

У Харкаве ў гаркоме партыі са 158 членаў гаркома і 34 кандыдатаў, абраных на IV гарадской партыйнай канферэнцыі, засталося толькі 59. Нельга назваць гэты склад законным, паколькі засталася толькі адна трэць абраных. За час-жа з апошняй партыйнай канферэнцыі у склад гаркома кааптавана 61 чал., прычым бюро гаркома, за выключэннем аднаго таварыша, складаецца цалкам з кааптаваных.

Вам вядома, да якога стану спраў у партыйнай арганізацыі прывяло такое становішча ў Харкаве.

Калі звярнуцца да паасобных раённых камітэтаў партыі, то відавочна, вы самі маеце дастаткова абшырны матэрыял наконт кааптацыі. Я думаю, што ў нас есць не адзін дзесятак райкомаў, у якіх большасць членаў райкома з'яўляецца не абранымі, а кааптаванымі. Напрыклад, у Мала-Архангельскім раёне (Курскай вобласці) з 23 чал. 18 кааптавана, у Мцэнскім раёне (Курскай вобласці) з 26 кааптавана 22, у Гомельскім гаркоме (Беларусь) з 52 кааптавана 40, у Оранienбаумскім раёне (Ленінградскай вобласці) з 22 кааптавана 15, ва Усцюжэнскім раёне (той-жа вобласці) з 12 кааптавана 11 і т. д.

У складзе бюро паасобных гаркомаў і райкомаў кааптацыя практыкуецца таксама шырока. Ульянаўскі гарадскі камітэт мае з 12 членаў бюро 11 кааптаваных. Шчучанскі раённы камітэт (Чэлябінскай вобласці) — усе члены бюро кааптаваны. Семпалацінскі райком (Усходне-Казахстанскай вобласці)—усе члены бюро кааптаваны. Асбестаўскі гарком (Свярдлоўскай вобласці)—усе члены бюро кааптаваны і т. д.

Прыемы кааптацыі дайшлі да таго, што часам кааптуе або выключае са складу пленума меншасць, г. зн. аб законным кворуме тут ніякай гутаркі быць не можа. Гэта паказвае, што паняцце аб кворуме ў цэлым радзе месц сцерлася, знікла. Напрыклад, у Ленінскім раёне г. Харкава 4 красавіка 1936 г. збіраецца пленум райкома разам з актывам, на якім ставіцца пытанне аб выключэнні са складу райкома цэлай пачкі людзей. Не гледзячы на тое, што прайшло нямала часу пасля вядомага рашэння ЦК, што актывы павінны збірацца асобна ад пленумаў,—збіраюць пленум райкома разам з актывам. Навошта гэта спатрэбілася? Затым, што у пленуме «нехапіла» выбарных членаў. З членаў гаркома прысутнічала 10 або 11 чалавек, аднак пленум вывеў са свайго складу 12 чалавек, 10 чалавек сажралі 12 чалавек! (Смех).

Таварышы, мабыць, забылі, што нават у перыяд нелегальнага існавання партыі, калі кааптацыя выклікалася неабходнасцю, яна была абстаўлена цэлым радам абмежавальных умоў.

Мала таго, што кааптуюць пленумы,—ёсць арганізацыі, якія ідуць яшчэ далей. Напрыклад, пленум Тужынскага райкома, Кіраўскай вобласці, вынес рашэнне, згодна якому новаму складу бюро даручалася кааптацыя ў склад членаў райкома. На падставе гэтага рашэння пленума бюро райкома кааптавала 7 чал. і зацвердзіла кааптацыю на пленуме толькі праз 5 месяцаў, прычым прысутнічала на зацверджанні гэтых 7 членаў райкома толькі 6 законна абраных членаў пленума райкома.

Практыка парушэння выбарнасці і падмены яе кааптацыяй заха-

піла вельмі многія кіруючыя арганізацыі, а пры іх патуранні па той-жа сцежцы пайшлі і пярвічныя партыйныя арганізацыі. У нас у Ленінградзе, напрыклад, партком Кананерскага завода абраны быў да XVII з'езда, і за тры гады, пры складзе парткома ў 7 чалавек, было кааптавана 22 чалавекі, г. зн. партком тройчы змяніў свой склад без нармальных выбараў.

На Кіраўскім заводзе засталося 3 са складу абраных, астатнія ўсе кааптаваны.

У партком завода імя Жданава ў розны час быў кааптаван 31 чалавек.

У сувязі з тым, што парушэнне тэрмінаў выбараў і кааптацыя сталі ў нас распаўсюджанай з'явай, у радзе арганізацый забыліся, каго выбіралі. Іменна на аснове гэтага маглі атрымацца такія факты, аб якіх вы чыталі ўчора ў «Правде», калі ў Одэсе згубілі члена абласнога камітэта партыі тав. Алейнікава і ўспомнілі аб ім праз два гады, калі ён, занепакоены тым, што яго ніхто не чапае і не выклікае, сам з'явіўся ў абласны камітэт.

У Ленінградскай вобласці ў партарганізацыі завода «Красный керамик», у Баровічах, 4 студзеня 1937 г. стаяла пытанне аб давыбарах партыйнага камітэта. Чытаю па пратаколу: «Сакратар парткома тав. Радзіонаў інфармуе аб выкананні ім даручэння партсхода ў частцы «дакументальнага ўдакладнення» складу парткома. Ён паведаміў, што па дакументах, якія ёсць у парткоме, членамі парткома з'яўляюцца Свідэрскі, Кузняцова, Данілаў і Радзіонаў. Лічацца ў спіску парткома, але не пацвярджаюцца дакументамі Громава, Сокалаў, Калінін. Пастанавілі: Унесці яснасць у склад парткома і даабраць у яго працаздольных таварышоў».

Між іншым, на самым сходзе два члены партыйнага камітэта, якіх лічылі законна абранымі, катэгарычна ад гэтага адракаліся, іх горача пераконвалі. Сакратар парткамітэта расказваў пасля аб цяжкасцях выканання данага яму даручэння «адшукаць» членаў парткома: «Уф, шукаў, шукаў членаў парткома, ледзь іх знайшоў».

Так абстаіць справа з грубым парушэннем законаў нашай партыі аб выбарнасці партыйных органаў і з падменай выбарнасці практыкай каапатацыі, несумяшчальнай з духам і традыцыямі нашай партыі.

### Унутрыпартыйная дэмакратыя непахісны закон партыйнага жыцця

Аб практыцы саміх выбараў. Механіка выбараў у нас часцяком пабудавана так, што члены партыі пазбаўлены магчымасці свабодна выказвацца па кандыдатурах, скарыстаць права адводу і крытыкі непрымальных кандыдатаў. Арганізацыя выбараў накіравана не на тое, каб забяспечыць сапраўдную магчымасць праверкі кожнай кандыдатуры партыйнай масай, а на тое, каб як мага хутчэй, прасцей правесці выбары і пазбавіцца ад надакучлівай крытыкі партыйных мас у дачыненні да той або іншай кандыдатуры. У нас справа звычайна абстаіць так: сакратар партыйнага камітэта за некалькі дзён да канферэнцыі недзе ў кутку сваёй запісной кніжкі робіць папярэднюю прыкідку кандыдатаў. Затым склікаецца нарада сакратароў, на якой фарміруецца спіс. Затым абмеркаванне кандыдатаў пераходзіць на «сіні канверт», як у нас называюць сеньорэн-канвент, і на нараду дэлегацый. Абмеркаванне кандыдатур вы-

чэрпваецца, такім чынам, на розных закрытых папярэдніх нарадах «сямейным» парадкам, без асобых «клопатаў». Зусім ясна, што калі нарады сакратароў і дэлегацый пытанне прадвырашылі, то надзвычай цяжка адвесці якую-небудзь кандыдатуру на агульным сходзе ці канферэнцыі. На саміх канферэнцыях спрэчкі па кандыдатурах, як правіла, не адкрываюцца, галасаванне робіцца спісам, а не персанальна, і такім чынам выбраная працэдура ператвараецца ў простую фармальнасць. На канферэнцыях курс ставіцца на хуткасць. Старшынёю саджаюць такога чалавека, які, закасаўшы рукавы, «правёртвае» выбары спісам мінут за 20. Тут і дэманстрацыя поўнай аднадушнасці атрымліваецца, і для пярэчанняў па сутнасці няма магчымасці. Замест таго, каб даць магчымасць людзям на самой канферэнцыі прыняць удзел у абмеркаванні, адкрыць доступ шырокай крытыцы і адводу выстаўляемых кандыдатур, уся справа зводзіцца да вузкай арганізацыйнай «тэхнікі», якая мае адну мэту: адгарадзіцца ад крытыкі партыйных мас.

Такая практыка несумяшчальна з духам і традыцыямі нашай партыі і з тымі задачамі, якія перад намі стаяць. Яна прадстаўляе завуаляванае парушэнне законных правоў члена партыі, парушэнне партыйнай дэмакратыі.

Аб кааптацыі я хацеў-бы зрабіць яшчэ адну заўвагу. Я хачу спаслацца на вопыт Цэнтральнага Камітэта нашай партыі. Калі-б мясцовыя работнікі лепш вучыліся ў Цэнтральнага Камітэта, мы не дапусцілі-б такога разгулу кааптацыі, які быў у радзе арганізацый. Бо Цэнтральны Камітэт за час свайго існавання ні аднаго члена і кандыдата ў ЦК не кааптаваў. Няма такой практыкі ў Цэнтральным Камітэце.

Наступным сур'ёзным недахопам у справе захавання асноў унутрыпартыйнага дэмакратызма з'яўляецца шырока распаўсюджанае назначэнства партыйных кіраўнікоў, сакратароў партыйных камітэтаў. Неабходна гэту практыку змяніць у такім напрамку, што калі партыйны камітэт мае на ўвазе правесці змену ў складзе партыйнага кіраўніцтва ніжэйстаячай арганізацыі, то ён, намечваючы кандыдатуру, абавязан да прадстаўлення яе на зацвярджанне вышэйстаячай партыйнай інстанцыі паставіць на абмеркаванне той арганізацыі, куды рэкамендуецца сакратар, і толькі пасля гэтага ісці за санкцыяй да вышэйстаячай арганізацыі.

У нас нямала сакратароў партыйных камітэтаў, якія не з'яўляюцца абранымі ў склад партыйнага камітэта. Я-б мог назваць тут некалькі дзесяткаў чалавек, якія, будучы сакратарамі парткомаў, не з'яўляюцца абранымі ў склад парткомаў.

Атрымалі назначэнне, атрымалі пуцёўку, прыязджаюць і адразу садзяцца за работу, а стары сакратар, як правіла, не адчытваецца. У нас моцна развіты «самасправаздачы», але справаздачнасць партыйных камітэтаў перад партыйнымі масамі развіта яўна недастаткова.

Адносна самасправаздач. У такой форме, у якой у нас практыкуюцца самасправаздачы камуністаў, яны з'яўляюцца бюракратычным здзекам над членамі партыі. Па большай частцы самасправаздачы звязаны з капаннем у асабістым жыцці, у сямейным жыцці комуніста, а ні ў якім разе не з выяўленнем яго авангарднай ролі і работы ў масах. Да чаго зводзяцца самасправаздачы? Аб гэтым гавораць некаторыя факты. Партыйная арганізацыя калгаса імя Дзержынскага, Мацвееўскага раёна, Орэнбургскай абласці слу-

хае самасправаздачу комуніста Сідарава: «Газет не чытае і не выпісвае. З жонкай жыве нічога, з дзецьмі таксама. Улічыць, што Сідарау недастаткова выхоувае сваю сям'ю». Гэта [illegible] самасправаздача.

Тая-ж арганізацыя па самасправаздачы члена партыі Мазіна, які збіваў сваю жонку, запісала: «Не дапускаць больш сямейных злачынстваў. У найкарацейшы тэрмін наладзіць сямейныя адносіны» **(Агульны смех).**

У соўгасе імя Амосава, у Казахстане, слухаюць самасправаздачу комуніста Салірава. Прымаецца лапідарная пастанова: «Слухалі: самасправаздачу Салірава. Пастанавілі: Салірава арыштаваць». **(Агульны смех).**

**Галасы.** За што?

**Жданаў.** Тут іншае пытанне узнікае, ці мае права партыйная арганізацыя арыштоуваць сваіх членау? Адчытауся чалавек на сваю галаву!

Ва многіх партыйных арганізацыях прыніжана роля пленумау, як органау калектыунага кіраунітва. Пленумы збіраюцца рэдка, больш для абмеркавання парадных ці агульных пытанняу, пытанні мясцовай работы ставяцца рэдка. Пытанні аб выбарах і іншыя пытанні, як я ўжо гаварыў, абмяркоўваюцца і вырашаюцца пры адсутнасці неабходнага кворума.

Вачскі райком, Горкаўскай вобласці на працягу 1936 года не сабраў ні аднаго пленума. У Весялоускім раёне, Днепрапетроускай вобласці, на працягу дзесяці месяцау ні аднаго пленума не сабралі. У Чэлнінскім раёне ў Татарыі і ў радзе іншых райкомаў Татарыі у 1936 годзе па 7—8 месяцаў не збіралі ні аднаго пленума. Дзе-ж тут калектыўнае кіраўніцтва?

Такія-ж недахопы па лініі прыніжэння ролі нашых выбарных арганізацый ёсць і ў пярвічных партыйных арганізацыях.

У праекце рэзалюцыі ёсць указанне на тое, што мы павінны забяспечыць такое становішча, пры якім у пярвічных партарганізацыях было-б забяспечана строгае захаванне парадку выбарау парткомау на агульназаводскіх сходах, не дапускаючы падмены апошніх канферэнцыямі. Там-жа ўказваецца на неабходнасць ліквідаваць маючую месца ў радзе пярвічных партарганізацый практыку фактычнай адмены агульных сходаў і падмены агульнага сходу цэхавымі сходамі і канферэнцыямі.

Уявіце сабе становішча на буйным заводзе, дзе ёсць тысяча—паўтары тысячы членаў партыі. Замест таго, каб сабраць для выбараў партыйнага камітэта агульназаводскі партсход, склікаюць па норме 1 дэлегат ад 3 членаў партыі заводскую канферэнцыю, падмяняюць тым самым агульназаводскі партыйны сход канферэнцыяй і праводзяць выбары, г. зн. па сутнасці справы двух чалавек з трох пазбаўляюць магчымасці удзельнічаць у выбарах. Ці дапушчальна гэта? Ясна, што ні ў якім разе недапушчальна.

Роля агульных сходаў прыніжана. У радзе арганізацый агульнапартыйныя сходы збіраюцца рэдка, пытаннямі мясцовага партыйнага жыцця займаюцца мала.

Парушэнні асноў унутрыпартыйнага дэмакратызма сказваюцца і на падрыхтоўцы партыйных сходаў, калі члены партыі не ведаюць загадзя, якія пытанні будуць абмяркоўвацца.

Аб падрыхтоўцы рэзалюцый партсходаў.

Нярэдка на партсходах рэзалюцыя па таму ці іншаму пытанню

уносіцца загадзя, або кропаецца майстрамі гэтай справы ў час самога сходу без уліку таго, аб чым гаворыцца ў спрэчках. У нас у модзе фармуліроўка: распрацаваць праект рашэння «на аснове абмену думкамі», а на справе якраз вось гэты «абмен думкамі» і не ўлічваецца.

Гэта—праява найвялікшай непавагі да законных гаспадарскіх правоў членаў партыі.

Беспарадачна і нядобрасумленна-нядбайна адносяцца ў нас людзі да партыйных дакументаў і рашэнняў. Усім нам трэба вучыцца у Цэнтральнага Камітэта адносінам да партыйных дакументаў. Калі мы ўзнялі цяпер ролю членскага білета і павагу да яго, то нельга гэтага сказаць аб вельмі многіх нашых іншых партыйных дакументах. Як яны складаюцца, выконваюцца, захоўваюцца? Неахайна. У ЦК нам трэба вучыцца выключнай дакладнасці, беражлівасці і акуратнасці да кожнага партыйнага дакумента. У нас у гэтых адносінах на месцах шмат арганізацыйнай распушчанасці, халатнасці.

Зусім немалаважна, напрыклад, пытанне: ці атрымалі члены бюро партыйнага камітэта матэрыялы к абмеркаванню на пасяджанні або не, ці атрымалі іх за дзень раней або яны раздаюцца на самым пасяджэнні? Гэта таксама пытанне аб забяспечанні ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

Гэтыя пытанні здаюцца дробязнымі, але ў канечным выніку яны шкодзяць нам, паколькі перашкаджаюць росту актыва і затрудняюць для яго магчымасць актыўнага і самадзейнага ўдзелу ў жыцці партыі. У сувязі з гэтым развіваюцца і камандванне і ўсякія іншыя справы.

Я хацеў-бы прывесці яшчэ адзін з прыкладаў парушэння прынцыпаў калектыўнага кіраўніцтва. Гутарка ідзе аб так званых «трыкутніках». Пад выглядам «трыкутніка», які складаецца з сакратара парткома, кіраўніка прадпрыемства або ўстановы і старшыні мясцовай прафарганізацыі, у нас у радзе арганізацый існуе ў баку ад нармальных выбарных органаў (парткома і заўкома) своеасаблівая афіцыяльна і рэгулярна дзеючая, ніякімі партыйнымі і савецкімі законамі не прадугледжаная арганізацыя. Яна збіраецца, выносіць рашэнні, дае дырэктывы да выканання і т. д. З пункту погляду калектыўнага кіраўніцтва, з пункту погляду правільных адносін паміж партыйнымі, гаспадарчымі і прафсаюзнымі арганізацыямі трыкутнік прадстаўляе сабою зусім недапушчальную форму. Гэта ёсць сямейственасць, згавор для таго, каб цяжэй было крытыкаваць. І калі ўжо гэтыя трое сышліся, паспрабуй, пайдзі пакрытыкуй іх. Прафсаюзную і партыйную арганізацыю гэта абязлічвае, раззбройвае ў барацьбе супроць недахопаў гаспадарчага кіраўніцтва, а з другога боку раззбройвае самога гаспадарніка, таму, што трыкутнік прадстаўляе нешта накшталт нейкага калегіяльнага органа кіраўніцтва, у той час, як наша гаспадарчае кіраўніцтва зусім іншым чынам пабудавана.

Трыкутнікі прадстаўляюць сабою пародыю, карыкатуру, сурагат калектыўнага кіраўніцтва. Да чаго гэта прыводзіць? Вось у нас у Ленінградзе, на заводзе імя Калініна, выключылі комуніста з партыі за крытыку няправільнага кіраўніцтва стаханаўскім рухам з боку заводакіраўніцтва, за тое, што ён указваў на недахопы ў кіраўніцтве. Яго залічылі ў бузацёры. Мы аднавілі яго ў правах члена партыі, пакаралі тых, хто ў адносінах яго паступіў самым беззаконным і грубым чынам. Але сам па сабе гэты факт стаў магчымым дзякуючы існаванню трыкутніка, які раней дамовіўся. Дырэктар прышоў

туды і гаворыць: абураючая справа, лаюць дырэкцыю. Яму паддакнулі сакратар і старшыня заўкома. Так атрымліваецца заціск крытыкі, і тады ўжо рабочым на такім заводзе цяжка дабіцца праўды.

Мне здаецца, пара паставіць пытанне аб ліквідацыі трыкутнікаў.

У чым заключаецца шкоднасць усіх указаных вышэй фактаў парушэння асноў дэмакратычнага цэнтралізма? Яна заключаецца ў тым, што падобная практыка тармозіць рост актыўнасці і самадзейнасці членаў партыі, прыніжае ў членаў партыі пачуцце гаспадара, перашкаджае ідэйнаму і палітычнаму росту членаў партыі, пазбаўляе членаў партыі іх законных правоў кантролю і над дзейнасцю парторганаў і тым самым парушае правільныя ўзаемаадносіны паміж кіраўнікамі і партыйнымі масамі, аслабляе партыю перад тварам задач, якія стаяць перад ёю.

### Знішчыць усё, што перашкаджае росту партыйнага актыва

Для ўсіх ясна, якія велізарныя кадры мы павінны мець у сваім распараджэнні для таго, каб паспяхова вырашыць задачы, дыктуемыя развіццём соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах, увядзеннем новай Канстытуцыі, з нашай далейшай барацьбой за комунізм, колькі нам патрэбна адданых і самаафярных таварышоў і ў партыі, і за межамі яе, сярод беспартыйных!

Мы павінны знішчыць з нашай партыйнай практыкі ўсё тое, што тармозіць, што перашкаджае росту актыва, развіццю яго самадзейнасці і павышэнню яго ролі ў кіраўніцтве партыйным жыццём, у абмеркаванні ўсіх пытанняў партыйнай палітыкі, як гэта вынікае з асноў унутрыпартыйнай дэмакратыі.

Таварыш Сталін пастаянна вучыць нас таму, што партыйны актыў мае асобае палітычнае значэнне ў жыцці нашай партыі. Ён з'яўляецца праваднікам у жыцце рашэнняў нашай партыі. Калі партыйнае рашэнне вынесена, лёс яго знаходзіцца у руках актыва. Партыйны актыў з'яўляецца выразнікам грамадскай думкі партыі.

Іменна таму, што наша партыя здолела выкаваць і выхаваць у духу Леніна—Сталіна шырокія слаі актыва, мы вырашылі з поспехам карэнныя задачы соцыялістычнага будаўніцтва, маем такія гіганцкія, казачныя перамогі.

Іменна ў гэтай сувязі было вынесена, па ініцыятыве таварыша Сталіна, вядомае рашэнне ЦК аб сходах партыйных актываў для абмеркавання рашэнняў ЦК ВКП(б).

Іменна таму мы павінны ўстараніць з нашага шляху ўсё, што перашкаджае расшырэнню кадраў нашага актыва, яго ідэйна-палітычнаму росту, яго большэвіцкай загартоўцы, яго арганізацыйнаму ўмацаванню. Задачы, якія мы павінны вырашыць і ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва, і ў сувязі з надыходзячымі новымі дэмакратычнымі выбарамі, ставяць на чаргу важнейшае пытанне аб актывізацыі кожнага комуніста.

Уся наша двухмільённая партыйная маса павінна быць поўнасцю актывізавана. Кожны комуніст павінен быць актыўным арганізатарам, агітатарам і прапагандыстам за справу партыі. Пад гэтым пунктам павінна быць перабудавана наша арганізацыйная, агітацыйная і прапагандысцкая работа.

Адна заўвага аб прапагандысцкай рабоце. Асноўны недахоп у нашай прапагандысцкай рабоце, на які не раз ўказваў ЦК, заключаецца ў тым, што яна вядзецца часцяком схаластычна, адарвана ад бягучых і надзенных баявых задач партыі. Наша прапаганда па-

вінна быць пастаўлена так, каб задачай кожнага прапагандысцкага гуртка, кожнай школы было такое выхаванне комуністаў, пры якім папаўненне ведаў і ўдасканальванне членаў партыі у галіне марксізма-ленінізма з'яўлялася-б не самамэтай, а сродкам выхавання актыўных прапагандыстаў за справу партыі. Вось што трэба мець на ўвазе ў нашай прапагандысцкай рабоце, як адзін з яе важнейшых прынцыпаў.

Без ліквідацыі буйных недахопаў, якія мы маем у нашай унутрыпартыйнай практыцы, і ў першую чаргу па лініі парушэння унутрыпартыйнай дэмакратыі і выбарнасці, не могуць быць вырашаны новыя задачы партыі, звязаныя з дэмакратычнымі выбарамі, і партыйныя арганізацыі могуць аказацца няздольнымі перад тварам гэтых задач. І калі мы хочам правесці выбары па новай выбарчай сістэме, так, як гэтага патрабуе партыя, так, як гэтага патрабуе Канстытуцыя, калі мы хочам дабіцца павагі ў нашых совецкіх і партыйных работнікаў да нашых законаў і мас да совецкай Канстытуцыі,—то мы павінны забяспечыць перабудову партыйнай работы на аснове безумоўнага і поўнага правядзення пачаткаў унутрыпартыйнай дэмакратыі, прадугледжаных статутам нашай партыі.

*

Выходзячы з гэтага, нам неабходна правесці наступныя мерапрыемствы:

Па-першае, ліквідаваць безумоўна практыку кааптацыі і аднавіць у адпаведнасці са статутам выбарнасць кіруючых органаў партарганізацыі.

Па-другое, забараніць пры выбарах парторганаў галасаванне спісам і перайсці ад адкрытага галасавання да тайнага і персанальнага галасавання. Пры гэтым павінна быць забяспечана неабмежаванае права адводу членамі партыі высоўваемых кандыдатур і неабмежаванае права крытыкі гэтых кандыдатур.

Неабходна ў сувязі з гэтым, з прычыны сур'ёзных парушэнняў выбарнасці ў нашых партыйных арганізацыях, правесці выбары партыйных органаў, пачынаючы ад парткамітэтаў пярвічных арганізацый і канчаючы краявымі, абласнымі камітэтамі і ЦК нацкомпартый, правёўшы іх у бліжэйшыя два месяцы і закончыўшы выбары да канца мая. Неабходна ў далейшым строга захоўваць тэрміны выбараў партогранаў у адпаведнасці са статутам: у пярвічных арганізацыях адзін раз у год, у раённых і гарадскіх арганізацыях—адзін раз у год, у краявых, абласных і рэспубліканскіх арганізацыях—адзін раз у паўтара года.

Што датычыць партыйных сходаў, то неабходна катэгарычна асудзіць і забараніць практыку падмены агульных партыйных сходаў цэхавымі сходамі або канферэнцыямі і не дапускаць двухступенных выбараў у партыйных арганізацыях, а ўвесці практыку выбараў нізавых партыйных органаў непасрэдна на агульных сходах.

Вось тыя прапановы, якія я меў тут сфармуляваць.

## Заключнае слова тав. Жданава

*на Пленуме ЦК ВКП(б) 27 лютага 1937 года*

Таварышы, у спрэчках было закранута і падверглася дыскусіі пытанне адносна перабудовы работы іншых арганізацый, галоўным чынам совецкіх арганізацый. Гаварылі тут і аб профсаюзах, і аб

комсамоле, і аб іншых масавых арганізацыях. Гэта вельмі важная справа і, вядома, нам прыдзецца гэтыя арганізацыі перабудоўваць да выбараў у духу той работы, якую мы павінны правесці ў партыйнай арганізацыі.

Умовай перабудовы і савецкіх і прафесіянальных, і комсамольскіх арганізацый з'яўляецца перш за ўсё перабудова самой партыйнай арганізацыі, як асноўнай кіруючай сілы, як асноўнага кіруючага ядра ўсіх нашых арганізацый, як гэта запісана ў нашай Канстытуцыі. Я не думаю, каб мы павінны былі адмовіцца і не весці ўжо цяпер работу па рашучаму паляпшэнню работы масавых арганізацый, прафсаюзаў, саветаў, комсамола і т. д., але сапраўдная перабудова іх работы, вядома, звязана з тым, у якой меры ўдасца перабудавацца партарганізацыям,—гэта корань усіх рэчаў.

Цяпер адносна парушэння выбарнасці партыйных арганізацый, распаўсюджання кааптацыі і аб іншых парушэннях унутрыпартыйнай дэмакратыі і асноў дэмакратычнага цэнтралізма. Са справаздач відаць, што справа зайшла вельмі далёка, што навыкі і перажыткі мінулага перыяда яшчэ моцна сядзяць у галовах нашых работнікаў, захопленых нашымі вялікімі поспехамі. Гэтыя навыкі і перажыткі, бясспрэчна, звязаны з некаторымі немарксісцкімі поглядамі, якія бічаваў таварыш Сталін яшчэ на XIII партканферэнцыі ў 1924 г. і якія зыходзяць з абсалютна немарксісцкіх уяўленняў, нібыта партыя наша з'яўляецца «не самадзейным арганізмам, які жыве самастойным ідэйным і практычным жыццём, а нечым накшталт сістэмы ўстаноў, ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых». Таварыш Сталін указваў тады на тое, што барацьба з такімі поглядамі з'яўляецца чарговай задачай партыі. Гэтыя указанні таварыша Сталіна неабходна напомніць у сувязі з фактамі бюракратычных скажэнняў прынцыпаў дэмакратычнага цэнтралізма.

Аб вядомым адрыве кіруючых работнікаў ад партыйнага жыцця гаварыў тут рад таварышоў і асабліва пераканаўча тав. Хатаевіч.

Тав. Хатаевіч на вопыце Днепрапятроўскай арганізацыі паказаў, як захапленне гаспадарчай цякучкай прыводзіць да страты густу да партработы, да паслаблення партработы. Такое становішча з'яўляецца тыповым. Трэба напомніць што, загружаючы сябе дробнымі гаспадарчымі справамі на шкоду партрабоце, мы забываемся, што партыйную работу за нас ніхто весці не будзе. Кіраўніцтва партработай — галоўная функцыя партработнікаў, адказнасць за яе становішча цалкам і поўнасцю ляжыць на іх.

Прамова тав. Кабакова была паказчыкам таго, што партыйная работа вельмі сур'ёзна забыта ў радзе арганізацый. Тав. Кабакоў гаварыў аб усім, апрача партработы. Гаварыў аб кінамеханіцы, аб матэрыяльнай частцы кіно, аб радыё. Усе гэта вельмі важныя і вельмі істотныя рэчы. Але калі было пастаўлена тав. Молатавым перад тав. Кабаковым пытанне, як абстаіць справа з кааптацыяй на Урале, ён абышоў гэта пытанне. Стала быць, пытанні партработы не з'яўляюцца асноўнымі для тав. Кабакова. Гэта паказвае, што недаацэнка партработы не пераможана, што неабходны пералом у гэтых адносінах яшчэ не створан і што пачынаць трэба з кіраўнікоў. Паварот да партыйнай работы цалкам залежыць ад павароту кіраўніцтва партыйных арганізацый.

Некалькі слоў адносна парадку выбараў. Тут таварышы гаварылі аб тым, што неабходна даць указанні, як правесці тайнае галасаванне: ці будзе «скарэшніца», або шары качаць. Гэта справа вельмі

істотная, але цяпер нам трэба мець не інструкцыю, а трэба ведаць ці ўхваляецца сам прынцып. Супроць прынцыпа тайнага галасавання тут ніхто не пярэчыў, наадварот, таварышы падкрэслівалі выключную важнасць і істотнае значэнне тайнага галасавання для забеспячэння сапраўднай свабоды выбараў. Самы працэс выбараў будзе, відавочна, падзелен на дзве стадыі. Першая стадыя, калі ідзе зусім адкрытае абмеркаванне кандыдатур. Кожны мае права называць і адстойваць любую кандыдатуру ў абіраемы партыйны камітэт. Гэта першая стадыя. Затым абмеркаваныя кандыдатуры галасуюцца шляхам закрытага галасавання.

Можна ўзяць, як узор і прыклад, практыку выбараў ЦК на партыйных з'ездах, дзе выбары праводзяцца тайным галасаваннем. Я думаю, што гэта практыка можа быць цалкам і поўнасцю скарыстана мясцовымі партыйнымі арганізацыямі.

Цяпер адносна кааптацыі. Некаторыя таварышы ўказваюць, што расшыранае прымяненне кааптацыі звязана з тым, што прыходзіцца перамяшчаць сакратароў і іншых адказных партыйных кіраўнікоў і ў сілу гэтага ўводзіць іх у той або іншы партыйны камітэт. Калі у нас выбары партыйных арганізацый будуць адбывацца ў дакладна ўстаноўленыя тэрміны, то не будзе затрудненняў ад таго, што чалавек два-тры месяцы не будзе абраны. Ён будзе выконваць абавязкі сакратара, але не будзе членам партыйнага камітэта, а на надыходзячай канферэнцыі можа быць абраны ў партыйны камітэт. У нас цяпер бывае, што членам партыйнага камітэта парткіраўнік становіцца адначасова з атрыманнем таго або іншага партыйнага паста. Гэта зусім не абавязкова. Ён будзе да канферэнцыі выконваць абавязкі сакратара, не будучы членам партыйнага камітэта.

Наступная заўвага. У нас кааптацыя ў пэўнай меры была звязана з цякучасцю кадраў, з частай перакідкай работнікаў.

Выступаўшыя таварышы гаварылі тут аб «беднасці» кадрамі, якая, нібыта, прымушае іх рабіць пастаянныя перагрупоўкі і перакідкі людзей. Яны забываюць, што рэзерваў і магчымасцей у нас для вылучэння новых кадраў выключна многа. Вы паглядзіце, як хутка ў нас растуць партыйныя і беспартыйныя людзі, паглядзіце на рост стаханаўцаў, дый не толькі стаханаўцаў. А вазьміце рух жонак камандзіраў Чырвонай Арміі і работнікаў прамысловасці, успомніце нядаўныя ўсесаюзныя нарады. У сэнсе яркасці, сочнасці, поўнацэннасці іх выступленняў, у сэнсе выбару новых форм і новых метадаў агітацыі, па багаццю тэм, зместу і формы прамоў многія з іх, чэснае слова, заткнуць за пояс іншых прысяжных і зліняных нашых агітатараў. Людзей вакол нас маса, людзей вельмі многа, такіх людзей, якія даўно ўжо чакаюць вылучэння, але мы іх не бачым у сілу недахвату дэмакратызма ў нас, недахвату, які перашкаджае нам бачыць новых людзей. І многія людзі ў нас перастойваюць, а перастойваючы і будучы забытымі, яны становяцца рэзервам нездаволеных унутры нашай партыі. З гэтага пункту погляду пераход да тайнага галасавання, пераход да сапраўднай выбарнасці нашых партыйных арганізацый дапаможа нам узняць велізарны рэзерв партыйных кадраў, які ёсць у нас. Яшчэ Ленін гаварыў у часы, калі ў нас кадраў работнікаў было сапраўды мала, што трэба караць тых, якія гавораць, што ў нас мала кадраў.

Некалькі слоў аб агітацыі. Тут правільна гаварылі таварышы, што наша агітацыя захватвае, галоўным чынам, перадавых рабочых, пасобныя калгасы. Яна зусім не ахватвае велізарных слаёў людзей,

якія гатовы нам дапамагчы, ва ўсякі час гатовы адгукнуцца і быць нашымі прыяцелямі, непартыйнымі большэвікамі. Я маю на ўвазе тут інтэлігенцыю, служачых, хатніх гаспадынь, дый не толькі іх. Трэба прама сказаць, што агітацыйнай работай мы не ахватваем нават усіх рабочых на буйных прадпрыемствах, а ў вёсцы працуем толькі ў частцы калгасаў. У нас ёсць калгасы, у якіх раённыя работнікі бываюць разы два-тры ў год, а ёсць шмат калгасаў, большай часткай слабых—і ў гэтым галоўная небяспека,—глухіх куткоў, аб якіх гавaraць тав. Эйхе, у якія ніхто не заязджае, бо на іх махнулі рукой. Гэта абсалютна няправільна. Трэба ўзмоцнена працаваць якраз з тымі рабочымі, калгаснікамі, служачымі і іншымі працоўнымі, якія яшчэ недастаткова ахвачаны нашым палітычным уплывам.

Змест нашай агітацыі часцяком не адказвае прама і адкрыта на пастаўленыя рабочымі пытанні. У сувязі з любым нашым мерапрыемствам мы атрымліваем масу пытанняў і водгукаў, у партыйных камітэтах складаюць спісы гэтых пытанняў, але на гэтыя пытанні часта не адказваюць, унікаюць адказваць на цяжкія пытанні. Гэта няправільна, наша агітацыя павінна быць праўдзівай, наша агітацыя павінна адказваць на ўсе пытанні рабочых і не пакідаць іх без увагі, без адказу, бо, калі мы не адкажам, то за нас хто-небудзь адкажа,— «свято место пусто не бывает».

І нарэшце, пытанне аб нашых агіткалектывах, работа якіх знаходзіцца ў вялікім загоне і закідзе. Яны таксама абслугоўваюць галоўным чынам фабрычна-заводскія прадпрыемствы. А што датычыць агітатараў, якія-б працавалі па жактах, па ВНУ і ВТНУ, сярод служачых і інтэлігенцыі,—сюды нашы партарганізацыі яшчэ не дайшлі. Неабходна набыць і гэтыя кадры людзей. Магчымасці ў нас тут выключныя. Усё ў нашых руках знаходзіцца: і радыё, і кіно, і газеты, і чорт ведае колькі сродкаў агітацыі!

Ці скарыстоўваем мы гэтыя сродкі? Зусім недастаткова. Пытанне ідзе аб тым, каб наладзіць гэту работу, і гэта вельмі сур'ёзная справа.

# Падрыхтоўка партыйных арганізацый да выбараў у Вярхоўны Совет СССР па новай выбарчай сістэме і адпаведная перабудова партыйна-палітычнай работы

*Рэзалюцыя Пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. ЖДАНАВА, прынятая 27 лютага 1937 года*

Увядзенне новай Канстытуцыі Саюза ССР азначае паварот у палітычным жыцці краіны. Сутнасць гэтага павароту заключаецца ў правядзенні далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў сэнсе замены не зусім роўных выбараў у советы роўнымі, многаступенных — прамымі, адкрытых—закрытымі.

Калі да ўвядзення новай Канстытуцыі існавалі абмежаванні выбарчага права для служыцеляў культа, былых белагвардзейцаў, былых людзей і асоб, якія не займаюцца агульнакарыснай працай, то новая Канстытуцыя адкідае ўсякія абмежаванні выбарчага права для гэтых катэгорый грамадзян, робячы выбары дэпутатаў усеагульнымі.

Калі раней выбары дэпутатаў з'яўляліся няроўнымі, бо існавалі розныя нормы выбараў для гарадскога і сельскага насельніцтва, то цяпер неабходнасць абмежавання роўнасці выбараў адпала, і ўсе грамадзяне маюць права прымаць удзел у выбарах на роўных падставах.

Калі раней выбары сярэдніх і вышэйшых органаў совецкай улады былі многаступеннымі, то цяпер, па новай Канстытуцыі, выбары ва ўсе советы, ад сельскіх і гарадскіх, аж да Вярхоўнага Совета, будзе рабіцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

Калі раней выбары дэпутатаў у советы праводзіліся адкрытым галасаваннем і па спісках, то цяпер галасаванне пры выбарах дэпутатаў будзе тайным і не па спісках, а па асобных кандыдатурах, высоўваемых па выбарчых акругах.

Нарэшце, Канстытуцыяй уводзіцца ўсенароднае апытанне (рэферэндум).

Гэтыя змены ў выбарчай сістэме азначаюць узмацненне кантролю мас у адносінах совецкіх органаў і ўзмацненне адказнасці совецкіх органаў у адносінах мас.

Вынікам увядзення ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні будзе далейшае ўзмацненне палітычнай актыўнасці мас, уцягненне новых пластоў працоўных у кіраванне дзяржавай. Тым самым дыктатура пролетарыята становіцца больш гібкай, а стала быць, больш магутнай сістэмай дзяржаўнага кіраўніцтва рабочага класа грамадствам, база дыктатуры рабочага класа расшыраецца, яе аснова становіцца больш моцнай.

Каб сустрэць гэты паварот ва ўсеўзбраенні, партыя павінна стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць поўнасцю сваю кіруючую ролю ў надыходзячых выбарах вярхоўных органаў краіны.

Ці гатовы партыйныя арганізацыі да такога роду кіраўніцтва?

Што патрабуецца ад партыі для таго, каб яна магла стаць на чале гэтага павароту, на чале новых, да канца дэмакратычных выбараў?

Для гэтага патрабуецца, каб партыя сама праводзіла паслядоўную дэмакратычную практыку, каб яна праводзіла да канца ва ўнутрыпартыйным жыцці асновы дэмакратычнага цэнтралізма, як гэтага патрабуе статут партыі, каб яна сама мела неабходныя умовы, у сілу якіх усе органы партыі з'яўляліся-б выбарнымі, каб крытыка і самакрытыка развівалася ў поўнай меры, каб адказнасць партыйных органаў перад партыйнай масай была поўная і каб сама партыйная маса была поўнасцю актывізавана.

Ці можна сказаць, што ўсе партыйныя арганізацыі ўжо гатовы выканаць гэтыя ўмовы, што яны перабудаваліся ўжо поўнасцю на дэмакратычны лад?

На жаль, нельга гэтага сказаць з поўнай упэўненасцю.

Аб гэтым гаворыць наяўная ў некаторых арганізацыях практыка парушэння статута партыі і асноў унутрыпартыйнага дэмакратызма.

Якія гэта парушэнні?

Выбарнасць партыйных органаў, устаноўленая статутам партыі, у радзе арганізацый парушана. Устаноўленыя статутам партыі тэрміны выбараў парторганаў партарганізацыямі не выконваюцца. Шырокае распаўсюджанне атрымала нічым не апраўдваемая практыка кааптацыі розных кіруючых работнікаў у члены пленумаў райкомаў, гаркомаў, крайкомаў, абкомаў, ЦК нацкампартый.

Устаноўлены статутам партыі парадак зацверджання вышэйстаячымі партыйнымі органамі сакратароў парткамітэтаў у радзе партарганізацый фактычна ператворан у назначэнства. Зацверджанне сакратароў парткомаў нярэдка адбываецца да абрання іх у мясцовых партарганізацыях, а гэта на практыцы прыводзіць да таго, што мясцовыя партарганізацыі не маюць магчымасці абмеркаваць кандыдатуру рэкамендуемага работніка.

Зацверджанне на выбарных пасадах і зняцце з работы часта адбываецца ў парадку апросных рашэнняў парторганаў і без рэкамендацыі новых работнікаў Пленума партыйнага камітэта, а таксама без растлумачэння партарганізацыям матываў зняцця таго або іншага партыйнага кіраўніка.

Што датычыць выбараў парторганаў, то усё яшчэ існуе практыка, у сілу якой абмеркаванне спісаў кандыдатаў адбываецца толькі на папярэдніх нарадах, советах старэйшын, сходах дэлегацый, пры чым, як правіла, спрэчкі па кандыдатурах на самых пленумах і канферэнцыях не адкрываюцца, галасаванне робіцца спісам, а не персанальна, і, такім чынам, выбарная працэдура ператвараецца у простую фармальнасць.

Усе гэтыя факты парушэння асноў дэмакратычнага цэнтралізма наносяць партыі шкоду, бо яны тармозяць рост актыўнасці членаў партыі, пазбаўляюць актыў, які мае асаблівае палітычнае значэнне у жыцці нашай партыі, магчымасці ўдзелу ў кіруючай рабоце, пазбаўляюць членаў партыі іх законных праў кантролю над дзейнасцю

парторганаў і тым самым парушаюць правільныя ўзаемаадносіны паміж кіраўнікамі і партыйнымі масамі.

Яркімі прыкладамі такой практыкі з'яўляюцца ўскрытыя ЦК ВКП(б) за апошні час факты абураючай запушчанасці партыйна-палітычнай работы у Азова-Чорнаморскім крайкоме, кіеўскім абкоме і ЦК КП(б)У і іншых партарганізацыях, якія выражаюцца ў грубых парушэннях статута партыі і прынцыпаў дэмакратычнага цэнтралізма ў сэнсе адыходу ад выбарнасці парторганаў і ўвядзення нецярпімай практыкі кааптацыі.

Пленум ЦК ВКП(б) падкрэслівае, што прыклады няправільнага кіраўніцтва, ускрытыя ў кіеўскім абкоме і Азова-Чорнаморскім краі, не адзінкавы, а ўласцівы ў той або іншай меры ўсім краявым і абласным партарганізацыям.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, што ліквідацыя гэтых і падобных ім недахопаў з'яўляецца той неабходнай умовай, без якой не могуць быць выкананы новыя задачы партыі, узнікшыя ў сувязі з фактам павароту ў палітычным жыцці краіны, з прыняццем новай Канстытуцыі і з надыходзячымі выбарамі вярхоўных органаў краіны на пачатках усеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

Неабходна пагэтаму перабудаваць партыйную работу на аснове безумоўнага і поўнага правядзення у жыццё пачаткаў унутрыпартыйнага дэмакратызма, прадпісваемага статутам партыі.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць неабходным ажыццявіць і абавязвае ўсе партарганізацыі правесці ў жыццё наступныя мерапрыемствы:

1. Ліквідаваць практыку каалтацыі ў члены парткамітэтаў і аднавіць у адпаведнасці са статутам партыі, выбарнасць кіруючых органаў партарганізацый.

2. Забараніць пры выбарах парторганаў галасаванне спісам. Галасаванне рабіць па асобных кандыдатурах, забяспечыўшы пры гэтым за усімі членамі партыі неабмежаванае права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх.

3. Устанавіць пры выбарах парторганаў закрытае (тайнае) галасаванне кандыдатаў.

4. Правесці ва ўсіх партарганізацыях выбары парторганаў, пачынаючы ад парткамітэтаў пярвічных партарганізацый і канчаючы краявымі, абласнымі камітэтамі і ЦК нацкомпартый, закончыўшы выбары не пазней 20 мая.

5. Абавязаць усе партарганізацыі журова выконваць у адпаведнасці са статутам партыі тэрміны выбараў парторганаў: у пярвічных партарганізацыях 1 раз у год, у раённых і гарадскіх арганізацыях 1 раз у год, у абласных, краявых і рэспубліканскіх —1 раз у 1½ года.

6. Забяспечыць у пярвічных партарганізацыях суровае захаванне парадку выбараў парткомаў на агульназаводскіх сходах, не дапускаючы падмены апошніх канферэнцыямі.

7. Ліквідаваць маючую месца у радзе пярвічных партарганізацый практыку фактычнай адмены агульных сходаў і падмены агульнага сходу цэхавымі сходамі і канферэнцыямі.

# Аб арганізацыі выбараў парторганаў

*Усім арганізацыям ВКП(б)*

1. Пры правядзенні выбараў партыйных органаў неабходна строга кіравацца наступным рашэннем Пленума ЦК ВКП(б) ад 27 лютага 1937 года:

> «Забараніць пры выбарах партыйных органаў галасаваць спісам. Галасаванне рабіць па асобных кандыдатурах, забяспечыўшы пры гэтым усім членам партыі неабмежаванае права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх. Устанавіць пры выбарах партыйных органаў закрытае (тайнае) галасаванне кандыдатаў».

2. Закрытым (тайным) галасаваннем абіраюцца:

а) дэлегаты ад пярвічных партыйных арганізацый на раённыя, гарадскія партыйныя канферэнцыі і дэлегаты ад раённых, гарадскіх, акруговых партыйных канферэнцый на абласныя, краявыя, партыйныя канферэнцыі і з'езды нацкампартый;

б) члены партыйных камітэтаў і партыйныя арганізатары (там, дзе няма парткомаў) пярвічных партыйных арганізацый, члены пленумаў райкомаў, гаркомаў, абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкампартый;

в) сакратары парткомаў пярвічных партарганізацый, сакратары і члены бюро райкомаў, гаркомаў, акругкомаў, абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкампартый (абіраюцца на пленумах адпаведных камітэтаў).

3. Перад правядзеннем выбараў партыйная канферэнцыя (партыйны сход) устанаўляе колькасць членаў і кандыдатаў абіраемых партыйных органаў.

4. Кандыдатуры ў новы склад партыйнага органа вылучаюцца дэлегатамі і абмяркоўваюцца персанальна непасрэдна на самой партыйнай канферэнцыі (асобна ў члены і кандыдаты партыйнага органа).

Папярэдняе складанне спісаў і абмеркаванне іх паміма пленарнага пасяджэння партыйнай канферэнцыі (сходу) не дапускаецца.

Абмеркаванне ўсіх кандыдатур, вылучаных у склад партыйнага органа, вядзецца ў тым парадку, як яны былі запісаны, па меры іх паступлення ў прэзідыум партыйнай канферэнцыі (партыйнага сходу).

5. Пры персанальным абмеркаванні кандыдатур павінна быць забяспечана неабмежаванае права адводу вылучаных кандыдатур у склад партыйнага органа, г. зн. кожны дэлегат можа адводзіць усякую колькасць вылучаных кандыдатур і па кожнай вылучанай кандыдатуры можа выказвацца неабмежаваная колькасць дэлегатаў як «за», так і «супроць».

Дэлегаты партыйнай канферэнцыі з правам дарадчага голасу і кандыдаты ў члены ВКП(б) на сходах пярвічных партарганізацый карыстаюцца правам дарадчага голасу пры абмеркаванні кандыдатур у партыйныя органы.

6. Пасля абмеркавання кандыдатур, супроць якіх паступілі адводы, неабходна, у кожным асобным выпадку, у парадку адкрытага галасавання, вырашаць пытанне аб уключэнні ці неўключэнні данай кандыдатуры ў спіс, складаемы партыйнай канферэнцыяй (сходам) для правядзення выбараў у партыйныя органы закрытым (тайным) галасаваннем.

Пры гэтым неабходна падлічыць усе галасы як «за адвод», так і «супроць адводу».

Спісы для закрытага (тайнага) галасавання не павінны мець ніякіх паметак і не павінны нумаравацца.

7. Перад правядзеннем выбараў партыйных органаў для падліку рэзультатаў галасавання партыйная канферэнцыя (партыйны сход) абірае счотную камісію ў колькасці, устанаўляемай канферэнцыяй (сходам).

Перад галасаваннем старшыня счотнай камісіі абавязан растлумачыць дэлегатам партыйнай канферэнцыі (сходу) парадак правядзення закрытага (тайнага) галасавання.

Счотная камісія перад закрытым галасаваннем абавязана падрыхтаваць выбарчыя скрынкі й асабіста іх апячатаць.

8. Закрытае (тайнае) галасаванне пры выбарах партыйных органаў павінна праводзіцца на закрытым пасяджэнні партыйнай канферэнцыі ў прысутнасці толькі дэлегатаў з правам рашаючага голасу.

9. Кожны дэлегат з правам рашаючага голасу атрымлівае адзін экземпляр спіса кандыдатур, намечаных канферэнцыяй (сходам) у партыйны орган. На дэлегацкім мандаце члена партыі ці ў спісах прысутных на канферэнцыі (сходзе) членаў партыі павінна быць зроблена адзнака аб тым, што член партыі прымаў удзел у галасаванні.

10. Кожны дэлегат у спісе кандыдатур пры закрытым (тайным) галасаванні мае права закрэсліваць асобныя кандыдатуры ці дадаваць новыя кандыдатуры ў склад партыйнага органа.

11. Пасля галасавання счотная камісія ўскрывае выбарчыя скрынкі, не выходзячы з будынка канферэнцыі (партыйнага сходу), праводзіць падлік рэзультатаў галасавання, асобна членаў партыйных органаў і асобна кандыдатаў у члены партыйных органаў.

Счотная камісія абавязана падлічыць усе галасы «за» і «супроць» кожнай кандыдатуры паасобку.

Пасля падліку галасоў счотная камісія складае пратакол, у які заносіць рэзультаты галасавання па кожнай кандыдатуры паасобку, і ўсе члены камісіі падпісваюць гэты пратакол.

У памяшканні, дзе праводзіцца падлік, ніхто не мае права знаходзіцца, апрача членаў счотнай камісіі.

12. Счотная камісія на пленарным пасяджэнні партыйнай канферэнцыі (партыйным сходзе) дакладвае рэзультаты галасавання па кожнай кандыдатуры паасобку.

Абранымі ў склад партыйнага органа лічацца кандыдатуры, якія атрымалі большасць галасоў, але не менш палавіны галасоў, прысутных на канферэнцыі дэлегатаў з правам рашаючага голасу.

13. Усе матэрыялы закрытага (тайнага) галасавання (спісы кандыдатур, пісьмовыя заявы, падлікі галасавання і т. п.) павінны захоўвацца ў партыйных органах на правах сакрэтных дакументаў.

**ЦК ВКП(б).**

20 сакавіка 1937 г.

# Аб выніках пленума ЦК ВКП(б)

***Рэзалюцыя схода актыва Менскай гарадской арганізацыі КП(б)Б па дакладу тав. ВАЛКОВІЧА***

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад тав. Валковіча аб выніках Пленума ЦК ВКП(б), сход партыйнага актыва Менскай гарадской партыйнай арганізацыі ў колькасці больш тысячы чалавек поўнасцю ухваляе рашэнні Пленума ЦК ВКП(б) і патрабуе ад партыйных арганізацый Беларусі, партыйных кіраўнікоў і ўсіх камуністаў няўхільнага правядзення іх у жыццё.

Каб стаць на чале павароту ў палітычным жыцці краіны і забяспечыць кіруючую ролю партыі ў надыходзячых выбарах у вярхоўныя органы краіны на аснове Сталінскай Канстытуцыі: «Для гэтага патрабуецца, каб партыя сама праводзіла паслядоўную дэмакратычную практыку, каб яна праводзіла да канца ва ўнутрыпартыйным жыцці асновы дэмакратычнага цэнтралізма, як гэтага патрабуе статут партыі, каб яна сама мела неабходныя ўмовы, у сілу якіх усе органы партыі з'яўляліся-б выбарнымі, каб крытыка і самакрытыка развівалася ў поўнай меры, каб адказнасць партыйных органаў перад партыйнай масай была поўная і каб сама партыйная маса была поўнасцю актывізавана». (З рэзалюцыі Пленума ЦК ВКП(б) па дакладу т. Жданава).

Партактыў Менскай партыйнай арганізацыі адзначае, што ЦК КП(б)Б і Менскі гарком, захапіўшыся гаспадарчай работай, падмянялі гаспадарчыя органы, закінулі партыйна-палітычную работу і работу па выхаванню камуністаў, аслабілі палітычную работу ў горадзе, прынізілі ролю горада, як асноўнай базы партыйна-палітычнай работы партыі.

Страціўшы густ да партыйна-палітычнай работы, кіраўнікі КП(б)Б і Менскай партыйнай арганізацыі страцілі густ да самакрытыкі, якая з'яўляецца ў руках партыі магутнай зброяй барацьбы за выхаванне кадраў, выпраўленне ўсіх памылак і прарываў у нашай рабоце.

Актыў лічыць, што бальшэвіцкая крытыка і самакрытыка ў КП(б)Б і ў Менскай партыйнай арганізацыі разгорнуты зусім недастаткова.

Пленумы ЦК КП(б)Б, Менскага гаркома, райкомаў і сходы партактыва са сродку крытыкі нашых недахопаў і самакрытыкі партыйных кіраўнікоў ператварыліся ў арэну пустых парадаў, хвасліваых маніфестацый аб поспехах, што наносіла велізарную шкоду нашай партыйнай арганізацыі, тармазіла рост актыўнасці членаў партыі.

Важнейшы прынцып арганізацыйнага будаўніцтва нашай партыі — дэмакратычны цэнтралізм — быў у Менскай партыйнай арганізацыі і у КП(б)Б падменен небальшэвіцкай практыкай кааптацыі і прамым назначэнствам. І гэта магло мець месца толькі ў выніку таго, што

Менскі гарком, горрайкомы і ЦК КП(б)Б не толькі не павялі барацьбу з гэтай небольшэвіцкай практыкай, але самі патуралі гэтаму, кааптаваўшы ў Менскі гарком 10 членаў пленума, а ў ЦК КП(б)Б 24 члены і 10 кандыдатаў пленума. Гэта небольшэвіцкая практыка аблягчала класаваму ворагу пранікненне ў кіруючыя партыйныя органы.

ЦК КП(б)Б і Менскім гаркомам КП(б)Б быў груба парушан пункт статута партыі аб «перыядычнай справаздачнасці партыйных органаў перад сваімі партыйнымі арганізацыямі» і парушаны тэрміны выбарнасці. ЦК КП(б)Б і Менскі гарком ні разу не адчыталіся перад партыйнымі арганізацыямі; большасць парткомаў і парторгаў не адчытвалася і не пераабіралася на працягу чатырох год. Гэта супярэчачая асновам большэвізма практыка прывяла да бескантрольнасці ў рабоце ЦК КП(б)Б, Менскага гаркома, горрайкомаў і парткомаў, да іх адыходу ад прамой адказнасці перад партыйнымі масамі, да ўшчымлення правоў членаў партыі і пазбавіла членаў партыі іх законных правоў кантролю над дзейнасцю партыйных органаў, чым былі парушаны правільныя ўзаемаадносіны паміж кіраўнікамі і партыйнымі масамі.

Бескантрольнасць у рабоце ЦК КП(б)Б, Менскага гаркома і зусім недастатковае разгортванне крытыкі і самакрытыкі ў партыйных арганізацыях стваралі атмасферу самасупакоенасці, дабрадушнасці, падхалімства, узаемаўсхвалявання, сямейственасці і праяўлення групаўшчыны.

Актыў ухваляе рашэнне бюро ЦК КП(б)Б ад 19 сакавіка гэтага года аб тым, што перадавы артыкул «Звязды» ад 8 лютага гэтага года «культывуе варожыя большэвізму і асуджаныя партыяй падхалімства і ўгодніцтва, якія, як правільна ўказвае «Правда», глыбока ўмацаваліся ў Беларускай партыйнай арганізацыі».

Менскі гарадскі партыйны актыў адзначае, што ўсё гэта прывяло да паслаблення пільнасці ў КП(б)Б і ў Менскай партыйнай арганізацыі. Скончыўшы праверку і абмен партыйных дакументаў, партыйныя арганізацыі КП(б)Б і Менская партыйная арганізацыя самасупакоіліся, забыўшы неаднаразовыя папярэджанні ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна аб неабходнасці ўсямернага павышэння рэвалюцыйнай пільнасці і далейшага выкрыцця контррэвалюцыйных варожых элементаў. Гэта прывяло да таго, што варожым элементам да апошняга часу ўдавалася аставацца нявыкрытымі.

Некаторыя партыйныя кіраўнікі КП(б)Б забыліся, што СССР знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні, што буржуазія няспынна засылае і будзе засылаць да нас сваіх шпіёнаў і дыверсантаў, і прагледзелі той факт, што трацкізм ужо даўно перастаў быць палітычнай плынню ў рабочым руху і ператварыўся ў банду агалцелых забойцаў, дыверсантаў, шпіенаў. Трацкісты з'яўляюцца знаходкай для капіталістычных краін у фармаванні імі ўсякіх антысавецкіх, дыверсанцкіх і шпіёнскіх банд.

Забываць гэта асабліва недапушчальна для кіраўнікоў і членаў КП(б)Б, якія працуюць у пагранічных умовах.

Асабліва засмечанымі варожымі элементамі ў Беларусі аказаліся ўчасткі ідэалагічнай работы (прапаганда, друк і інш.). Гэта сведчыць аб недаацэнцы з боку кіруючых партыйных органаў КП(б)Б значэння ідэалагічнага фронта і паслядоўнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі партыі ва ўмовах КП(б)Б.

Сход актыва асуджае практыку недаацэнкі ідэалагічнага прапагандысцкага фронта і друкаванага слова і патрабуе ад партыйных кіраўнікоў аднаўлення значэння справы палітычнай агітацыі, друку і прапаганды ленінізма, узрыму ролі агітатараў, прапагандыстаў, сістэматычна правяраючы іх на рабоце. Сход партыйнага актыва звяртае асаблівую ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на выключную важнасць палітычнай агітацыі ва ўмовах новай Канстытуцыі і прызнае нездавальняючым становішча палітычнай агітацыі у горадзе і сяле.

Актыў адзначае, што ЦК КП(б)Б, Менскі гарком і райкомы не зрабілі неабходных вывадаў з указанняў ЦК ВКП(б) аб выпраўленні памылак, дапушчаных у часе праверкі і абмену партыйных дакументаў у адносінах выключаных з партыі за пасіўнасць, і лічыць неабходным, каб неадкладна прыступіць да выпраўлення дапушчаных памылак у адносінах выключаных з партыі за пасіўнасць або за малазначачыя праступкі.

Сход партыйнага актыва адзначае дабрадушнасць і самасупакоенасць у кіраўнікоў наркаматаў і трэстаў у справе ліквідацыі вынікаў шкодніцтва. Актыў лічыць, што важнейшай задачай партыйных арганізацый КП(б)Б і Менскай партыйнай арганізацыі з'яўляецца ўцягванне камуністаў-гаспадарнікаў у актыўную работу партыйных арганізацый, рашучая барацьба з апалітыцызмам гаспадарнікаў-камуністаў і патрабуе ад усіх гаспадарчых кіраўнікоў і ўсіх партыйных арганізацый сур'ёзнейшага большэвіцкага засваення ўрокаў шкодніцтва, дыверсіі і шпіянажу япона-нямецкіх трацкісцкіх агентаў і іх правых саўдзельнікаў, баявой мабілізацыі ўсіх членаў партыі, усіх рабочых, інжынераў і тэхнікаў на хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва. Лозунг—авладанне тэхнікай, як нас вучыць таварыш Сталін, павінен быць дапоўнен лозунгам—авалоданне большэвізмам.

Надыходзячыя выбары партыйных органаў павінны прайсці пад знакам разгортвання большэвіцкай самакрытыкі ўсіх недахопаў работы партыйных арганізацый, павышэння пільнасці і барацьбы з сямейственасцю і падхалімствам, выкрыцця нягодных, адарваўшыхся ад мас кіраўнікоў. У кіруючыя партыйныя органы павінны быць выбраны лепшыя, звязаныя з партыйнымі масамі, вырасшыя партыйныя кадры. Трэба дабіцца больш смелага вылучэння правераных камуністаў-беларусаў.

Выбары у партыйныя органы павінны прайсці на аснове дакладнага і бяспрэчнага захавання ўсіх указанняў ЦК ВКП(б), даных у пісьме ЦК ВКП(б) ад 20 сакавіка гэтага года аб парадку выбараў. Актыў даручае гаркому і райкомам партыі весці бязлітасную барацьбу з усімі парушальнікамі унутрыпартыйнай дэмакратыі.

Кіраваць у сучасны момант—гэта значыць быць цесна і непарыўна звязаным з працоўнымі, быць чулым да сігналаў, якія ідуць ад радавых работнікаў, умець не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас, смела развіваць большэвіцкую крытыку і самакрытыку недахопаў работы тых ці іншых кіраўнікоў «не гледзячы на асобы».

Кіраваць у сучасных умовах гэта значыць па-большэвіцку падбіраць і выхоўваць кадры, кіравацца ў падборы кадраў выключна палітычнымі і дзелавымі якасцямі вылучаемых работнікаў, адмятаючы

небальшэвіцкі, антыпартыйны падыход да вылучэння на работу па адзнаках сямейственасці, арцельнасці, патурання «сваім» людзям.

Кіраваць цяпер—гэта значыць арганізаваць сістэматычную, штодзенную праверку кадраў па іх рабоце, злучаючы праверку зверху з праверкай знізу праз партыйныя і беспартыйныя актывы, праз дзелавыя справаздачы, праз выбары. Гэта значыць—выхоўваць і навучаць кадры работнікаў на ўласных памылках, ніколі не змазваць дапушчаных памылак, памятаючы аб тым, што змазванне памылак гу біць кадры.

Актыў поўнасцю ўхваляе рашэнне ЦК ВКП(б) па Лепельскаму раёну і ўказанні ЦК ВКП(б) тав. Гікало—б. першаму сакратару ЦК КП(б) Беларусі, сакратару ЦК тав. Валковічу і старшыні СНК БССР тав. Галадзеду на тое, што толькі адсутнасць грамадска-палітычнай работы і палітычная слепата ў адносінах органаў, якія працуюць пад іх кіраўніцтвам, зрабілі магчымым факты масавай незаконнай канфіскацыі маемасці ў сялян у Лепельскім раёне.

Гэта рашэнне ЦК ВКП(б) яшчэ раз пацвярджае аб адарванасці ад мас кіруючых партыйных органаў, што павінна з'явіцца сур'ёзнейшым папярэджаннем усім партыйным і савецкім арганізацыям БССР.

Партактыў лічыць неабходным, каб ЦК КП(б)Б прыняў меры да ўзмацнення апаратыўнасці і сувязі з масамі, разгортвання самакрытыкі і крытыкі недахопаў у рабоце СНК БССР і наркаматаў. Гэтыя-ж меры павінны быць прыняты і ў адносінах Менскага горсовета з боку гаркома КП(б)Б.

Актыў горада Менска поўнасцю ўхваляе рашэнне Пленума ЦК ВКП(б) аб выключэнні з партыі подлых здраднікаў справы соцыялістычнай рэволюцыі Бухарына і Рыкава за іх контррэволюцыйную работу, накіраваную на рэстаўрацыю капіталізма ў нашай краіне і аднаўленне ўлады буржуазіі.

Партыйны актыў гор. Менска запэўнівае ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна, што большэвікі Беларусі будуць няўхільна змагацца за ажыццяўленне рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б), штодзенна ўмацоўваць сувязь партыі з шырокімі масамі працоўных, бязлітасна выкрываць ворагаў соцыялізма, штодзенна ўмацоўваючы пагранічную БССР—баявы фарпост Совецкага Саюза на стыку з капіталістычным светам.

## *Інфармацыйнае паведамленне*

# Пленум ЦК КП(б)Б

*14—18 сакавіка адбыўся пленум ЦК КП(б)Б. Пленум абмеркаваў вынікі Пленума ЦК ВКП(б) і прыняў па гэтаму пытанню рашэнне.*

*Пленум падверг крытыцы недахопы і памылкі бюро ЦК і ўсей КП(б)Б. Статут партыі ў партыйных арганізацыях КП(б)Б груба парушаўся, асноўны прынцып арганізацыйнага будаўніцтва нашай партыі—дэмакратычны цэнтралізм—быў у партыйных арганізацыях Беларусі падменен небольшэвіцкай практыкай кааптацыі і прамым назначэнствам, як гэта мела месца ў ЦК КП(б)Б, а таксама ў Слуцкай, Гомельскай, Бабруйскай, Барысаўскай і радзе іншых партыйных арганізацый.*

*Гэта супярэчачая асновам большэвізма практыка работы партыйных арганізацый КП(б)Б прывяла да бескантрольнасці ў рабоце кіруючых партыйных органаў КП(б)Б і іх адыходу ад прамой адказнасці перад партыйнымі масамі, да страты рэволюцыйнай пільнасці і пазбавіла членаў КП(б)Б іх законных правоў кантролю над дзейнасцю партыйных органаў, чым былі парушаны правільныя ўзаемаадносіны паміж кіраўнікамі і партыйнымі масамі.*

*Усё гэта стварыла ў партыйных арганізацыях і сярод іх кіраўнікоў атмасферу самасупакоенасці і дабрадушнасці, тармазіла разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, даючы магчымасць контррэволюцыйным трацкісцкім бандытам, шпіенам і дыверсантам пад гімн хвалебных песень, угоднічання і падхалімства перад партыйнымі кіраўнікамі ўсыпляць іх пільнасць, уцірацца да іх у давер'е, пранікаць не толькі ў совецка-гаспадарчы, але і ў партыйны апарат і спакойна тварыць гнусную падрыўную работу.*

*Пленум ЦК КП(б)Б адзначыў, што бюро ЦК КП(б)Б не вяло рашучай барацьбы з гэтай чуждай большэвізму практыкай, якая ўкаранілася ў рабоце кіруючых партыйных органаў КП(б) Беларусі, што асабліва недапушчальна ва ўмовах пагранічнай партыйнай арганізацыі, якой з'яўляецца КП(б)Б.*

*Пленум звярнуў увагу партыйных арганізацый на неабходнасць хуткага перамагання недахопаў і памылак у партыйнай рабоце, каб ўзначаліць рост палітычнай актыўнасці мас, стаць на чале новых, да канца дэмакратычных выбараў, забяспечыць поўнае ажыццяўленне Сталінскай Канстытуцыі, умацоўваючай і пашыраючай базу дыктатуры пролетарыята.*

*Перад КП(б)Б стаіць велізарная задача— арганізацыя працоўных мас на ўскрыццё манеўраў класавага ворага, вылучэнне ў якасці кан-*

*дыдатаў у кіруючыя органы праверапых, да канца адданых партыі і совецкай уладзе людзей, якія карыстаюцца давер'ем працоўных мас.*

*Пленум указаў усім партыйным арганізацыям КП(б)Б, што гэтыя адказнейшыя задачы, якія стаяць перад нашай партыяй у сувязі з надыходзячымі выбарамі ў вярхоўныя органы краіны, будуць паспяхова ажыццёулены толькі у тым выпадку, калі мы неадкладна правядзем у жыцце ўказанні Пленума ЦК ВКП(б) аб тым, «каб партыя сама праводзіла паслядоўную дэмакратычную практыку, каб яна праводзіла да канца ва унутрыпартыйным жыцці асновы дэмакратычнага цэнтралізма, як гэтага патрабуе статут партыі, каб яна сама мела неабходныя ўмовы, у сілу якіх усе органы партыі з'яўляліся-б выбарнымі, каб крытыка і самакрытыка развівалася у поўнай меры, каб адказнасць партыйных органаў перад партыйнай масай была поўная і каб сама партыйная маса была поўнасцю актывізавана».*

*Пленум ЦК КП(б)Б указаў партыйным арганізацыям, што выкананне гэтых рашэнняў ЦК ВКП(б) з'яўляецца рашаючым для таго, каб узначаліць надыходзячыя выбары ў вярхоўныя органы краіны і заклікаў усіх членаў КП(б)Б яшчэ цясней згуртавацца вакол вялікага Сталіна і ЦК ВКП(б).*

* * *

*Пленум ЦК КП(б)Б абмеркаваў пастановы ЦК ВКП(б) па Лепельскаму раену і заслухаў паведамленне аб ходзе іх выканання. Пленум цалкам і поўнасцю ўхваліў гэтыя пастановы і прызнаў правільным указанне ЦК ВКП(б) тав. Гікало—былому першаму сакратару ЦК Беларусі, сакратару ЦК КП(б)Б тав. Валковічу і старшыні Соунаркома БССР тав. Галадзеду на тое, што толькі адсутнасць грамадска-палітычнай работы і палітычная слепата ў адносінах органаў, працуючых пад іх кіраўніцтвам, зрабілі магчымымі факты масавай незаконнай канфіскацыі маёмасці ў сялян у Лепельскім раёне.*

*Пленум прызнаў нездавальняючым ход выканання гэтага рашэння і, адзначыўшы, што грубыя парушэнні рэволюцыйнай законнасці ў адносінах калгаснікаў і аднаасобнікаў маюць месца і ў іншых раёнах БССР, намеціў меры, ліквідуючыя гэтыя парушэнні і забяспечваючыя выкананне пастановы ЦК ВКП(б) па Лепельскаму раёну.*

* * *

*Пленум ЦК КП(б)Б таксама рашыў правесці справаздачныя сходы і выбары пярвічных парторганаў да 10 красавіка г. г.*

*Выбары кіруючых парторганаў акруговых, гарадскіх і раённых партарганізацый павінны быць праведзены ў перыяд з 10 красавіка па 5 мая г. г.*

*Пленум рашыў склікаць XVI з'езд КП(б)Б 12 мая бягучага года.*

---

*Пленум ЦК КП(б)Б абраў першым сакратаром і членам бюро ЦК КП(б)Б члена ЦК КП(б)Б тав.* **ШАРАНГОВІЧА В. Ф.**

**А. Ананьеў**

Сакратар Мазырскага АК КП(б)Б

# Па-большэвіцку рэалізаваць рашэнні ЦК аб уздыме партпрапаганды і агітацыі

На XVII з'ездзе партыі таварыш Сталін, адзначыўшы слабую ідэалагічную работу партыйных арганізацый, паставіў важнейшую задачу—умацаваць ідэалагічную і прапагандысцкую работу, павысіць тэарэтычны ўзровень комуністаў.

Партыйныя арганізацыі Мазырскай акругі не могуць яшчэ пахваліцца поспехамі ў выкананні гэтага важнейшага ўказання таварыша Сталіна. Пытанні партыйнай прапаганды і палітычнай агітацыі, хоць і абмяркоўваліся на акруговай партыйнай канферэнцыі, на пленумах акругкома, нарадах сакратароў райкомаў, пасяджэннях бюро, аднак толькі цяпер партыйныя арганізацыі Мазырскай акругі пачынаюць практычна перабудоўваць агітацыйна-прапагандысцкую работу.

Перабудову агітацыйна-прапагандысцкай работы акруговы камітэт партыі пачаў з праверкі складу прапагандыстаў для таго, каб на гэту работу высунуць тэарэтычна падрыхтаваных, адданых большэвікоў.

У выніку ўважлівага падбору значна палепшыўся склад прапагандыстаў. Цяпер па акрузе працуе 130 прапагандыстаў, з якіх 102 маюць спецыяльную прапагандысцкую падрыхтоўку.

Для перападрыхтоўкі прапагандыстаў па дырэктыве ЦК КП(б)Б былі арганізаваны трохмесячныя курсы, якія далі два выпускі. Аднак некаторыя райкомы партыі несур'ёзна аднесліся да справы перападрыхтоўкі прапагандыстаў і прыслалі на курсы таварышоў, не падрыхтаваных для прапагандысцкай работы. Зараз 14 прапагандыстаў пасланы на курсы перападрыхтоўкі ў Гомель.

Акруговы камітэт партыі забяспечыў рад прапагандыстаў бібліятэчкамі, у якія ўваходзяць палітычная і мастацкая літаратура. За апошні час сталі лепш дапамагаць прапагандысту ў яго рабоце парткабінеты. Яны ўкамплектавалі бібліятэкі, арганізуюць семінары для прапагандыстаў і агітатараў. Буйнейшым недахопам у нашай рабоце з'яўляецца тое, што самі сакратары райкомаў партыі зусім недастаткова кіруюць работай прапагандыстаў, нярэдка перадаручаюць гэту важнейшую справу другарадным асобам.

* * *

Праверка работы сеткі партыйнай асветы паказала, што яна не задавальняе патрабаванням комуністаў і не забяспечвае павышэння палітычнага ўзроўню слухачоў партыйных школ. Прышлося рэарга-

нізаваць сетку паргасветы. Замест ранейшых 7 гурткоў па ленінізму цяпер працуе толькі адзін, з 78 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі засталося 68. За лік скарачэння гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі павялічылася колькасць кандыдацкіх школ: з 47 да 56. У сувязі з пераходам часткі комуністаў на завочнае навучанне і стварэннем у раёнах спецыяльных школ па ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці комуністаў, агульная колькасць школ зменшылася за год на 15.

У Мазырскай акруговай партарганізацыі налічваецца каля 500 малаграматных комуністаў. Таму асаблівую ўвагу прышлося ўдзяляць павышэнню агульнаадукацыйнага ўзроўню комуністаў. У праграму партыйных школ уключаны агульнаадукацыйныя прадметы: геаграфія і родная мова. Мы зараз паставілі перад сабой задачу на працягу двух лет дабіцца, каб комуністы з асветай НСШ набылі веды ў аб'ёме сярэдняй школы, з асветай пачатковай школы—у аб'ёме НСШ, а малаграматныя—у аб'ёме пачатковай школы.

Апрача партыйных школ, якімі ахоплена асноўная частка комуністаў, 350 комуністаў вучацца завочна. Партыйная вучоба праз БІМЗО набыла шырокую папулярнасць і ў асноўным дае добрыя вынікі.

Аднак гэта толькі першыя крокі ў перабудове агітацыйна-прапагандысцкай работы. Неабходна падкрэсліць, што рашэнне вераснёўскага пленума ЦК КП(б)Б аб партыйнай прапагандзе і палітычнай агітацыі партыйнымі арганізацыямі Мазырскай акругі не выканана. Замест таго, каб узяць кіраўніцтва справай прапаганды ў свае рукі, рад райкомаў самаадхіліўся ад гэтай важнейшай справы. Бюро Петрыкаўскага райкома прымае наступнае рашэнне: «Адказнасць за вывучэнне матэрыялаў VIII З'езда Советаў на тэрыторыі сельсоветаў бюро РК ускладае на парторгаў і старшынь сельсоветаў, а ў цэлым за арганізацыю і вывучэнне па раёну персанальная адказнасць ускладаецца на культпропа РК тав. Шынкевіча».

Райкомы партыі ўсё яшчэ мала клапоцяцца аб дапамозе прапагандыстам, аб рабоце школ партыйнай асветы. У Даманавіцкім і Лельчыцкім раёнах не арганізаваны семінары прапагандыстаў. У Петрыкаўскім раёне пропсемінары працуюць нерэгулярна. Лепшы вопыт работы не папулярызуецца, не становіцца набыткам усіх партшкол і прапагандыстаў.

Райкомы партыі не цікавяцца тым, што чытаюць прапагандысты і слухачы да чарговых заняткаў, якімі метадамі карыстаюцца прапагандысты ў сваей рабоце, якія пытанні найбольш займаюць слухачоў, што для іх засталося няясным. Гэта прыводзіць да таго, што рад школ працуе нездавальняюча, і якасць ходу вучобы не задавальняе слухачоў. У выніку гэтага ў радзе школ зніжаецца наведванне Так, напрыклад, у Петрыкаўскім раёне ў некаторых школах і гуртках частка слухачоў з 34 заняткаў прапусціла да 17—18 заняткаў. Прапагандысты (Быхавец—Лельчыцкі раен, Талкачоў—Петрыкаўскі раен і інш.) не рыхтуюцца да заняткаў. Паспяховасць слухачоў надта нізкая. Некаторыя партшколы працуюць з вялікімі перарывамі. У Лельчыцкім раёне больш двух месяцаў не працавалі гурткі, якімі кіруюць нам. сакратара райкома тав. Зобаў і культпроп Натарэвіч.

Таму не дзіўна, што па акрузе каля 76 комуністаў не ахоплена партыйнай вучобай.

Не лепш пастаўлена справа і ў комсамольскіх арганізацыях.

Гурткі па вывучэнню гісторыі партыі не забяспечаны партыйнымі кіраўнікамі. У Жыткавіцкім раёне з 13 комуністаў, вылучаных кіраўнікамі комсамольскіх гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі, 7 чалавек, у тым ліку і работнікі райкома партыі, не прыступілі да работы на працягу 3 месяцаў. Усе гэта гаворыць аб тым, што акруговы камітэт партыі павінен пытанні прапаганды паставіць у цэнтры сваёй увагі і дабіцца рашучага павароту на гэтым важнейшым участку партыйна-палітычнай работы.

* * *

Справа палітычнай агітацыі ў Мазырскай акрузе разгарнулася фактычна толькі ў жніўні верасні мінулага года. Партыйныя арганізацыі звярнулі ўвагу на падбор агітатараў, палітбяседчыкаў і чытчыкаў, стварылі нізавыя агіткалектывы. Зараз па акрузе налічваецца 80 агіткалектываў, якімі ахоплена 1243 агітатары. Аднак гэту работу нельга прызнаць здавальняючай.

Нельга ні на мінуту забываць указанні таварыша Сталіна аб тым, што

«... партыя павінна з дня ў дзень заваёўваць сабе давер'е пролетарскіх мас, што яна павінна сваёй палітыкай і сваёй работай каваць сабе падтрымку мас, што яна павінна не камандаваць, а пераконваць перш за ўсё, палягчаючы масам распазнаць на ўласным вопыце правільнасць палітыкі партыі, што яна павінна, значыць, быць кіраўніком, праваднром, настаўнікам свайго класа» *).

Пра гэта каштоўнейшае ўказанне таварыша Сталіна забыліся некаторыя партарганізацыі Мазырскай акругі. У кіраўніцтве агіткалектывамі пераважае самацёк. Агітацыя ў радзе раёнаў праводзіцца ад выпадку да выпадку, без дыферэнцыяванага падыходу. Парткабінеты мала дапамагаюць у рабоце агітатарам.

Лельчыцкі і Даманавіцкі райкомы партыі яшчэ не вылучылі і не зацвердзілі агітатараў. Жыткавіцкі райком вылучыў агітатарамі такіх комуністаў, якім трэба яшчэ многа вучыцца самім. Не наладжана справа палітычнай агітацыі і ў радзе іншых раёнаў.

У перыяд абмеркавання праекта Сталінскай Канстытуцыі Жыткавіцкі, Лельчыцкі і іншыя райкомы партыі правялі па калгасах паліт-дні, але яны не падагулілі вопыту праведзенай работы. Яны, такім чынам, не зрабілі для сябе ніякіх вывадаў з праведзенай работы, не ўлічылі ні станоўчага вопыту, ні адмоўных бакоў праведзеных палітдзён.

Студзеньскі пленум акруговага камітэта партыі, падводзячы вынікі работы парарганізацый у галіне партпрапаганды і палітагітацыі, намеціў рад мерапрыемстваў па палепшанню гэтай работы. На працягу лютага—сакавіка намечана дэталёва вывучыць пастаноўку партпрапаганды і агітацыі ў 2—3 раёнах. Прапагандысты і агітатары гэтых раёнаў будуць потым выкліканы на 2—3 дні ў акруговы цэнтр для абмеркавання вынікаў праверкі. Адначасова для іх арганізуюцца спецыяльныя лекцыі па пытаннях Канстытуцыі, гісторыі партыі, прапаганды і агітацыі.

Асноўным прадметам, які цяпер вывучаецца ў сетцы партасветы,

*) І. В. Сталін. Пытанні ленінізма, стар. 121.

зяўляецца Сталінская Канстытуцыя і даклады таварыша Сталіна на VIII надзвычайным з'ездзе советаў і апошняга пленума ЦК ВКП(б). Па калгасах акругі створана 346 спецыяльных гурткоў. Кіруе гэтымі гурткамі раённы партактыў. У дапамогу раенам па вывучэнню Канстытуцыі СССР, БССР і дакладаў таварыша Сталіна з акруговага партыйнага актыва паслана 27 чалавек.

Недахопы ў партыйна-масавай рабоце Мазырскай акруговай партарганізацыі тлумачацца тым, што мы захапляемся гаспадарчымі пытаннямі, слаба звязаны з масай, мала ўнікаем у жыццевыя запатрабаванні насельніцтва.

На адставанне палітычнай агітацыі ў акрузе паказалі факты парушэння рэволюцыйнай законнасці, адміністравання і перагібаў, ускрытыя ў раенах Мазырскай акругі. Замест штодзеннага растлумачвання масам мерапрыемстваў партыі і совецкай улады, замест пераконвання мас, актыў стаў на шлях адміністравання і грубейшага парушэння совецкіх законаў. Карэннае палепшанне палітычнай агітацыі набывае асобае значэнне цяпер, калі прынята Сталінская Канстытуцыя, якая знамянуе паварот у палітычным жыцці краіны. Наша партыйная арганізацыя павінна стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць поўнасцю сваю кіруючую ролю ў надыходзячых выбарах органаў совецкай улады.

Задача Мазырскай акруговай партыйнай арганізацыі—у бліжэйшы час ліквідаваць недахопы і дабіцца рашучага павароту ў справе партыйнай прапаганды і агітмасавай работы.

**І. Жураўлёў**

**Сакратар Віцебскага ГК КП(б)Б**

# Як Віцебскі гарком выконвае рашэнні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б

ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні «Аб выніках абмену партдакументаў у партарганізацыі КП(б) Беларусі» даў зусім правільную ацэнку работы **Віцебскага гаркома партыі:**

> «Звярнуць асаблівую увагу ЦК КП(б) Беларусі на нездавальняючую работу Віцебскага гаркома, дрэнную яго сувязь з пярвічнымі партарганізацыямі, і адсутнасць канкрэтнасці ў **кіраўніцтве партарганізацыямі».**

Гэта рашэнне ЦК ВКП(б) мае выключнае значэнне для нашай партыйнай арганізацыі, асабліва для гаркома партыі, які дапусціў **сур'ёзнейшыя памылкі ў сваёй рабоце.**

Пры правядзенні праверкі і абмену партдакументаў ЦК ВКП(б) ва ўвесь рост паставіў перад намі задачы рашучага завастрэння рэвалюцыйнай пільнасці, выяўлення і выгнання з радоў партыі ворагаў народу— контррэвалюцыйных трацкістаў-зіноўеўцаў, права-ляўлацкіх уродаў, чужых і прымазаўшыхся элементаў, сапраўднай перабудовы партыйна-масавай работы ва ўсіх яе звеннях, уздыму арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычных задач. Гэтыя указанні **Віцебскі гарком партыі ажыццявіў нездавальняюча.**

Абмяркоўваючы рашэнне ЦК ВКП(б), партыйныя пярвічныя арганізацыі падверглі рэзкай крытыцы работу Віцебскага гаркома, выявілі рад сур'езных памылак і недахопаў, якія цалкам і поўнасцю пацвярджалі правільнасць і своечасовасць рашэння ЦК ВКП(б). Слабасць разгортвання крытыкі і самакрытыкі, элементы сямейственасці, факты падхалімства, парушэння статута партыі і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, адсутнасць сістэматычнай справаздачнасці перад камуністамі, забыццё большэвіцкага ленінска-сталінскага стылю ў партыйнай рабоце, слабая сувязь з пярвічнымі партарганізацыямі і камуністамі —вось асноўныя прычыны нездавальняючай работы **Віцебскага гаркома партыі.**

З-за страты кіруючымі работнікамі рэвалюцыйнай пільнасці ў паравозным дэпо доўгі час арудавала, пад бокам гаркома і палітаддзела дарогі, контррэвалюцыйная група трацкістаў. Рэзультаты яе шкодніцкай работы не ліквідаваны і да гэтага часу. З-за страты гаркомам рэвалюцыйнай большэвіцкай пільнасці 39 контррэвалюцыянераў-трацкістаў і іх прыслешнікаў атрымалі новыя партбілеты. Віцебскі гарком дрэнна ўвязаў праверку і абмен партдакументаў з уздымам партыйна-масавай работы. Ён не ўлічыў папярэджання ЦК КП(б)Б аб тым, што «важнейшая задача Віцебскай партарганізацыі—

далейшае разгортванне крытыкі і самакрытыкі, узмацненне пільнасці і ўздым боездольнасці партыйнай арганізацыі».

Бюро ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні ўказала

«...Факт выдачы новых партыйных дакументаў яўным ворагам партыі сведчыць, што паасобныя партыйныя арганізацыі яшчэ не выхаваны ў духу большэвіцкай непрымірымасці да ворагаў партыі, што ў партыйнай арганізацыі крытыка і самакрытыка разгорнуты недастаткова і ў паасобных партарганізацыях ёсць элементы гнілаліберальных адносін да ворагаў партыі».

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб нездавальняючай рабоце Віцебскага ГК і рашэнне ЦК КП(б)Б аб практычных мерапрыемствах па палепшанню работы ў віцебскай гарадской партыйнай арганізацыі аказалі вялікую дапамогу ў палепшанні работы гаркома партыі, умацаванні сувязі яго з пярвічнымі партарганізацыямі, павышэнні рэвалюцыйнай пільнасці і разгортванні большэвіцкай самакрытыкі, не гледзячы на асобы.

Бюро гаркома правяло цэлы рад практычных мерапрыемстваў па перабудове работы свайго апарата. Зараз аддзелы гаркома працуюць па плану. Галоўная ўвага ўдзелена асноўным пытанням партыйнай работы (прыём у партыю, выкананне статута партыі, работа з кожным членам партыі, марксісцка-ленінскае выхаванне і т. д.). Сакратарыят гаркома кантралюе выкананне. Работа ў пярвічных партарганізацыях размеркавана паміж інструктарамі гаркома па вытворчаму прынцыпу. Месячныя планы работы кожнага інструктара складаюцца і зацвярджаюцца на сакратарыяце гаркома, выходзячы з асаблівасцей групы прымацаваных да яго партарганізацый. У планах указваецца, на што інструктар павінен звярнуць галоўнейшую ўвагу і як дапамагчы партарганізацыі ў рабоце. Інструктар прадстаўляе сакратару гаркома дакладную запіску аб праведзенай ім рабоце, і ў сувязі з гэтым ставіцца цэлы рад пытанняў на сакратарыяце або бюро гаркома.

Сакратары гаркома два разы ў месяц склікаюць нарады інструктароў па пытаннях арганізацыйна-партыйнай работы. З найбольш падрыхтаваных і правераных работнікаў партыйнага актыва бюро зацвердзіла 40 чалавек пазаштатнымі інструктарамі. Гэтыя таварышы прымацаваны да паасобных груп партыйных арганізацый, сістэматычна наведваюць іх і дапамагаюць у рабоце.

Пленум гаркома партыі, заслухаўшы даклад двух інструктараў, узяў іх работу пад рэзкую крытыку, якая дапамагла выявіць усе слабыя бакі, павысіць ролю і аўтарытэт інструктара, палепшыць якасць яго работы і сувязь гаркома з пярвічнымі партарганізацыямі. Сакратары гаркома загадзя ведаюць час і павестку дня партсходаў і, у залежнасці ад важнасці пытання, самі наведваюць партсходы, або пасылаюць членаў бюро. Практыкуецца, праўда, яшчэ нерэгулярна, выклік сакратароў пярвічных арганізацый да сакратара гаркома па пытаннях жыцця і работы партарганізацыі. Побач з агульнымі нарадамі сакратароў парткомаў і парторгаў гарком склікае групавыя нарады для інструктажу аб спецыфічных задачах іх работы. Для больш блізкай сувязі з камуністамі ў сакратароў гаркома ўстаноўлен штодзенны прыём ад 2 да 5 гадзін.

Праведзеныя арганізацыйныя мерапрыемствы спрыялі значнаму палепшанню работы гаркома партыі. Рашэнні бюро сталі больш канкрэтнымі. У кожным рашэнні ўказваецца дата выканання і на каго

ўскладаецца кантроль. Па скончэнні тэрміну ставіцца на сакратарыяце або бюро інфармацыя аб выкананні.

Пасля рашэнняў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б значна змяніўся змест работы бюро і сакратарыята Віцебскага гаркома партыі. На пасяджэннях у большасці ставяцца пытанні ўнутрыпартыйнага жыцця і палітвыхаваўчай работы. Кіраўніцтва совецкай, гаспадарчай работамі у асноўным ажыццяўляецца праз партгрупу горсовета. Павестка дня загадзя падрыхтоўваецца спецыяльнай нарадай у складзе сакратароў гаркома, загадчыка культпропа, члена бюро, старшага інструктара і інструктароў, што дае магчымасць уключыць у павестку самыя актуальныя пытанні партыйнай работы.

У студзені і лютым гэтага года бюро ГК абмеркавала 135 пытанняў аб унутрыпартыйнай рабоце—69, аб ходзе вывучэння Сталінскай Канстытуцыі—3, аб соцспаборніцтве і стаханаўскім руху—2, аб кіраўніцтве комсамолам—3, гаспадарчых—4, персанальных—54.

На сакратарыяце за гэты-ж перыяд часу было абмеркавана ўсяго 37 пытанняў: аб унутрыпартыйнай рабоце, прапагандзе і агітацыі—20, заяў комуністаў—5, абароннай работы—2, соцспаборніцтва і стаханаўскага руху—1, комсамольскіх—1, аб заціску самакрытыкі—1, сельскагаспадарчых—3, розных—4.

Як бачым, галоўная ўвага ўдзялялася пытанням унутрыпартыйна-масавай работы, прапаганды і палітагітацыі. Адначасова бюро гаркома і сакратарыят разглядзелі і зацвердзілі планы работ парткомаў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ», парткабінетаў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», імя Кагановіча, «КІМ», шчоткамбіната, справаздачы інструктароў гаркома аб выкананні імі плану работ за студзень і аб задачах на люты.

За апошні час бюро і сакратарыят гаркома вынеслі пастанову аб няправільных і неканкрэтных рашэннях, прынятых на сходах партарганізацый ФЗУ швейнікаў, канторы сувязі, арцелі «Каапрамонт» і інш. Інфармацыя аб гэтай пастанове бюро была заслухана на нарадзе сакратароў парткомаў і парторгаў.

Бюро гаркома абмеркавала і такое важнейшае пытанне, як парушэнне у радзе пярвічных партарганізацый 49-га параграфа статута партыі. Гэты параграф статута, прыняты XVII з'ездам партыі, дакладна ўказвае, што цэхавыя партарганізацыі, а ўнутры іх партыйныя групы, ствараюцца ў тым выпадку, калі на прадпрыемстве налічваецца ад 100 членаў партыі да 3000 і вышэй.

Гэта патрабаванне статута аб стварэнні цэхавых партарганізацый яўна парушалася. Так, на заводзе «Комінтэрн» пры наяўнасці 50 членаў і кандыдатаў партыі існавалі 4 цэхавыя партарганізацыі, на акулярнай фабрыцы пры наяўнасці 47 членаў і кандыдатаў партыі—5 цэхавых партарганізацый. Такая структура партарганізацыі прывяла да распылення сіл, да аслаблення работы, да адрыву парткомаў і іх сакратароў ад членаў партыі.

Рашэннем бюро гаркома цэхавыя партгрупы былі пакінуты толькі у 3 партарганізацыях, якія налічвалі больш 100 комуністаў (фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ» і паравознае дэпо). Гэта рашэнне было поўнасцю ўхвалена на партыйных сходах. Ужо зараз можна сказаць, што сувязь парткомаў і іх сакратароў з членамі партыі палепшылася, змест іх работы якасна ўзрос.

Да апошняга часу грубейшым чынам парушаўся таксама статут партыі і аб платных работніках парткомаў. У дзесятках партарганізацый, якія налічвалі менш 100 членаў партыі (трамвай—30, завод

«Комінтэрн» 30 і інш.), сакратары парткомаў, парторгі былі вызвалены, а на такіх прадпрыемствах, як фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», імя Кагановіча, «КІМ», існавалі вызваленыя парторгі цэхавых партарганізацый. Гэта ненармальнасць зараз выпраўлена.

Вялікую ўвагу гарадскі камітэт партыі ўдзяліў правільнаму правядзенню ў жыццё рашэння ЦК ВКП(б) «Аб аднаўленні прыему ў партыю».

Не гледзячы на тое, што гэта пытанне ставілася не раз на бюро гаркома і нарадах сакратароў парткомаў і парторгаў, усё-ж прыем у партыю праводзіцца ў нас нездавальняюча. За гэты перыяд бюро гаркома зацвердзіла ўсяго адно рашэнне пярвічнай партарганізацыі аб пераводзе з кандыдатаў у члены партыі толькі аднаго таварыша.

У студзені бюро гаркома разглядала пытанне аб прыёме ў кандыдаты партыі тав. Земфарта (Шчоткамбінат), аб пераводзе з кандыдатаў у члены партыі тт. Буракова (фабрыка «Профінтэрн») і Хентава (парторг Шчоткамбіната). Аднак, ні адзін з гэтых таварышоў не быў зацверджан бюро, бо выявіўся цэлы рад фактаў парушэння пярвічнымі арганізацыямі дырэктывы ЦК ВКП(б) і статута партыі аб праверцы рэкамендацый, аб рэволюцыйнай пільнасці. Бюро гаркома прапанавала гэтым партарганізацыям расследваць выяўленыя факты і паўторна абмеркаваць пытанне аб прыеме ў партыю ўказаных таварышоў.

Каб папярэдзіць магчымасць падобных памылак у далейшым, гарком правёў спецыяльную нараду сакратароў парткомаў і парторгаў. Аднак, істотных рэзультатаў мы не дабіліся і да гэтага часу. Многія партарганізацыі несур'езна падыходзяць да прыему новых членаў, не па-большэвіцку, павярхоўна адносяцца да праверкі як падаўшага заяву, так і рэкамендаваўшых яго.

Прывядзем характэрны факт. Партарганізацыя фабрыкі «Профінтэрн», паўторна абмеркаваўшы заяву тав. Буракова, пастанавіла перавесці яго з кандыдатаў у члены партыі. Аднак, на бюро гаркома высвілася, што рэкамендуючы тав. Буракова член партыі Гарбачэўскі ўтоіў праўду аб сваім браце. Аказалася, што брат Гарбачэўскага асуджан і выслан за актыўную трацкісцкую контррэволюцыйную дзейнасць і што сам Гарбачэўскі меў сувязь з актыўным трацкістам Львовым і разам з ім прыехаў з Бабруйска ў Віцебск, Бюро гаркома адхіліла рашэнне паркома і партсходу фабрыкі «Профінтэрн» аб пераводзе Буракова з кандыдатаў у члены партыі.

Гэты факт сведчыць аб тым, што партком фабрыкі і яго сакратар тав. Васільеў фармальна адносяцца да праверкі рэкамендацыі, што у партарганізацыі недастаткова разгорнута большэвіцкая самакрытыка, што тут існуюць яшчэ элементы сямейственасці, падхалімства, зазнайства. Рашэнне ГК па гэтаму факту было абмеркавана на нарадзе сакратароў парткомаў і парторгаў, а таксама на сходах пярвічных партарганізацый.

* * *

Раней у нас яўна парушалася патрабаванне статута партыі аб перыядычнай справаздачнасці гаркома, сакратароў парткомаў і парторгаў перад партыйнымі масамі. Гарком партыі на працягу трох год не рабіў справаздачы ў пярвічных партарганізацыях, не склікаў ні адной гарадской партканферэнцыі. Не лепш было са справаздачамі сакратароў парткомаў і парторгаў. Сакратары парткомаў або парторгі раду пярвічных партарганізацый не рабілі справаздач па 1—2 гады. Гэта грубае парушэнне ўнутрыпартыйнай дэмакратыі межавала з за-

шскам самакрытыкі, бо член партыі не меў магчымасці выказаць сваю думку аб рабоце гаркома і парткома. Гарком партыі і парткомы адарваліся ад камуністаў, не ведалі жыцця нізавых партарганізацый, а адсюль неканкрэтна імі кіравалі.

У сучасны момант у адпаведнасці з рашэннем пленума ЦК ВКП(б) у віцебскай арганізацыі пачаліся справаздачы парткомаў і парторгаў і вядзецца работа па падрыхтоўцы выбараў кіруючых партыйных органаў на аснове тайнага галасавання.

Аб актыўнасці на партсходах сведчаць лічбовыя даныя. На 104 пярвічных партарганізацыях з прысутных на сходах 1.513 членаў і кандыдатаў партыі ў спрэчках выступіла 619 чалавек або 54 проц. У партарганізацыях з невялікай колькасцю членаў (магазін № 163, В.-Летчанскага сельсовета, кантора Плодагароднiны, Бараўлянскага сельсовета і інш.) у спрэчках выступалі ўсе члены і кандыдаты партыі.

Бюро гаркома намеціла рад мер па ліквідацыі выяўленых у рабоце пярвічных партарганізацый недахопаў.

Бюро гаркома зрабіла справаздачу аб сваёй рабоце ў 10 буйнейшых партарганізацыях. Сходы прайшлі актыўна і самакрытычна. Яны дапамаглі выявіць і прыступіць да ліквідацыі раду недахопаў і памылак, якія яшчэ маюць месца ў рабоце гаркома партыі.

*

У адпаведнасці з рашэннем ЦК КП(б)Б гарком арганізаваў двухгадовую школу сакратароў парткомаў і трохмесячныя курсы па перападрыхтоўцы сакратароў парткомаў і парторгаў на 80 чалавек. Школа і курсы працуюць бесперабойна. У праграму ўваходзіць гісторыя партыі і арганізацыйныя прынцыпы бальшавізма. Курсамі і школай кіруе першы сакратар гаркома, выкладчыкамі з'яўляюцца сакратары гаркома і члены бюро. Як заяўляюць слухачы, школа і курсы многа дапамаглі ім у павышэнні палітычнага ўзроўню і палепшанні работы сваёй партарганізацыі.

Гарком партыі вылучыў у якасці рэзерва 50 лепшых работнікаў з партактыва для павышэння іх тэарэтычнага ўзроўню і ўцягнення ў практычную работу гаркома. Актыўны ўдзел у ёй прымае зараз большасць членаў пленума гаркома. Многія з іх (тт. Дынфельд, Шапіра і інш.) з'яўляюцца пазаштатнымі інструктарамі, партследчымі, па заданню гаркома ўдзельнічаюць на сходах партарганізацыі.

*

Для нашай арганізацыі, параўнальна маладой па партыйнаму стажу, партыйная асвета мае выключнае значэнне.

Бюро Віцебскага гаркома партыі ўлічыла зусім правільнае ўказанне ЦК КП(б)Б на недастатковую ўвагу, якую мы ўдзялялі партасвеце, падбору і выхаванню прапагандыстаў. Зараз мы устанавілі, як правіла, што сакратары гаркома адзін раз у месяц склікаюць агульнагарадскія нарады прапагандыстаў для інфармацыі іх аб важнейшых палітычных пытаннях і абмену вопытам работы. Так, нарада прапагандыстаў у студзені абмеркавала пытанне аб тым, як ідзе вывучэнне даклада таварыша Сталіна і новай Канстытуцыі ў сеці партасветы. Нарада ў лютым заслухала інфармацыю сакратара гаркома аб разгортванні самакрытыкі і павышэнні рэвалюцыйнай пільнасці.

На пленуме гаркома ў лютым спецыяльна разглядалася пытанне аб становішчы партасветы ў партарганізацыях фабрык «Сцяг індуст-

рыялізацыі», імя Кагановіча, завода імя Кірава. Па гэтаму пытанню кожны з выступаўшых крытыкаваў работу не толькі адзначаных парт-арганізацый, але і той, членам якой ён з'яўляецца.

Гарком партыі пераглядзеў таксама персанальны склад прапагандыстаў. У час праверкі былі выяўлены выхадцы з іншых партый і асобы, якія мелі сур'ёзныя партспагнанні за палітычныя памылкі. Усяго адсеяна па гэтых прычынах 32 чалавекі. Зараз у склад прапагандыстаў уключаны амаль усе члены бюро гаркома, адказныя інструктары і найбольш падрыхтаваныя сакратары парткомаў і парторгі.

Значна перабудавана работа пропсемінараў. У дапамогу прапагандыстам арганізавана сістэматычная кансультацыя па пытаннях гісторыі партыі, ленінізма, Сталінскай Канстытуцыі і бягучай палітыкі.

Праверана работа парткабінетаў, якія не спраўляліся са сваімі задачамі і не задавальнялі патрабаванняў камуністаў, асабліва актыва. У парткабінеце фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» не было ніводнай брашуры з дакладам таварыша Сталіна на VIII з'ездзе Саветаў.

Бюро гаркома ўмацавала асабісты склад парткабінетаў, разгледзела і зацвердзіла план іх работы. У пачатку лютага сакратар гаркома склікаў нараду загадчыкаў парткабінетаў, на якой быў выяўлен рад недахопаў у іх рабоце. Пытанне гэта было пастаўлена на бюро гаркома.

Для павышэння тэарэтычнага ўзроўню камуністаў вескі гарком склікае раз у месяц тэарэтычныя аднадзённікі. У пачатку лютага адбыўся аднадзённік па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі СССР і БССР.

Палітычная агітацыя на прадпрыемствах і асабліва ва ўстановах праводзіцца яшчэ далека нездавальняюча. Агіткалектывы створаны толькі ў 23 партарганізацыях, якія маюць 1098 агітатараў і палітбяседчыкаў, вылучаных з нізавога партактыва. Толькі ў канцы мінулага года гарком партыі дабіўся, што агіткалектывамі пачалі асабіста кіраваць сакратары парткомаў. Яны склікаюць нарады агітатараў і палітбяседчыкаў для інструктажу аб важнейшых рашэннях партыі і ўрада і дапамогі ў падборы адпаведных матэрыялаў для гутарак. За апошні час палітычна выраслі і добра працуюць агітатарамі і палітбяседчыкамі тт. Гурэвіч, Казлоўскі, Лебедзеў—завод імя Кірава, Садоўскі—акулярная фабрыка, Сваліцкі, Кісельгоф—Шчоткакамбінат і інш.

Гарком партыі склікае нарады агітатараў і палітбяседчыкаў па пытаннях практыкі палітычнай агітацыі. Апошняя нарада адбылася ў лютым і прысвечана была пытанню аб тым, як трэба праводзіць з рабочымі гутаркі аб дакладзе таварыша Сталіна і новай Канстытуцыі. Пры доме партактыва для агітатараў і палітбяседчыкаў створана пастаянная кансультацыя, якую вядуць члены бюро гаркома і найбольш падрыхтаваныя прапагандысты.

У дапамогу партарганізацыям гарком вылучае членаў бюро для правядзення сярод рабочых палітычных дакладаў. За апошнія два месяцы на сходах рабочых фабрык «Сцяг індустрыялізацыі», імя Кагановіча, «Профінтэрн», «КІМ» завод імя Кірава і паравознага дэпо былі зроблены даклады аб Сталінскай Канстытуцыі і аб працэсе над контррэвалюцыйным трацкісцкім цэнтрам.

На прадпрыемствах і ва ўстановах створаны 1404 гурткі па вывучэнню даклада таварыша Сталіна і Сталінскай Канстытуцыі. Гурткамі ахоплена 34.498 чалавек. Аднак, якасць работы гурткоў яшчэ нельга прызнаць здавальняючай. Слаба працуюць гурткі на фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі», «КІМ», фанерным заводзе. Гарком партыі прыма-

разаў [illegible] членаў бюро і [illegible] платных інструктароў для дапамогі ў рабоце.

Больш уважліва стала падрыхтоўка да партыйных сходаў. Большасць пярвічных партарганізацый рыхтуецца да сходаў за 5—10 дзён. Павестку дня загадзя ведае кожны член і кандыдат партыі. Большасць членаў партыі ўцягнута ў актыўную работу. Парткомы [illegible] фабрыкі, фабрыкі «Профінтэрн», «Сцяг індустрыялізацыі», завода імя Кірава даручаюць комуністам рабіць даклады на партыйных і рабочых сходах, прычым сакратар парткома дапамагае падрыхтавацца к дакладу.

Прынятыя гаркомам меры садзейнічалі актывізацыі комуністаў, разгортванню бальшавіцкай самакрытыкі, павышэнню рэволюцыйнай пільнасці ў партарганізацыях.

*

Мы яшчэ не можам сказаць, што наша работа праходзіць на высокім узроўні. Аб гэтым гавораць рад прарываў і памылак, дапушчаных ужо пасля рашэння ЦК ВКП(б). Аб гэтым гавораць і факты недастатковага разгортвання бальшавіцкай самакрытыкі, парушэння статута партыі, страты рэволюцыйнай пільнасці ў радзе партарганізацый, асабліва на чыгуначным вузле.

Умацоўваючы і паляпшаючы сувязь з нізавымі партарганізацыямі, гарком партыі яшчэ не дабіўся колькі-небудзь рашаючых поспехаў у рабоце з кожным членам партыі, у кантролі за тым, як нізавая партарганізацыя рэалізуе ўказанні комуністаў, рэагіруе на іх сігналы. Яшчэ і ў самым апараце гаркома дрэнна пастаўлена рэагаванне на усякага роду заметкі, сігналы, заявы комуністаў. Наша арганізацыйная работа далёка яшчэ адстае ад тых патрабаванняў, якія прад'яўляюць нам ЦК ВКП(б) і таварыш Сталін.

Наша задача—не на словах, а на справе смела разгарнуць бальшавіцкую крытыку і самакрытыку, не гледзячы на асобы, узмацніць рэволюцыйную пільнасць не размовамі, не дэкларацыйнымі рэзалюцыямі, а забеспячэннем сапраўднага ўздыму бальшавіцкай пільнасці кожнага комуніста, кожнага беспартыйнага бальшэвіка.

Абавязак кожнага члена партыі рашуча змагацца з элементамі самаўспакоенасці, зазнайства, прыхалімства, сямейственасці, каб узняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, штодзенна, штогадзінна змагацца за тое, каб статут партыі стаў непарушнай асновай усяго жыцця партыйнай арганізацыі. При гэтых умовах мы знішчым да канца контррэволюцыйную трацкісцкую гадзіну з яе ахвосцем і ўзнімем партыйную работу на ўзровень патрабаванняў партыі.

Ф. Вайновіч і В. Чэрнышоў

# Партыйнае кіраўніцтва комсамолам

Ленінскі комсамол з'яўляецца вярнейшым памочнікам комуністычнай партыі.

> Комсамол «ёсць масавая арганізацыя рабочай і сялянскай моладзі, арганізацыя не партыйная, але прымыкаючая к партыі. Яна мае сваёй задачай дапамогу партыі ў справе выхавання маладога пакалення ў духу соцыялізма. Яна дае маладыя рэзервы для ўсіх астатніх масавых арганізацый пролетарыята па ўсіх галінах кіравання» *).

Партыя большэвікоў стварыла ўсе ўмовы для развіцця і асветы моладзі і дзяцей. Ніколі і нідзе ў свеце моладзь не мела і не мае такіх магчымасцей для свайго фізічнага і духоўнага развіцця, як наша совецкая моладзь. Толькі ў нашай краіне моладзь акружана выключнай увагай, любоўю і клопатамі дзяржавы. Бязмежна любоў і адданасць комсамола і ўсей моладзі нашай радзімы комуністычнай партыі і совецкай уладзе.

Ленінскі комсамол пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў з'яўляўся і з'яўляецца актыўнейшым памочнікам партыі ў барацьбе за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

У Полацкай арганізацыі многія комсамольцы працуюць на рашаючых участках соцыялістычнага будаўніцтва: старшынямі сельсоветаў—14 чал., сакратарамі сельсоветаў 28, старшынямі калгасаў 18, брыгадзірамі 27, заг фермамі 14, машыністамі 23, рахункаводамі сельсоветаў—23, рахункаводамі калгасаў—52, аграномамі—12, ветурачамі —6, конюхамі 18, брыгадзірамі МТС соўгасаў—26, трактарыстамі—129, зоатэхнікам.—8, настаўнікамі 629, у тым ліку дырэктарамі школ—49. Больш 600 комсамольцаў з'яўляюцца стаханаўцамі прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Комсамольцы тт. Русаковіч і Грэчушнік узнагароджаны ордэнамі «Знак почета». Трактарыстка Савельева Маруся выпрацавала на трактар 1015 гектараў, за што ўзнагароджана ўсесаюзнай прэміяй.

Прыкладаў стаханаўскай работы комсамольцаў у акрузе можна прывесці сотні. Яны сведчаць аб каласальнай ролі комсамола на ўсіх участках гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Цэнтральнай задачай комсамола ў сучасны момант, як указаў таварыш Сталін і як адзначана у рашэннях X. З'езда ВЛКСМ, з'яўляецца вучоба і комуністычнае выхаванне моладзі і дзяцей. Гэту важнейшую палітычную задачу комсамол не здолее паспяхова вырашыць без практычнай дапамогі партыйных арганізацый.

---

*) І. В. Сталін, Пытанні ленінізма, стар. 115.

Полацкі акруговы камітэт партыі аказаў дапамогу комсамолу ў перабудове яго работы ў духу рашэнняў X З'езда ВЛКСМ. Для вывучэння матэрыялаў З'езда партарганізацыі вылучылі больш 100 комуністаў дакладчыкамі ў комсамольскіх арганізацыях, па раенах праведзены былі нарады парторгаў па пытанню работы комсамола і дапамогі яму ў выкананні рашэнняў З'езда. Гэта пытанне абмяркоўвалася таксама і на партыйных сходах. Для ўмацавання апаратаў райкомаў і АК ЛКСМБ было вылучана на комсамольскую работу 6 членаў і кандыдатаў партыі. Прапагандысцкай работай у комсамоле кіруюць 74 члены і кандыдаты партыі. Праз акруговыя 3-месячныя курсы для комсамольскай палітсеткі падрыхтавана 50 прапагандыстаў.

Пры правядзенні важнейшых палітычных мерапрыемстваў (вывучэнне Сталінскай Канстытуцыі ў школах і гуртках, абмеркаванне матэрыялаў працэса над контррэвалюцыйным трацкісцкім цэнтрам і інш.) партарганізацыі вылучылі спецыяльных дакладчыкаў з партактыва.

Выконваючы ўказанні таварыша Сталіна, комсамол акругі палепшыў работу па выхаванню моладзі. Значна ўмацаваліся пярвічныя арганізацыі, асабліва калгасныя, павысілася іх арганізуючая роля, палепшылася работа з несаюзнай моладдзю. За апошні час значна вырасла і сама комсамольская арганізацыя акругі за лік прыёму новых членаў. Калі ў 1935 годзе ў акруговую арганізацыю комсамола было прынята толькі 253 чал., то ў 1936 годзе 1446 чал., з іх 443 дзяўчыны. Агульны склад арганізацыі ў параўнанні з 1935 годам павялічыўся ў 2 разы. Створаны новыя 102 пярвічныя комсамольскія арганізацыі, у тым ліку 39 у калгасах. Сетка комсамольскіх палітшкол перакамплектавана. Цяпер створана і працуе 1[illegible]0 пачатковых палітшкол, 106 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі, 93 гурткі бягучай палітыкі, дзе вывучаецца Сталінская Канстытуцыя, праграма і статут комсамола. Усімі відамі палітвучобы ахоплена 3380 комсамольцаў і 1784 чал. несаюзнай моладзі. Для падрыхтоўкі прапагандыстаў створаны спецыяльныя школы. На весцы школы працуюць раз у месяц па 6–7 гадзін і ў горадзе Полацку 2 разы ў месяц з адрывам ад вытворчасці.

Створана 37 школ па ліквідацыі няграматнасці і малаграматнасці для падросткаў ад 14 да 18 гадоў. У гэтых школах навучаецца 810 чалавек. Арганізавана 25 няпоўных і поўных вячэрніх школ, дзе вучыцца 1117 чал. комсамольцаў і несаюзнай моладзі. Пачата ваеннае навучэнне комсамольцаў і моладзі па 120-гадзіннай праграме дапрызыўнай падрыхтоўкі, для чаго створана 107 падраздзяленняў і пунктаў.

Аднак, не гледзячы на некаторае палепшанне, партыйнае кіраўніцтва комсамолам прыходзіцца прызнаць далёка недастатковым.

Асвейскі райком партыі (сакратары тт. Кацуба і Дымерштэйн) удзяляюць вельмі мала ўвагі рабоце комсамола і несаюзнай моладзі. За мінулы год райком абмеркаваў толькі адно, і то другараднае, пытанне: «Аб стварэнні штаба па кіраўніцтву піонерлагерамі».

Пярвічная партарганізацыя Савейкаўскага сельсовета, Асвейскага раёна (парторг Багданаў) за ўвесь мінулы год і сёлета ні разу не ставіла пытанне аб рабоце комсамола, не дапамагае комсамольскім арганізацыям сельсовета.

Дрысенскі райком партыі, не гледзячы на кепскую работу райкома комсамола і ўсей арганізацыі, ні разу не ставіў на бюро пытання аб

рабоце комсамола. З вылучаных прапагандыстамі 13 членаў і кандыдатаў партыі 7 чал. не кіруюць комсамольскімі школамі. Адсутнасць партыйнага кіраўніцтва, кантролю над работай комсамола і страта рэволюцыйнай пільнасці прывялі к таму, што прапагандысцкія кадры [illegible] комсамольскай арганізацыі былі засмечаны контррэволюцыйнымі і трацкісцкімі элементамі. З-за прытуплення рэволюцыйнай пільнасці былы сакратар райкома комсамола Чухломін і заг. аддзелам палітвучобы Крылоў дапусцілі ў сваёй рабоце рад палітычных памылак. У самым райкоме ЛКСМБ адсутнічалі большэвіцкая крытыка і самакрытыка, панавала сямейнасць, груба парушалася ўнутрысаюзная дэмакратыя, важнейшыя пытанні вырашаліся ў прысутнасці 2 членаў бюро. Апарат райкома займаўся вочкаўцірацельствам.

Усё гэта магло мець месца толькі таму, што райком партыі не цікавіўся работай комсамола.

Аб адсутнасці партыйнага кіраўніцтва комсамолам у Дрысенскім раёне гаворыць і той факт, што 50 пярвічных арганізацый комсамола не маюць партпрымацаваных, на комсамольскіх сходах ніхто з членаў партыі ніколі не бывае.

Многія пярвічныя партарганізацыі не ставяць на сваіх сходах дакладаў комсоргаў. Ёсць парторгі, якія не ведаюць нават, ці можна слухаць даклад комсорга на партыйным сходзе. Так, на сходзе партарганізацыі калгаса «Ленінскі шлях» (парторг Пятроў), Жоўніцкага сельсовета, Дрысенскага раёна, пры абмеркаванні работы комсамольскай арганізацыі комсорга папрасілі выйсці, лічачы, што комсамолец не можа прысутнічаць на партсходзе.

Многія сакратары райкома партыі з'яўляюцца членамі бюро райкома комсамола, аднак на яго пасяджэннях не прысутнічаюць.

У радзе выпадкаў райкомы комсамола несур'ёзна падыходзяць да прыёму новых членаў у свае рады, павярхоўна правяраюць прымаемых, дапускаюць прыём цэлымі групамі і т. п. Так, у Полацку на адным пасяджэнні бюро РК ЛКСМБ разглядалі 52 заявы аб прыёме ў комсамол і 8 іншых пытанняў. Пасяджэнне бюро райкома ад 26 снежня 1936 года праводзілася з парушэннем унутрысаюзнай дэмакратыі: з 7 членаў бюро прысутнічала толькі 2 чалавекі. У комсамольскай гаспадарцы Полацкага райкома комсамола—хаос. Учот комсамольцаў заблытан, комсамольскія білеты знаходзіліся ў тэхнічнага работніка, уліковыя карткі афармляліся неахайна, не падпісваліся сакратаром. Сур'ёзныя дэфекты выяўлены больш як у 200 асабістых справах. Работнікі райкома не цікавяцца работай сельскіх комсамольскіх арганізацый і ў вёскі не выязджаюць. Райком партыі слаба кіруе комсамолам, не правярае яго работу.

Сакратар Ветрынскага райкома комсамола тав. Гурбо не выязджае ў пярвічныя арганізацыі, спасылаючыся на адсутнасць аўтамашыны, бо лічыць для сябе ніжэйшым ехаць на падводзе. Дадзены факт сведчыць аб тым, што у тав Гурбо—манія важдзізма. А гэта не да твару комсамольскаму работніку. Тав. Андрэеў у сваёй прамове на X з'ездзе ВЛКСМ падкрэсліў, што комсамольскія работнікі і кіраўнікі павінны праяўляць «больш скромнасці і сур'езнасці ва усёй вашай рабоце і паводзінах». Як відаць, Гурбо дрэнна засвоіў гэта ўказанне і рашэнне X з'езда ВЛКСМ. Не меншая віна ў гэтым і Ветрынскага райкома партыі, які не кіраваў комсамолам, не цікавіўся яго работай і пусціў яе самацекам. Падобныя факты характэрны і для іншых раёнаў.

У дрэннай рабоце райкомаў ЛКСМБ і слабым парткіраўніцтве так-

[illegible]ы і акруговы камітэт комсамола і акруговы к[illegible] партыі.

З фактамі беззадказных адносін партыйнага кіраўніцтва комсамолам трэба пакончыць.

Выхаванне [illegible] моладзі—важнейшы абавязак [illegible]. Гэтай работай трэба займацца сістэматычна, што[illegible] зацыі павінны ўлічваць, што наша моладзь—[illegible]. У складзе Полацкай акруговай арганізацыі 70 пр[illegible] нарадзілася ў год Вялікай пролетарскай рэвалюцыі [illegible] моладзь не бачыла жахаў царскага самадзяржаўя і ведае аб іх толькі з апавяданняў. Каб моладзь ярчэй уявіла сабе ўсю веліч [illegible] пролетарскай рэвалюцыі, партарганізацыі павінны практыкаваць вечары сустрэч моладзі са старымі комуністамі—удзельнікамі грамадзянскай вайны, партызанамі. На канкрэтных прыкладах героікі мінулага нашай партыі і совецкага народу павінна выхоувацца наша моладзь.

Аднак, на практыцы мы бачым, што рад партыйных і комсамольскіх арганізацый акругі не скарысталі ўсе магчымасці разгортвання выхаваўчай работы сярод саюзнай і несаюзнай моладзі, пусцілі яе самацёкам. У самым мястэчку Асвеі дом соцкультуры не працуе. У мястэчку няма гурткоў самадзейнасці. Вечары моладзі наладжваюцца рэдка. За апошнія 5 месяцаў не праведзена ні аднаго маладзёжнага сходу па палітычных пытаннях. І на ўсё гэта не зважаюць райкомы партыі і комсамола.

У Росіцкім сельсовеце, Дрысенскага раёна сярод жаночай моладзі ніякай выхаваўчай работы не праводзіцца. У доме соцкультуры створан адзін толькі драмгурток, але і той працуе [illegible]. Аб арганізацыі палітычных і антырэлігійных лекцый дом соцкультуры не клапоціцца. Для несаюзнай моладзі не створана ні аднаго палітгуртка.

З прычыны слабой работы ўплыў комсамола на моладзь яшчэ далека недастатковы. Партарганізацыі нясуць поўную адказнасць за работу комсамола. Яны павінны не толькі штодзённа правяраць яе, але і вылучаць лепшых членаў і кандыдатаў партыі ў якасці прапагандыстаў комсамольскіх палітшкол, кіраўнікоў палітгурткоў, дакладчыкаў і бяседчыкаў на сходах моладзі. У дамах соцкультуры, хатахчытальнях, чырвоных кутках калгасаў трэба шырока разгарнуць самадзейную, фізкультурную і абаронную работу сярод моладзі.

Асоба востра паўстае пытанне аб партыйным кіраўніцтве тымі пярвічнымі арганізацыямі комсамола, дзе няма комуністаў. Такіх арганізацый у акрузе больш 200. Да іх неабходна прымацаваць таварышоў з раённага партактыва для дапамогі ў выхаваўчай рабоце. Асаблівую увагу трэба звярнуць на выхаваўчую работу сярод вучнёўскай моладзі і піонераў. Нельга забываць, што класавы вораг імкнецца пранікнуць у школы для контррэвалюцыйнай работы.

Усямернае павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці і сістэматычная штодзённая выхаваўчая работа ў комсамоле важнейшая умова выканання ўказанняў таварыша Сталіна аб комуністычным выхаванні моладзі.

А. Зюзькоў

# Серго Орджанікідзе і яго дзейнасць у Беларусі *)

Уся краіна аплаквала беззваротную страту—смерць лепшага большэвіка, бунеўнага партыйнага арганізатара, аднаго з таленавіцейшых палкаводцаў грамадзянскай вайны, выдатнага кіраўніка цяжкай прамысловасці, бліжэйшага саратніка вялікага Сталіна—Серго Орджанікідзе.

Шлях тав. Серго Орджанікідзе—гэта шлях большэвіка, які аддаў усё сваё жыццё без астатку справе Леніна—Сталіна, справе партыі большэвікоў, справе рабочага класа.

Яшчэ ў юнацкія гады, 15-гадовым школьнікам, тав. Орджанікідзе ўдзельнічае ў рабоце школьнага соцыял-дэмакратычнага гуртка. У 1903 годзе Серго ўступіў у РСДРП, як большэвік.

Пасля сканчэння фельчарскай школы, увесну 1905 года, Орджанікідзе звярочваецца у Заходнюю Грузію, у прыватнасці у Батумі. Ён прапагандыст і агітатар. Серго Орджанікідзе ў сваіх большэвіцкіх выступленнях карыстаўся брашурай таварыша Сталіна «Мімаходзь аб партыйных рознагалоссях», напісанай у пачатку 1905 года.

У верасні 1905 года Орджанікідзе пераехаў у Гудауці (Абхазія). Ужо ў гэты перыяд ён прафесіянальны рэвалюцыянер, барацьбіт, для якога сэнс жыцця—толькі у рэвалюцыі. 19-гадовы юнак Серго—ужо агульнапрызнаны кіраўнік партыйнай арганізацыі Гудауці, член Сухумскага акруговага камітэта партыі, таленавіты арганізатар падпольнай работы і палкі агітатар.

Першы арышт маладога рэвалюцыянера адбыўся ў сяле Бамбары, каля Гудауці, 5 студзеня 1906 года. Серго быў арыштаваны ў момант выгрузкі зброі і заключан у сухумскую турму, дзе прабыў да 7 чэрвеня 1906 года. Затым быў выпушчан на парукі і паехаў у Тбілісі. Тут ён упершыню сустрэўся ў рэдакцыі большэвіцкай газеты «Дро» («Час») з таварышом Сталіным, які быў рэдактарам гэтай газеты.

У жніўні 1906 года Орджанікідзе, хаваючыся ад ахранкі, перабраўся за граніцу, у Берлін. Неузабаве ён звярачаецца ў Расію. У са-

*) Біяграфічныя даныя па ўсіх перыядах, апрача работы тав. Орджанікідзе ў Беларусі, даны па біяграфічнаму нарысу „Серго Орджанікідзе", складзенаму М. Д. Орахелашвілі.

кавіку 1907 года быў уведзен у большэвіцкі, узначалены таварышом Сталіным, бакінскі камітэт, куды уваходзілі таксама Шаумян, Джапарыдзе, Спандар'ян.

У лістападзе 1907 года Серго Орджанікідзе быў арыштаваны паліцыяй і заключан у баілаускую турму. 9 красавіка 1908 года «особое присутствие» тбіліскай судовай палаты прыгаварыла Орджанікідзе да пазбаўлення ўсіх правоў стану і да вечнай ссылкі ў Сібір.

27 кастрычніка «особое присутствие» той-жа тбіліскай судовай палаты дадаткова прыгаварыла яго за рэвалюцыйную работу ў Абхазіі да заключэння ў крэпасць на адзін год.

Вясной 1909 года Орджанікідзе адправілі ў ссылку ў Сібір. Праз два месяцы пасля прыбыцця у ссылку Орджанікідзе бяжыць і зварачаецца у Баку, каб у нелегальных умовах працягваць партыйную работу.

Увосень 1909 года бакінская арганізацыя большэвікоў накіроўвае Орджанікідзе у Іран (Персію), у Гілянскую правінцыю, якая была тады арэнай рэволюцыйнага руху. Ён прымае актыўны ўдзел у рэволюцыйнай барацьбе.

У лістападзе 1910 года Серго зварачаецца ў Баку і адсюль едзе ў Парыж, да Леніна.

Недалёка ад Парыжа, у Ланжумо, Ленін у 1911 годзе стварае партыйную школу, слухачы якой былі падобраны ў Расіі мясцовымі партыйнымі арганізацыямі. У гэтай школе быў і Орджанікідзе.

Орджанікідзе прышлося неўзабаве перарваць вучобу. Ён зноў адпраўляецца ў Расію з адказнейшым ленінскім даручэннем — правесці работу па падрыхтоўцы і скліканню агульнарасійскай партыйнай канферэнцыі. Не гледзячы на выключна цяжкія ўмовы работы у прыціснутай рэакцыяй краіне, Орджанікідзе ўдалося бліскуча ажыццявіць заданне Леніна. Орджанікідзе быў дэлегатам на Пражскай канферэнцыі ад тбіліскай большэвіцкай арганізацыі.

На Пражскай канферэнцыі Орджанікідзе быў абраны членам ЦК. З сямі членаў ЦК пяць павінны былі працаваць у Расіі. Было створана бюро ЦК для кіраўніцтва работай у Расіі у складзе таварышоў Сталіна, Орджанікідзе і Спандар'яна.

У лютым 1912 года Серго Орджанікідзе выехаў у Пецербург, затым паехаў у Валагодскую губерню да таварыша Сталіна, які знаходзіўся там у ссылцы. Разам з таварышом Сталіным, які бег з месца ссылкі, ён прыехаў у Баку, а пасля—у Тбілісі.

У красавіку 1912 года Серго Орджанікідзе зноў накіраваўся ў Пецербург. 27 красавіка 1912 года яго зноў арыштоўваюць. Пецербургскі акруговы суд прыгаварыў Серго Орджанікідзе за пабег з ссылкі і за большэвіцкую работу да трох гадоў катаргі з далейшым накіраваннем на месца вечнай ссылкі.

У кастрычніку 1912 года Орджанікідзе быў закаваны ў кайданы і адвезен у Шлісельбургскую крэпасць.

Па адбыцці трохгадовага зняволення ў крэпасці Серго Орджанікідзе ў верасні 1915 года быў этапным парадкам выслан у Заходнюю Сібір і вясной 1916 года накіраван на пасяленне ў аддаленую Вілюйскую акругу.

Аб перамозе Лютаўскай рэволюцыі Серго Орджанікідзе даведаўся ў час аб'езду хворых у далекіх улусах. Радасць яго была бязмежна

Амаль 8 гадоў правёў Серго Орджанікідзе ў палоне ў царызма—у турмах, у Шлісельбургскай крэпасці, па этапах і ў ссылцы. Царызм

быў звергнут. Гэту перамогу Орджанікідзе, як і ўсе сапраўдныя ленінцы, расцаніў толькі як умову для неадкладнага пераходу да барацьбы за соцыялістычную рэволюцыю.

У маі 1917 г. Серго Орджанікідзе выязджае ў Іркуцк, а адтуль у Петраград і цалкам уваходзіць у баявую партыйную работу. Па прапанове Леніна Серго Орджанікідзе ўводзіцца ў Петраградскі камітэт большэвіцкай арганізацыі.

Сабраўся VI з'езд большэвіцкай партыі. Сапраўднае ленінскае кіраўніцтва падрыхтоўкай і правядзеннем з'езда забяспечваў таварыш Сталін. Ленін са свайго шалаша і пазней з Гельсінгфорса накіроўваў работу большэвікоў, даваў кіруючыя указанні па пытаннях, стаяўшых у парадку дня з'езда. Для атрымання дырэктыў Леніна Орджанікідзе, па даручэнню Сталіна, двойчы ездзіў да Леніна ў шалаш.

На VI з'ездзе партыі Сталін у сваім палітычным дакладзе і следам за ім Орджанікідзе ў спецыяльным дакладзе па пытанню аб яўцы Леніна ў суд самым рэзкім чынам выказаліся супроць яўкі. «Ім важна,—заявіў Серго Орджанікідзе, вырваць як мага больш правадыроў з радоў рэволюцыйнай партыі. Мы ні ў якім выпадку не павінны выдаваць таварыша Леніна».

У пачатку верасня 1917 года Орджанікідзе быў накіраван на кароткі час у Закаўказзе. 6 лістапада Орджанікідзе вярнуўся з Закаўказзя ў Петраград і прыняў актыўны ўдзел у Кастрычніцкім соцыялістычным перавароце.

У пачатку снежня 1917 года збіраўся ў Менску 2-гі з'езд салдат Заходняга фронта. З'езд прадстаўляў больш мільёна салдат Заходняга фронта. Цэнтральны Камітэт партыі большэвікоў накіраваў Орджанікідзе на гэты з'езд, як свайго прадстаўніка.

Тав. Орджанікідзе з уласцівай яму энергіяй правёў велізарную работу сярод дэлегатаў з'езда. Іменна дзякуючы рабоце тав. Орджанікідзе, з'езд салдат амаль цалкам пашоў за большэвікамі. Ганаровым старшынёй з'езда быў абраны В. І. Ленін.

Таварыша Орджанікідзе з'езд сустрэў авацыяй. У сваім прывітанні ад імя ЦК большэвікоў тав. Орджанікідзе абрысаваў кіруючую ролю партыі большэвікоў у пралетарскай рэволюцыі, указаў, якім праследаванням падвяргалася наша партыя за сваю рэволюцыйную дзейнасць. Тав. Орджанікідзе гаварыў:

> «Наша партыя падвяргалася не толькі ганенням буржуазіі, але і тых соцыялістычных партый, якія 8 месяцаў былі на чале краіны.
>
> Нас падвяргаў ганенням урад Керэнскага і Аўксенцьева. Нас праследвалі за тое, што мы стаялі за ўладу працоўнага народу. Нас праследвалі за тое, што мы стаялі за зямлю і за мір» *).

Далей тав. Орджанікідзе даў аналіз знешняй палітыцы звергнутай улады, абрысаваў умовы, у якіх адбыўся пераход улады да большэвікоў і прадстаячыя задачы. Прамова тав. Орджанікідзе не раз перарывалася апладысментамі дэлегатаў з'езда.

5 снежня (22 лістапада) 1917 года тав. Орджанікідзе выступіў на з'ездзе з вялікай прамовай. Асноўны ўпор тав. Орджанікідзе ў гэтым сваім выступленні рабіць на пытаннях «гвалту», ужытага большэвікамі і, у першую чаргу, на пытанні закрыцця буржуазных газет.

*) „Звезда", № 37 (74) ад 22 лістапада 1917 г.

Неабходна мець на ўвазе, што ў гэты [illegible] момант дэзерціры пролетарскай рэвалюцыі, расстраляныя ў 1936 годзе па прыгавору Вярхоўнага Суда СССР мярзаўцы Каменеў і Зіноўеў, а разам з імі Рыкаў, Ногін, Шляпнікаў і іншыя здраднікі выступалі супроць закрыцця нават самых варожых буржуазных газет. Рыхтуючы [illegible] капіталізма і тады з'яўляючыся агентамі буржуазіі [illegible], здрадніцкая дзейнасць мярзаўцаў Каменева і Зіноўева знаходзіла поўнае падтрыманне як з боку меншавікоў і эсераў, так і з боку цяперашняга главара шайкі фашысцкіх германа-японскіх шпіенаў, дыверсантаў і тэрарыстаў—негадзяя Троцкага.

Прамова тав. Орджанікідзе і была накіравана як супроць меншавікоў і эсераў, выступаўшых на з'ездзе, так і супроць штрэйкбрэхераў і дэзерціраў пролетарскай рэвалюцыі—мярзаўцаў Каменева, Зіноўева, Рыкава і інш. Прыводзім гэту прамову тав. Орджанікідзе поўнасцю, як яна падана ў газеце «Звезда».

«... Калі германскі і аўстрыйскі міністры згодны на наш мір, то гэта адбываецца толькі пад націскам масавага руху рабочых. Гэта вынік нашай рэвалюцыі, якая знаходзіць водгукі ў працоўных масах усяго свету. Нас папракаюць за гвалт, за разгон Петраградскай і Маскоўскай гарадскіх дум, за закрыццё газет. У нашай доўгай барацьбе з царызмам гвалт нам настолькі апрыкрыў, што абараняць яго цяжка. Але ёсць гвалт і гвалты. Рэвалюцыя сама па сабе ёсць гвалт. Калі мы з любым звергли Мікалая, то гэта быў гвалт. Але хто стане адмаўляць права народных мас на такі гвалт? Маскоўскі гарадскі галава Руднёў прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы ўзброенага выступлення супроць народу, а ўся Дума ішла за ім. Гэта было гняздо контррэвалюцыі. Мы сказалі: праверым выражае ці яна цяпер думку народа ці не. Гэтага ніхто не павінен баяцца. Нас папракаюць у закрыцці газет, але мы закрылі тыя газеты, якія друкавалі адозву старога звергнутага ўрада, якія падтрымлівалі яго. Ёсць гвалт і гвалты. Мы супроць гвалту кучкі памешчыкаў над сялянамі, мы супроць гвалту фабрыканта над рабочымі. Але мы не можам выказацца супроць гвалту прыгнечаных над прыгняталынікамі, каб вызваліцца. Таму мы за гвалты над памешчыкамі дзеля трыумфу сялян, мы за гвалты над буржуазіяй у імя вызвалення рабочых» *).

З'езд салдат Заходняга фронта прашоў цалкам пад кіраўніцтвам бальшэвікоў. Галоўнакамандуючым Заходнім фронтам быў выбран кіраўнік мінскіх бальшавікоў тав. Мяснікоў А. Ф. У франтавы камітэт было абрана 80 бальшавікоў (усяго было абрана 160 членаў камітэта).

У гэтых выніках работы з'езда сказалася дзейнасць тав. Орджанікідзе на з'ездзе.

2 студзеня 1918 года Орджанікідзе быў прызначан часовым надзвычайным камісарам раёна Украіны.

У першых чыслах красавіка 1918 года Орджанікідзе накіроўваецца на Дон. 7 красавіка ён ужо ў Растове-на-Дану. Тут ён энергічна пачынае прымаць меры да арганізацыі супраціўлення германа-гайдамакам, якія паступова рухаліся на поўдзень—на Дон і Кубань.

*) „Звезда“ № 39 (76) ад 24 лістапада 1917 г.

7 мая аўстра-германскія войскі, гайдамакі і белыя казакі ўзялі Растоў. Орджанікідзе са сваімі эшалонамі апошнім пакінуў Растоў, адступіўшы перш на Батайск, а потым да Тіхарэцкай, каб адтуль з боем рухацца да Царыцына.

> «Становішча тут няважнае,—тэлеграфуе Орджанікідзе Леніну і Сталіну з Царыцына 23 мая 1918 года,—патрэбны рашучыя меры, а мясцовыя таварышы занадта друзлыя, усякае жаданне дапамагчы разглядаецца як умяшанне ў мясцовыя справы. На станцыі стаіць шэсць маршрутных паяздоў з хлебам у Маскву і не адпраўляюцца... Яшчэ раз паўтараю, што патрэбны самыя рашучыя меры—вакол Царыцына бушуе контррэволюцыя».

25 мая 1918 года на надзвычайным пасяджэнні штаба абароны Орджанікідзе выступіў з планам арганізацыі барацьбы з контррэволюцыйнымі бандамі, якія наступалі на Царыцын. Ён прапанаваў аб'яднаць наяўныя ў горадзе савецкія войскі пад адным камандаваннем. Забяспечыўшы сапраўдную абарону горада, Орджанікідзе спяшаецца на Кубань, дзе кіруе баявымі аперацыямі XI арміі супроць немцаў і белай арміі Дзенікіна.

Але сіла была на баку белых, і Владзікаўказ пасля ўпартых баёў прышлося пакінуць. Владзікаўказская група комуністаў на чале з Орджанікідзе парашыла накіравацца ўглыб гор.

Толькі ў пачатку чэрвеня 1919 года Орджанікідзе праз Хеўсурэтыю і Душэт прабраўся нелегальна ў Тбілісі.

Гэта быў адзіны шлях, якім Орджанікідзе мог папасці ў Маскву, калі-б яму ўдалося прабрацца праз контррэволюцыйнае Закаўказзе і Каспійскае мора, дзе гаспадарылі англічане.

Серго Орджанікідзе разам з тбіліскімі большэвікамі наметціў шляхі далейшай барацьбы супроць контррэволюцыйнага меншавіцкага ўрада. У Баку, у сувязі з прыездам Орджанікідзе, была прызначана шырокая нарада закаўказскіх комуністычных арганізацый.

Пасля нарады Орджанікідзе адправіўся ў Маскву, адзіным магчымым тады, але незвычайным шляхам на рыбалоўнай парусной лодцы праз Каспійскае мора. У лютым 1919 года Орджанікідзе быў прызначан членам Рэўвоенсовета XVI арміі Заходняга фронта.

У гэты перыяд Заходнім фронтам кіраваў таварыш Сталін. Пасля разгрому ў чэрвені 1919 года арміі Юдзеніча таварыш Сталін пераехаў у Смаленск, а потым у Менск для непасрэднага кіравання аперацыямі супроць белапалякаў. Асноўны ўдар белапалякаў адбівала XVI армія, размешчаная на тэрыторыі Беларусі. Для кіраўніцтва XVI арміяй таварыш Сталін выклікаў Серго Орджанікідзе 24 ліпеня 1919 года.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна тав. Орджанікідзе хутка наводзіць парадак у XVI арміі. Па прапанове Орджанікідзе таварыш Сталін загадам № 493 па арміях Заходняга фронта зняў камандуючага XVI арміяй Глаголева. XVI армія хутка была прыведзена ў поўную баявую гатоўнасць.

У гэты перыяд асноўная небяспека пагражала краіне Советаў з боку Дзенікіна. Белая армія Дзенікіна ўжо знаходзілася на адлегласці 700 кілометраў ад Масквы. Але далёка не другарадную ролю павінна была па плану Антанты адыграць белая Польшча. Вось чаму неабходна было стабілізаваць Заходні фронт на зручным для абароны

рубяжы, каб як мага больш сіл перакінуць супроць арміі Дзенікіна. Такім зручным для абароны рубяжом была рака Бярэзіна, куды і адышлі часці Чырвонай арміі ў першай палове жніўня 1919 года.

У той-жа час, выходзячы з інтарэсаў усяго фронта, неабходна было ўтрымаць чыгуначныя вузлы Калінкавічы і асабліва Гомель. Спробы белапалякаў правраца ў раёне Бабруйска на Гомель, у абход Мазырскага ўмацаванага ўчастка, былі ліквідаваны дзякуючы намечанаму таварышом Сталіным майстэрскаму плану разгрому ўдарнай групы праціўніка.

У загадзе комзахфронта, падпісаным членам Рэўваенсовета таварышом Сталіным, мы чытаем:

> «Праціўнік, пераправіўшыся праз Бярэзіну ў раёне Бабруйска, адкінуў нашы часці, што прыкрывалі гэты ўчастак ракі на ўсход і паўднёвы ўсход, і працягвае развіваць свой поспех як у напрамку на Рагачоў і Жлобін, так і на Рэчыцу ў абход Мазырскага ўмацаванага раёна. З прычыны пагрозы, што ствараецца для Гомельскага чыгуначнага вузла, які мае вялікае стратэгічнае значэнне, я парашыў сканцэнтраваць магчыма большыя сілы ў раёне Магілева, разбіць Бабруйскую групу праціўніка, нанёсшы ёй удар ва фланг і тыл».

Пад непасрэдным кіраўніцтвам тав. Орджанікідзе была праведзена бліскучая аперацыя па разгрому белапольскіх часцей, якія спрабавалі правраца ў Бабруйск.

У той-жа час тав. Орджанікідзе распрацоўвае падрабязны план абароны па ўсёй лініі фронта, якую займала XVI армія.

Наступны загад паказвае гэты план абароны:

> «Аператыўны сакрэтны загад № 155. Карта—10 вёрст.
>
> Як відаць, праціўнік сканцэнтраваў у сучасны момант свае намаганні на флангах арміі—на Полацкім і Бабруйскім напрамках, пастаянна збіваючы нашы часці, якія прыкрываюць гэтыя напрамкі. Супроць цэнтра арміі праціўнік вядзе ўзмоцненую разведку, больш энергічную на Барысаўскім напрамку. Для ўзмацнення боездольнасці арміі і ў адпаведнасці з дырэктывай Камзах загадваю:
>
> **Першае:** Начдыву 17 (69, 145, 146, 147, 151, 153 стралковыя 6 і 7 пагрпалкі, дзве роты 150 палка, Віцебскі карбатальён і Віцебская карроты), забяспечваючы Полацкі напрамак і верхняе цячэнне ракі Бярэзіны да возера Пелік, выключна ўпарта абараняць фронт Шаркаўшчызна, Глыбокае, Парыпшча, Докшыцы, Шклішчы, скарыстаўшы для гэтага наяўную ў гэтым напрамку ўмацаваную пазіцыю.
>
> У армейскі рэзерв вывесці: у раён ст. Падсвілле—67 пагрпалкі і 69 стралковы і ў раён Бярэзіна (верхняе) адзін полк па сваиму ўгледжанню.
>
> **Другое:** Начальніку Барысаўскага баявога ўчастка (7, 8 і 9 латышскія, 98 стралковы, 9 пагранічны, 1, 2 каўпалкі, 1 кав дыв., 53 дыв., 2 менскі карбат) упарта абараняць Барысаўскі ўмацаваны вузел, наглядаючы за ракою Бярэзінай на ўчастку возера Пелік уключна, вусце ракі Уша выключна.
>
> Наступова і настойліва прасоўваць нашу разведку і ахову на лінію р. Гайна, воз. Вялікае, Жодзіна, воз. Судобля, воз. Краснае,

воз Глухое, Слабодка, р. Уша ад Слабады да Усця; у межах гэтай лініі дабіцца панавання нашай разведкі.

У армейскі рэзерв адвесці Захбат 52 і Менскі карбат у раён в. Неманіца.

**Трэцяе:** Начдыву 52 (460, 462, 463, 465, 466, 467, 468 стралковыя палкі, экспедыцыйны атрад Шташапа, атрад Магілеўскай ЧК, зводны каўэскадрон арміі) упарта абараняць участак р. Бярэзіны ад вусця р. Уша ўключна да в. Остраў, што 10 вёрст на поўдзень ад ракі Уса выключна і Бярэзінскае прадмоставае ўмацаванне. Штадыву перайсці ў Магілеў, маючы аператыўную часць у в. Бялынічы. У армейскі рэзерв вывесці: першую брыгаду 52 (460 і 462 палкі) з яе артылерыяй, якая знаходзіцца цяпер на Бярэзіне, у раён Оршы, накіраваўшы паходам да ст. Крупкі, а далей па чыгунцы; другую брыгаду 52 (463 і 465 палкі) з прыданай ей зараз артылерыяй—у раён Жлобіна, накіраваўшы да Магілева паходам, а далей па чыгунцы.

Абедзве гэтыя брыгады застаюцца на харчаванні дывізіі.

**Чацвертае:** Начдыў 8 (65, 66, 67, 68, 70, 71, 72, 461, 464 стралковыя, 10 Менскі ЧК полк, 1 і 2 Бабруйскія, 1 Менскі карбат, Барысаўскі карбат 2, стуцкія карроты) упарта абараняць Бабруйскі ўмацаваны раён па фронце ад Острава на р. Бярэзіне ўключна па р. Свіслачы да в. Цельцы, далей па лініі Прагалевічы, Мысеевічы, Старыя Дарогі да м. Любань уключна, а на Лунінецкім і Тураўскім участках цяпер займаемыя пазіцыі.

У армейскі рэзерв прызначаю 3 брыгаду 9 дывізіі, якая знаходзіцца цяпер у раёне Рагачова.

**Пятае:** Распараджэннем Начдыў 17, 52, 8 і Начбоеўуч Барысаўскага ўсе пераправы на р. Бярэзіне ад вярхоўя да м. Парычы выключаючы пераправы ў в. Чарніца, Верх. Бярэзіна, Барысава, Ніжн. Бярэзіна і Бабруйска, цяпер-жа грунтоўна знішчыць, плавучыя сродкі сканцэнтраваць да Барысава і Бабруйска, а пры немагчымасці выканаць гэта—таксама знішчыць.

Пералічаныя вышэй маставыя пераправы цяпер-жа падрыхтаваць да знішчэння, самае знішчэнне [праводзіць] распараджэннем Начдываў.

Аб выкананні гэтага пункта тэрмінова данесці.

**Шостае:** Начснабу ўсімі спосабамі і мерамі дапамагчы Начдыву 52 у арганізацыі снабжэння і падвозу для войск 52 дывізіі, якая абараняе р. Бярэзіну, прыняўшы пад увагу адсутнасць на гэтым участку чыгункі.

**Сёмае:** Зусім неабходна ў поўнай меры выкарыстаць асаблівасці абароны лясіста-балоцістых прастораў наогул і раёна р. Бярэзіны ў прыватнасці. Начдывам і Начбоеўчасткa Барысаўскага даць адпаведныя растлумачэнні падначаленаму камандному складу, данёсшы мне копію ўказанняў, а галоўнае—праверыўшы размяшчэнне часцей на месцы.

**Восьмае:** Размежавальная лінія: паміж 15 арміяй і 17 дывізіяй—ранейшая. Паміж 17 дывізіяй і войскамі Барысаўскага боеўчастка Ілія—возера Пелік—возера Святое—Сенно—станцыя Бегушэўская—Левае ўсе пункты ўключна для 17 дывізіі.

Паміж Барысаўскім боеўчасткам і 52 дывізіяй Менск—Усце—возера Лубяны—Шклоў—Горкі усе пункты за выключэннем Новы Шклоў і Горкі ўключна для Барысаўскага боеўчастка

Паміж 52 дывізіяй і 8 дывізіяй Пухавічы—Гарадзішча (на рацэ Друць), Стары Быхаў—Чэрыкаў усе пункты за выключэннем Чэрыкава для 52 дывізіі ўключна. Паміж 8 дывізіяй і 12 арміяй ранейшая граніца прыфрантовай паласы возера Баяныра—ст. Лоўшы—Бешанковічы—Талачын і далей па рацэ Друць і Дняпры да Калачын усе пункты ўключна.

Граніца прыфрантовай паласы возера Сенніца—Сураж—Яновічы—Лёзна—Расоны—Горкі—Чэрыкаў—возера Віхоць—Бабовічы ўсе пункты ўключна.

Дзевятае: Граніцай тылавога раёна арміі ўстаноўлена лінія Белы—Смаленск—Клімавічы—ст. Унеча ўсе пункты ўключна».

Загад падпісан камандармам XVI і членамі Рэўваенсовета тт. Орджанікідзе і Уншліхтам.

У канцы жніўня, пасля няўдалай спробы прарвацца каля Бабруйска, белапалякі сканцэнтравалі значныя сілы каля Барысава і, пераправіўшыся праз раку Бярэзіну, захапілі горад Барысаў. Часці Чырвонай арміі страцілі дотык з праціўнікам. Разведка давала самыя супярэчлівыя паведамленні аб размяшчэнні і сілах праціўніка. Каб адкінуць белапалякаў зноў за раку Бярэзіну і звярнуць горад Барысаў, неабходны былі дакладныя звесткі аб праціўніку. Тав. Орджанікідзе рашае сам правесці разведку. У цёмную ноч тав. Орджанікідзе разам з членамі Барысаўскага павятовага рэўкома (тт. Хацкевічам, Матусевічам і інш.) і дзесяткам чырвонаармейцаў, з вінтоўкай у руцэ адпраўляецца ў пешую разведку да Барысава ў тыл белапалякам. Разведка прайшла да прадмесця горада Барысава, звязалася з насельніцтвам і, даведаўшыся аб колькасці сіл праціўніка і іх размяшчэнні, вярнулася.

Праз два дні часці Чырвонай арміі выбілі белапалякаў з Барысава, адкінуўшы іх за раку Бярэзіну.

Тав. Орджанікідзе, кіруючы баявымі аперацыямі, многа ўвагі ўдзяляў умацаванню тылу XVI арміі. Тут дзейнасць тав. Орджанікідзе была самая рознастайная, пачынаючы з кіраўніцтва работай Магілеўскага Губсоўнаргаса і канчаючы пытаннем аб скарыстанні «губтрамогам» (губ. транспартны аддзел) коней, якія былі ў яго распараджэнні, пытаннем снабжэння фабрык і т. д.

Асабліва уважліва тав. Орджанікідзе адносіўся да чырвонаармейцаў. Пры наведванні 18 верасня Быхаўскіх чырвонаармейскіх казарм тав. Орджанікідзе выявіў антысанітарнае становішча двара і адсутнасць асвятлення ў казармах. Тав. Орджанікідзе загадаў неадкладна ачысціць двор і даць асвятленне ў казармы. На другі дзень, 19 верасня тав. Орджанікідзе праверае выкананне свайго загаду. Выявілася, што загад не выкананы. Тав. Орджанікідзе аддаў загад аб арышце загадчыка кватэрным аддзелам Данцова на два тыдні і каменданта раёна Малахава на 20 дзён з адхіленнем ад пасады.

Тав. Орджанікідзе вядзе жорсткую барацьбу супроць якога-б там ні было трацкісцкага скажэння лініі партыі па пытаннях ваеннага будаўніцтва. У верасні тав. Орджанікідзе напісаў дакладную запіску ў ЦК РКП(б) і таварышу Сталіну з пратэстам супроць рашэння Рэўваенсовета Рэспублікі па пытанню аб структуры рэўваенсоветаў арміі. У гэтай запісцы тав. Орджанікідзе пісаў:

«У той час, як лініяй паводзін партыі ў пытаннях ваеннага будаўніцтва з'яўляецца ўзмацненне значэння комуністычных

элементаў у арміі і паступовае вызваленне яе ад выключнага ўплыву ваенных спецыялістаў старога рэжыму, адным з апошніх актаў Рэволюцыйнага Ваеннага Совета Рэспублікі аказалася мерапрыемства, якое, не гледзячы на свой, здавалася-б, тэхнічна-спецыяльны характар, стварае самыя сур'ёзныя перашкоды да правядзення гэтай лініі рэўваенсоветамі армій».

У канцы верасня ЦК РКП(б) паслаў таварыша Сталіна, а ў хуткім часе і тав. Орджанікідзе на паўднёвы фронт супроць Дзенікіна.

Тав. Орджанікідзе быў прызначан членам Рэўваенсовета XVI арміі.

20 кастрычніка ўдарная група (3 брыгада латышскай дывізіі, часці 9 і эстонскай дывізіі) з боем заняла Орол. На чале гэтых часцей быў Орджанікідзе.

У пачатку лютага 1920 года пастановай ЦК РКП(б) ствараецца партыйнае бюро па аднаўленню совецкай улады на Паўночным Каўказе. Старшынёй бюро прызначаецца Серго Орджанікідзе.

25 лютага 1921 года сталіца Грузіі стала совецкай. У тэлеграме, якую адправіў Орджанікідзе Леніну і Сталіну, гаварылася:

«Лунае над Тыфлісам чырвоны сцяг Совецкай улады. Няхай жыве Совецкая Грузія».

У дні, калі Орджанікідзе дабіваў контррэволюцыю Грузіі, X з'езд РКП(б), які засядаў у Маскве, завочна абраў яго членам ЦК РКП(б).

Пастановай ад 19 мая 1921 года прэзідыум УЦВК узнагародзіў Серго Орджанікідзе ордэнам баявога Чырвонага Сцягу.

У складанейшай абстаноўцы Серго Орджанікідзе прышлося наладжваць ў Закаўказзі совецкую ўладу. Трэба было пачынаць з умацавання партыйнай арганізацыі, пранізаць яе работу духам пролетарскага інтэрнацыяналізма. У аб'яднаным пад совецкім сцягам Закаўказзі Орджанікідзе разгарнуў свае здольнасці буйнейшага партыйнага арганізатара і кіраўніка большэвіцкай партыі.

У сакавіку—красавіку 1922 года тав. Орджанікідзе прымае ўдзел у работах XI з'езда РКП(б), на якім ён быў абраны ў члены ЦК. У члены Цэнтральнага Камітэта ён абіраецца на XII, XIII і XIV партыйных з'ездах.

На XIV партыйным з'ездзе Серго Орджанікідзе знішчальна абрушваецца на здраднікаў социялізма Зіноўева і Каменева; у прамове на XIV з'ездзе ён бязлітасна выкрывае так званую «новую апазіцыю», якая не грэбае ніякімі сродкамі, каб узарваць ленінска-сталінскае кіраўніцтва партыі.

3 лістапада 1926 года аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК абірае Серго Орджанікідзе старшынёю Цэнтральнай Кантрольнай Камісіі. Пастановай прэзідыума ЦВК СССР ён прызначаецца наркомам Рабоча-Сялянскай Інспекцыі і намеснікам старшыні СНК СССР.

Серго Орджанікідзе ўзначаліў ЦКК РСІ у адзін з труднейшых перыядаў развіцця рэволюцыі, у перыяд, калі разгортвалася падрыхтоўка к пераходу ад аднаўлення народнай гаспадаркі да яе рэканструкцыі на новай тэхнічнай базе, у перыяд, калі троцкісцка-зіноўеўскі блок, аформіўшыся, перашоў ужо да адкрытых контррэволюцыйных метадаў барацьбы супроць партыі і совецкай улады.

Узняўшы галаву, правыя адшчапенцы змыкаліся з троцкістамі, дамаўляючыся з імі аб аб'яднанні ўсіх контррэволюцыйных сіл для барацьбы супроць партыі, супроць ЦК і таварыша Сталіна.

10 лістапада 1930 года тав. Орджанікідзе быў прызначан старшынею Вышэйшага Совета Народнай Гаспадаркі СССР. Рашэннем аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК ВКП(б), які адбыўся 17—21 снежня, ён быў уведзен у члены Палітбюро ЦК ВКП(б).

1929—30—31 гг. будаваліся Магнітка і Кузнецк, аўтазаводы ў Горкім, Маскве, Чэлябінску, сотні індустрыяльных крэпасцей соцыялізма.

Разгарнулася вялікая барацьба за будаўніцтва цяжкай прамысловасці. Серго Орджанікідзе ўзяўся за справу з уласцівым яму рэволюцыйным уздымам і большэвіцкай энергіяй. Трэба было зламаць руціну і закаранеласць многіх работнікаў, якія прывыклі да старых тэмпаў, да старых метадаў работы, трэба было па-большэвіцку прыняцца за арганізацыю і выхаванне кадраў.

Камандарм соцыялістычнай прамысловасці кіраваў ёю не толькі са сваёй баявой вышкі, але і непасрэдна на пазіцыях фронта—у цэхах, на паасобных участках будоўляў.

Сталінград, Горкі, Ленінград, Харкаў, Сталіно, Краматорск, Каменскае, Днепрапетроўск, Запарожжа, Енакіева, Марыупаль, Варашылаўск, Магнітагорск, Чэлябінск, Сталінск, Пракоп'еўск, Кемерава, Новасібірск, Свердлоўск, Ніжні Тагіл, Перм, Грозны, Баку, Кічкас, Бобрыкі, Макееўка, Луганск, Крывы Рог, Бярэзнікі, Салікамск, —вось далёка няпоўны пералік індустрыяльных ачагоў, якія не раз аб'язджаў Серго Орджанікідзе для кіраўніцтва работай непасрэдна на месцах.

За бліскучае кіраўніцтва цяжкай прамысловасцю тав. Орджанікідзе быў узнагароджан ордэнам Леніна і за перавыкананне плана 1935 года—ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Грандыёзнае будаўніцтва цяжкай прамысловасці ў БССР за гады першай і другой пяцігодак таксама шчыльнейшым чынам звязана з імем тав. Орджанікідзе.

Тав. Орджанікідзе блізак і дораг беларускаму народу. У адказнейшыя моманты жыцця беларускага народу тав. Орджанікідзе прыносіў перамогу. Так было ў 1917 годзе, пасля пролетарскай рэволюцыі, так было ў 1919 годзе ў цяжкую гадзіну барацьбы з белапалякамі, так было ў гады першай і другой пяцігодак. Імя тав. Орджанікідзе, як бліжэйшага памочніка правадыра народаў таварыша Сталіна, азначала для беларускага народу ператварэнне адсталай аграрнай Беларусі ў перадавую індустрыяльна-аграрную краіну, у магутны фарпост Совецкага Саюза на Захадзе.

Вось чаму ЦК КП(б)Б, паведамляючы членаў КП(б)Б, рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных Беларусі аб заўчаснай канчыне тав. Орджанікідзе Грыгорыя Канстанцінавіча, пісаў:

«Цэнтральны Камітэт Комуністычнай Партыі (большэвікоў) Беларусі, рабочыя, калгаснікі і ўсе працоўныя Беларусі пераносяць велізарнейшае гора ад гэтай страты нашай партыі, нашай краіны.

**Серго Орджанікідзе** згарэў на рабоце, аддаўшы ўсе свае сілы, нястомную энергію, энтузіязм справе комунізма. Ён заўсёды быў у першых радах барацьбітоў за соцыялізм і на фронтах баявых, і на фронце будаўніцтва соцыялізма, ён заўсёды быў з Леніным і з таварышом **Сталіным.**

Беларускі народ у песнях і вершахваспеў гераічныя ўчынкі тав. **Орджанікідзе,** зробленыя ім у барацьбе за вызваленне Беларусі ад белапольскай панскай акупацыі.

Бясстрашны, палкі барацьбіт нашай партыі тав. **Орджанікідзе,** будучы ў Рэўваенсовеце XVI арміі ў 1919 годзе, сам з маленькай групкай чырвонаармейцаў хадзіў у разведку ў тыл белапалякаў і гэтым забяспечыў узяцце гор. Барысава, атрымаўшага назву беларускага Перакопа.

Беларускі народ, як і ўсе народы Саюза, будзе заўсёды памятаць тав. **Орджанікідзе**—бездакорна чыстага і стойкага партыйца, большэвіка, які аддаў сваё слаўнае, гераічнае жыццё справе рабочага класа.

Памяць аб гераічным жыцці і барацьбе **Серго** натхняе нашу **партыю,** рабочы клас, калгаснікаў і ўсіх працоўных на далейшыя перамогі комунізма, пад кіраўніцтвам вялікага **Сталіна».**

Праграма рэстаўратарская, праграма нагла капіталістычная, з якою трацкісты адкрыта не смелі ісці ў масы.

Недарма яшчэ 10 год назад, калі трацкісцкая праграма выглядала яшчэ як тэзісы апазіцыі, таварыш Сталін заклеймаў яе, гаворачы: «Платформа» апазіцыі ёсць платформа па разрушэнню нашай партыі, платформа па раззбраенню рабочага класа, платформа па развязванню антысовецкіх сіл, платформа па зрыву дыктатуры пралетарыята».

На працягу амаль дваццацігадовага перыяда совецкай улады мы ўжо не раз былі сведкамі таго, як перад тварам совецкага суда выкрывалася праграма аднаўлення капіталізма, якую спрабавалі ажыццявіць розныя агенты сусветнага капітала і расійскай контррэвалюцыі. Аднак ні адзін з прашоўшых перад намі судовых працэсаў белагвардзейскіх змоўшчыкаў не ўзбуджаў такога глыбокага і магутнага народнага гневу, не ўзнімаў такога абурэння, якое бурліць зараз у краіне супроць трацкістаў і атамана іх шайкі Іуды-Троцкага.

Успамінаецца працэс англійскага пасла Локарта і яго рускіх шпіёнаў, якія шырока адлюстравалі ўсю вострасць класавай барацьбы ў 1918 годзе. Праходзіць перад вачыма слухаўшаяся ў 1920 годзе справа так званага «тактычнага цэнтра», які ўключаў прадстаўнікоў усіх антысовецкіх палітычных партый—ад ярых манархістаў і кадэтаў да меншавікоў і эсэраў. Справа гэта ўскрыла цесныя сувязі ваеннай змовы ўнутры краіны з зарубежнай контррэвалюцыяй.

Працэс цэнтральнага камітэта партыі эсэраў, які адбываўся ў 1922 годзе, з выключнай яркасцю выявіў перад усім светам, што гэтыя прадстаўнікі подлага кулацтва арганізоўвалі забойствы совецкіх кіраўнікоў, ажыццяўлялі ўзброеныя ограбленні, уваходзілі ў здрадніцкія адносіны з замежнымі дзяржавамі і ўзнімалі ўзброеную барацьбу супроць совецкай улады ў імя адной адзінай мэты—адраджэння капіталізма ў нашай краіне.

Успомнім шахцінскі працэс 1928 года, калі перад совецкім судом прадстала контррэвалюцыйная верхавінка старой тэхнічнай інтэлігенцыі. Мы зноў-такі ўбачым, што ажыццяўленне шкодніцкіх актаў, затапленне і разрушэнне шахт, зрыў работы цэнтральных органаў, кіраваўшых каменавугальнай прамысловасцю, атрыманне грошай з-за мяжы і іншыя злачынствы шахцінцаў тлумачыліся тым, што гэтыя людзі ішлі на повадзе ў старых гаспадароў, дзейнічалі ў іх інтарэсах і выконвалі іх прамыя заданні і дырэктывы.

Адбыўшыяся ў 1930 і 1931 гг. судовыя працэсы над контррэвалюцыйнымі арганізацыямі «Промпартыі» і «Саюзнага бюро» меншавікоў-інтэрвентаў, роўна як і раскрыццё арганізацыі кулацкай партыі Кандрацьева—Чаянава, выкрылі, што ўсе гэтыя белагвардзейскія арганізацыі яднае агульнасць праграмных пазіцый. Усе яны лічылі сваёй задачай аднаўленне капіталізма ў СССР. Усе яны ставілі стаўку на інтэрвенцыю, як на адзіны шлях звяржэння совецкай улады. Усе яны прыбягалі да шкодніцтва, як да асноўнага метаду контррэвалюцыйнай работы. Усе яны знаходзіліся ў арганізацыйнай сувязі з кіруючымі коламі еўрапейскай буржуазіі, а меншавікі, у прыватнасці, былі таксама ў сувязі з кіруючымі коламі II Інтэрнацыянала.

Ва ўсіх гэтых судовых працэсах, якія з'яўляюцца адлюстраваннем гісторыі контррэвалюцыі ў СССР, чырвонай ніткаю праходзіць адзінства мэты—аднаўленне капіталізма. Аднак трэба прама сказаць:

зусім не выпадкова міжнародны капітал даручыў цяпер справу звяржэння совецкай улады трацкістам. Іменна яны намнога перавысілі і выперадзілі сваіх папярэднікаў у азвярэлай пянавісці да соцыялізма і совецкага народу. Іменна яны старанна выкоўвалі для буржуазіі «тэарэтычную», духоўную зброю для барацьбы з совецкай уладай у выглядзе тэзісаў аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Іменна яны ўлажылі ў рукі буржуазіі тактычную зброю для барацьбы з совецкай уладай, вышаўшы на вуліцу з антысовецкай дэманстрацыяй і развязаўшы шкодніцкую работу буржуазных спецыялістаў. Іменна яны далі контррэволюцыі арганізацыйную зброю, стварыўшы падпольную антысовецкую арганізацыю і палегчыўшы стварэнне іншых антысовецкіх груп.

У сваёй далейшай подласці трацкісцкія бандыты пабілі, аднак, свае ўласныя рэкорды здрадніцтва. Па меры таго як у нашай краіне перамога соцыялізма станавілася ўсё больш відавочнай, па меры таго як у капіталістычным свеце фінансавы капітал, са страху перад рэволюцыяй, пераходзіў к фашызму, трацкісты прапанавалі свае паслугі капіталу ў якасці атрада, усёй сваёй папярэдняй дзейнасцю найбольш падрыхтаванага да забойства правадыроў совецкай краіны, да развязвання вайны, да шпіянажу і шкодніцтва, да рэстаўрацыі капіталізма.

Буйнейшыя капіталістычныя фірмы Германіі, накшталт «Борзіг» і «Дэмаг», якія ўтрымлівалі за кошт спецыяльных гандлевых накідак шайку Троцкага і яго супольнікаў, добра ведалі, за што яны плацяць. З сабачай стараннасцю і адданасцю таму, хто іх корміць, трацкісты ажыццяўлялі на гэтыя грошы шкодніцкія акты, дыверсіі, шпіянаж і тэрор. Яны стараліся дзейнічаць без промаху. Мярзавец Пятакоў і яго спадручныя, па дырэктывах Троцкага, накіроўвалі ўдары ў найбольш адчувальныя месцы. Кемераўскі працэс раскрыў перад усім светам, што трагічны выбух на шахце «Цэнтральная», выбух, пры якім загінула дзесяць і было цяжка паранена чатырнаццаць гарнякоў,—справа рук наёмнікаў Гестапо і агентаў Троцкага.

Жудасная катастрофа вайсковага поезда на станцыі Шуміха, пры якой 29 чырвонаармейцаў загінула і 29 было паранена, была арганізавана бандытам Князевым па прамой дырэктыве трацкісцкага цэнтра і па ўказаннях японскай разведкі.

Багацце чалавечых афяр пры ўсіх гэтых дыверсійных актах ніколькі не бянтэжыла трацкісцкіх ваўкоў. Яны цынічна паціралі пры гэтым рукі, цешачы сябе надзеямі на тое, што выбухі, крушэнні, атручванні рабочых будуць выклікаць азлабленне супроць совецкай улады.

Пры ўсёй жудаснасці шкодніцкіх актаў, якія трацкістам удалося ажыццявіць, яны ўсё-ж павінны здавацца дзіцячымі забавамі ў параўнанні з тымі злачынствамі, якія рыхтаваліся ворагамі народу ў час вайны па прамых указаннях Троцкага, узгодненых з германскім генштабам і японскай разведкай. Аб характары і маштабах гэтых злачынстваў можна меркаваць хоць-бы па таму, што Пятакоў аддаў распараджэнне ў момант пачатку вайны падпаліць Кемераўскі хімічны камбінат—адну з цытадэляў нашай хімічнай прамысловасці, а Ліўшыц, Князеў і іншыя шкоднікі на транспарце рыхтаваліся да шырокага заражэння бактэрыямі вайсковых эшалонаў, пунктаў харчавання і пунктаў санітарнай апрацоўкі войск.

Для таго, каб фашысцкія ўдары па совецкай краіне наносіліся найбольш метка, трацкісты не абмяжоўваліся ажыццяўленнем і падрыхтоўкаю дыверсійных, шкодніцкіх актаў. Яны ўзялі на сябе выкананне шпіёнскіх заданняў германскай і японскай разведкі. Ратайчак, Пушын, Грашэ перадалі ў германскую разведку падрабязныя звесткі аб становішчы абсталявання, прастоях, аварыях, аб выпуску прадукцыі і будаўнічых планах хімічнай прамысловасці. Страйлаў і Шэстоў ажыццяўлялі аналагічную сувязь з германскай разведкай, выконваючы заданні па эканамічнаму шпіянажу ў горнай прамысловасці. Князеў перадаваў японскай разведцы даныя аб мабілізацыйнай гатоўнасці чыгунак, вайсковых перавозках і т. д.

Калі ўсе выканаўцы, якія дзейнічалі па загадах трацкісцкага цэнтра, шпіёнілі і прадавалі сваю краіну ў розніцу, то самы цэнтр гандляваў радзімай оптам. Іменна для гэтых мэтаў наладжваліся здрадніцкія сустрэчы і перагаворы Троцкага, Сакольнікава, Радэка і іншых з прадстаўнікамі найбольш агрэсіўных фашысцкіх дзяржаў.

Увесь гэты букет злачынстваў увенчваўся арганізацыяй разгалінаваных тэрарыстычных груп у Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Растове, Сочы, Новасібірску і ў іншых гарадах. Вораг народу Троцкі прапаведаваў, яго спадручныя падгатаўлялі, іх агенты запасаліся зброяй, вывучаліся страляць, выслежвалі. Яны рабілі ўсё, каб ажыццявіць цэлую серыю тэрарыстычных актаў супроць кіраўнікоў партыі і ўрада.

Не было той подласці, на якую няздольны былі-б трацкісты ў імя аднаўлення капіталізма. Што азначала-б, аднак, рэстаўрацыя капіталізма для народных мас?

Гісторыя расшыфравала адказ ва ўсіх падрабязнасцях. Аб гэтым красамоўна гавораць вынікі нават часовых перамог, атрыманых контррэвалюцыяй.

Усякі, хто хоць крыху знаёмы з гісторыяй, ніколі не забудзе жудасных зверстваў, здзекаў і гвалтаў, якімі насмешлівыя забойцы-версальцы катавалі парыжскі пралетарыят, спраўляючы свае крывавыя оргіі на попелішчы зруйнаванай Парыжскай Комуны. Не менш за-разны малюнак дае разгул белага тэрору пасля трагічнага разгрому пролетарскай дыктатуры ў Венгрыі. Перамогшы маладую совецкую рэспубліку, венгерскія каты літаральна залілі ўсю краіну ў крыві абяззброеных комуністычных, соцыял-дэмакратычных і беспартыйных рабочых, іх жонак і дзяцей.

Шыбеніцы, расстрэлы, турэмныя здзекі і катаванні—такі быў той капіталістычны «парадак», які прынеслі з сабою белагвардзейскія штыкі. Крушэнне вельмі нядоўгавечнай Баварскай совецкай рэспублікі таксама азнаменавалася выключна лютай расправай з рабочымі і жорсткім белым тэрорам, які з'явіўся тым пралогам да наступнага выспявання самых агалцелых форм фашысцкага разгулу.

Нарэшце, самай жывой і памятнай для нашага народу ілюстрацыяй таго, што азначае рэстаўрацыя капіталізма для рабочых, сялян і інтэлігенцыі, з'яўляецца вопыт уладарніцтва белых і інтэрвентаў на Украіне, на Беларусі, у Архангельску, у Закаўказзі, у Сібіры і на Далекім Усходзе ў тыя гады, калі совецкая ўлада была часова адціснута з гэтых раёнаў.

Ужо самы прыход белагвардзейцаў суправаджаўся звычайна пагалоўнаю разнёю комуністаў і комсамольцаў, забойствам рэвалюцыйных рабочых, чырвонаармейцаў, масавымі расстрэламі, караю смерці

на кастрах і сярэдневяковымі катаваннямі працоўнага насельніцтва. На ліхтарах цэнтральных вуліц і плошчаў вешалі перадавых рабочых, моладзь, часта і ні ў чым не павінных абывацеляў. Усё гэта было, аднак, толькі пачаткам тэрарыстычнага разгулу белых.

Варта было сялянам хоць чым-небудзь выказаць сваю нездаволенасць зваротам памешчыкаў, як цэлыя паселішчы падпадалі разгрому і спаленню (напомнім хоць-бы «дзейнасць» генерала Слашчова, спаліўшага ў лістападзе 1919 года рад сёл Баштанскай і Вісунскай рэспублік). Дзесяткі тысяч сялян, адзіная віна якіх заключалася ў тым, што яны не належалі да кулацтва, падпадалі бесчалавечнай лупцоўцы шампаламі і нагайкамі.

Зварочваючы фабрыкі, заводы, руднікі, дамы ранейшым уласнікам, ліквідуючы ўсе заваевы рабочых у частцы скарачэння рабочага часу, адпускоў, соцыяльнага страхавання і т. д., контррэволюцыя, неадкладна пасля выцяснення ўлады Саветаў, пераходзіла да самага разбэшчанага тэрору.

Пад выглядам увядзення «ваеннага», «асаднага», «надзвычайнага» становішча ўстанаўляліся спецыяльныя законы, заклікаpast забіваць у зародку ўсякую праяву свабодамыслія. Пад выглядам «барацьбы з марксізмам» адкрывалася зверскае ганенне на інтэлігенцыю ўсёй у галіне навукі, мастацтва, літаратуры. Школы, бібліятэкі, навуковыя інстытуты закрываліся. Рэлігійныя мракабесы трыумфавалі.

Такімі былі вынікі аднаўлення капіталізма ў час грамадзянскай вайны ў паасобных раёнах нашай краіны. Лёгка ўявіць сабе, чаго дабіваліся праклятыя трацкісты, імкнучыся аднавіць капіталізм у савецкай краіне пасля таго, як самыя яго карэнні выкарчаваны тут дашчэнту.

Трацкісцкі вораг непараўнальна больш подлы, чым любы іншы агент контррэволюцыі. Мы лёгка распазнавалі і білі адкрытага ворага. Значна складаней і небяспечней аказаліся тыя, хто здолеў пранікнуць у наш партыйны дом, каб ашукаць нашу пільнасць. Прымяняючы сваю двурушніцкую тактыку, з мёдам на вуснах, з гудушкімі слязьмі на вачах, яны хавалі нож за пазухай і наносілі ўдар з-за спіны. Пралязаючы ў рады партыі, прасмыкаючыся, прыстасабляючыся, маскуючыся, гэтыя злобныя гады пранікалі ў найбольш адказныя ўчасткі, праслізгвалі да ўлады. Гэтыя палітычныя авантурысты выкарыстоўвалі ўсякую шчыліну, малейшае аслабленне пільнасці, каб шкодзіць і гадзіць нам.

Генералы-манархісты, кадэты, эсэры, меншавікі і іншыя ворагі савецкай улады спрабавалі звярнуць памешчыкам і капіталістам тое, што ў іх было адабрана пралетарскай соцыялістычнай рэволюцыяй. Трацкісцкія бандыты спрабуюць не толькі адабраць у нас заваяванае, але і прыпадпесці сваім фашысцкім гаспадарам у дзесяцера большыя каштоўнасці, створаныя намаганнямі рабочых і сялян за гады двух сталінскіх пяцігодак.

Дзенікіны і Мілюковы стараліся, хоць-бы для прыстойнасці, захаваць на сваім фасадзе славесную балбатню аб «недзялімай» Расіі. Трацкісты пайшлі ніжэй гэтых белагвардзейцаў. Германскія, італьянскія, японскія, фашысцкія агрэсары спрабуюць прыкрыць ажыццяўляемы імі рабунак народаў фігавым лістком «патрыятызма», хаця-б у іх буржуазным разуменні гэтага слова. Трацкісты адкрыта распісваюцца ў тым,

што яны гандлююць нашай краінай оптам і ў розніцу. Ці можа быць падзенне больш агіднае, ці можа быць падзенне больш глыбокае?

Працэс закончыўся. Караючы меч совецкага правасуддзя апусціўся на галавы трацкісцкіх катаў. Было-б, аднак, наіўна думаць, што са здзейсненнем прысуду канчаецца барацьба з ворагамі народу.

Велізарнае значэнне працэса заключаецца ў тым, што ён выкрыў метады, зброю, якой карыстаецца вораг. Веданне варожых павадак узбройвае нас для барацьбы з ім. Задача цяпер заключаецца ў тым, каб выкрываць і біць ворага, пад якой-бы лічынай ен ні хаваўся.

«Праўда»

---

## Хроніка рэвалюцыйных падзей у Беларусі за сакавік 1917 года

**23 (10) лютага.**

**Петраград.** ЦК РСДРП пастанавіў правесці 14 лютага дэманстрацыю пад большэвіцкімі лозунгамі.

**27 (14) лютага.**

**Петраград.** Палітычная забастоўка па заклику Цэнтральнага Камітэта большэвікоў ахапіла каля 60 прадпрыемстваў.

**7 сакавіка (22 лютага).**

**Петраград.** 20-тысячная дэманстрацыя пуцілаўскіх рабочых.

✱ У розных частках горада з'явіліся чырвоныя сцягі дэманстрантаў з рэвалюцыйнымі лозунгамі. Вялікую актыўнасць праявілі жанчыны.

✱ Увечары большэвіцкі Камітэт Выбаргскага раёна пастанавіў: забастоўку працягваць і ператварыць яе ва ўсеагульную.

**9 сакавіка (24 лютага).**

**Петраград.** Бастуюць каля 200 тыс. рабочых. На рабочых ускраінах будуюцца першыя барыкады.

✱ Бюро Цэнтральнага Камітэта партыі большэвікоў выносіць пастанову аб уцягненні салдат у актыўную рэвалюцыйную барацьбу.

**10 сакавіка (25 лютага).**

**Петраград.** Рабочыя стачкі і дэманстрацыі ахапілі ўвесь горад.

✱ Арышт 5 членаў Пецярбургскага Камітэта большэвікоў. Кіраўніцтва барацьбой перайшло ў рукі Выбаргскага Камітэта. Большэвікі выпусцілі адозву, заклікаўшую рабочых і салдат ператварыць выступленне ў апошнюю барацьбу з царызмам.

**11 сакавіка (26 лютага).**

**Петраград.** Пецярбургскі Камітэт большэвікоў звярнуўся з маніфестам да насельніцтва аб стварэнні Часовага рэвалюцыйнага ўрада.

✱ Большэвікі на заводах і ў раёнах заклікаюць да стварэння советаў.

**12 сакавіка (27 лютага).**

**Петраград.** Звяржэнне самадзяржаўя. Утварэнне Петраградскага Совета рабочых дэпутатаў. Масавы пераход войск на бок паўстаўшых.

**14 (1) сакавіка.**

**Петраград.** Першае аб'яднанае паседжанне Петраградскага Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў

**15 (2) сакавіка.**

**Петраград.** Паседжанне Петраградскага Совета, на якім ад імя партыі большэвікоў тав. Молатаў і іншыя большэвікі настойваюць на арганізацыі рэволюцыйнага ўрада, патрабуючы не ўступаць ні ў якія пагадненні з буржуазіяй. Але большасць Совета, якая ішла тады за меншэвікамі і эсэрамі, рашае перадаць уладу буржуазнаму ўраду.

✱ Устанавілася фактычнае двоеўладдзе: 1) буржуазны Часовы урад, які трымаў у сваіх руках апарат улады і 2) Петраградскі Совет, на баку якога была ўзброеная сіла і падтрымка пролетарскіх і сялянскіх мас усёй краіны.

**Менск.** Рабочыя пад кіраўніцтвам большэвікоў тт. Фрунзе, Кнорына, Любімава і інш. раззброіваюць паліцыю. Увечары першыя дэманстрацыі рабочых і салдат.

**16 (3) сакавіка.**

**Менск.** Сход прадстаўнікоў служачых ад большасці аддзелаў і пададдзелаў Камітэта Заходняга фронту Усерасійскага Земскага Саюза. Прысутнічала 44 дэлегаты. Выбран Выканаўчы камітэт, у які выбран тав. Міхайлаў (падпольная клічка тав. Фрунзе).

**Віцебск.** Сход чыгуначнікаў. Выбран «Галоўны камітэт Рыга-Орлоўскай чыгункі». З 10 чалавек выбраных у праўленне—1 большэвік

**Гомель.** Утворан Совет рабочых дэпутатаў

**17 (4) сакавіка.**

**Ленін** напісаў «Набросок тезисов»—ацэнку перспектыў развіцця рускай рэволюцыі і задачы большэвіцкай партыі.

**Петраград.** Паседжанне бюро ЦК РСДРП (большэвікоў), на якім была прынята рэзалюцыя аб недапушчальнасці пагадненняў з Часовым урадам, «па сутнасці контррэволюцыйным», і аб неабходнасці стварэння часовага рэволюцыйнага ўрада дэмакратычнага характару (дыктатура пролетарыята і сялянства).

**Менск.** Утворан Совет рабочых дэпутатаў. Старшынёй Совета выбран тав. Позерн (большэвік), намеснікам тав. Любімаў І. (большэвік).

✱ Арганізавана гарадская міліцыя. Начальнікам міліцыі назначан тав. Фрунзе-Міхайлаў.

✱ Камендантам г. Менска Б. Самойленка выдан наступны загад: «Служачы Усерасійскага Земскага Саюза Міхаіл Александравіч Міхайлаў прызначан мною зданага чысла часовым начальнікам міліцыі Усерасійскага Земскага саюза па ахове парадку ў горадзе. Прашу усіх гарадскіх чыноў паліцыі выдаць Міхайлаву маючуюся у распараджэнні зброю па опісу».

✱ Часовы начальнік міліцыі Міхайлаў М. выдаў загад аб прыняцці ім начальства над міліцыяй г. Менска.

✱ Зброя паліцыі перадана міліцыі ВЗС. Усе ўрадавыя ўстановы, пошта і тэлеграф ахоўваюцца міліцыяй.

✱ Аб 11 гадзіне ўвечары пры грамадзянскім каменданце г. Менска утвараецца Часовы Грамадскі Камітэт для ўстанаўлення новага парадку.

У склад яго ўвайшлі: гарадскі галава, 2 члены Выканаўчага камітэта служачых ВЗС, па 2 упаўнаважаных Усерасійскага Земскага і Гарадскога саюзаў.

Начальнік гарадской міліцыі прадастаўвў 2 месцы прадстаўнікам ад арганізуючагася Совета Рабочых Дэпутатаў.

**18 (5) сакавіка.**

**Петраград.** Пасля забароны царскім урадам вышаў першы нумар большэвіцкай газеты «Правда».

**Менск.** Утвораш Совет салдацкіх Дэпутатаў.

✱ 2-ое паседжанне Менскага Совета Р. і С. Д. З пазачарговай заявай выступаў начальнік менскай народнай міліцыі Міхайлаў (Фрунзе). Ён указвае на неабходнасць правядзення маніфестацыі, прызначанай на 6 сакавіка, магчыма арганізаваней, і просіць усіх таварышоў запісвацца ў народную міліцыю. Совет, са свайго боку, рэкамендуе запісвацца ў міліцыю.

✱ Менскі Совет Рабочых Дэпутатаў выпускае першы нумар свайго друкаванага органа «Известия Рабочих Депутатов».

**Віцебск.** Военным судом прыгавораны да смерці салдат-латыш Ян Заке. Латышскі Пецербургскі Раённы Камітэт праз Цэнтральны Камітэт РСДРП звярнуўся да міністра Керэнскага з указаннем на тэту вапіючую справу.

**19 (6) сакавіка.**

**Петраград.** Утварэнне ваеннай камісіі па стварэнню ваеннай арганізацыі пры Пецербургскім Камітэце С.-Д. большэвікоў.

**Менск.** Адбылася грандыёзная дэманстрацыя ўсіх войск і насельніцтва. Выступаўшы прадстаўнік Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў указаў на неабходнасць далейшай барацьбы, згуртаваўшыся вакол Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў.

Рабочыя, салдаты і служачыя дэманстравалі з чырвонымі сцягамі з надпісамі:

«Расійская Соцыял-Дэмакратычная Рабочая Партыя!»

«Няхай жыве рэволюцыйная армія!»

«Няхай жыве рэволюцыйная Расія!»

✱ Выканаўчым Камітэтам служачых і рабочых устаноў Усерасійскага Земск. Саюза на зах. фронце ў Менскі совет раб. дэп. дэлегаваны Б. П. Позерн і М. А. Міхайлаў (Фрунзе).

**20 (7) сакавіка.**

**Ленін, знаходзячыся заграніцай, напісаў першае «Письмо издалека».**

**Петраград.** Пецербургскі Камітэт РСДРП (большэвікоў) прапанаваў Вык. Кам. Сов. Раб. і Салд. Дэп. неадкладна ўвесці 8-гадзінны рабочы дзень ва ўсіх галінах наёмнай працы. Пецербургскі Камітэт С.-Д. (большэвікоў) заклікае арганізаваць прафесіянальныя саюзы явачным парадкам.

**Менск.** «Изв. Минск. Сов.» № 2 ад 7 сакавіка змяшчае адозву «Менскай ініцыятыўнай групы РСДРП» з заклікам да афармлення парт. арганізацыі.

✱ Адбываецца шматлюдны сход Совета Рабочых Дэпутатаў. Разглядаюцца пытанні арганізацыйнага характару. Рашаецца хадай-

нічаць перад ваеннымі ўладамі аб арганізацыі сходаў у часцях для абрання мясцовых камітэтаў і абрання дэлегатаў у Совет Салдацкіх дэпутатаў. Сход пастанаўляе аб'яднаць Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў у адну арганізацыю.

✱ Адбыўся дзень чырвонага значка ў карысць рабочага друку, наладжаны мясцовым советам рабочых дэпутатаў.

**21 (8) сакавіка.**

**Менск.** Паседжанне Совета Раб. і Салд. дэп. гор. Менска. Абмяркоўваліся наступныя пытанні: 1. Агульнапалітычныя задачы Совета 2. Арганізацыя вайсковых часцей. 3. Арганізацыя рабочых, служачых і сялян. 4. Выбары Выканаўчага Камітэта.

Па другому пытанню прымаецца праект арганізацыі вайсковых часцей, згодна якому неабходна выбраць камітэты ў часцях, пасылаць прадстаўнікоў у Совет Р. і С. Д. Ва ўсіх палітычных пытаннях салдаты падпарадкуюцца Совету, а ў ваенных абавязаны падпарадкавацца ўсім распараджэнням вайсковых улад.

Па трэцяму пытанню прымаецца рэзалюцыя аб неабходнасці неадкладнай арганізацыі фабрычна-заводскіх камітэтаў, прафесіянальных саюзаў, палітычных клубаў, вясковых, валасных і павятовых сялянскіх камітэтаў.

Намячаецца парадак і колькасць выбіраемых у Вык. К-т.

✱ Адбываецца шматлюдны сход рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Сход пастанаўляе хадайнічаць перад вышэйшай ваеннай уладай аб выданні распараджэння, каб салдатам паасобных часцей было прадастаўлена права выбіраць свае камітэты і пасылаць сваіх прадстаўнікоў у советы рабочых дэпутатаў.

**Віцебск.** Па пастанове Совета Раб. Дэпутатаў вызвален член Латышскай С. Д. Р. П.—Ян Закіс, прысуджаны да кары смерцю за ўзброенае супраціўленне паліцыі.

**22 (9) сакавіка.**

**Менск.** Арганізавана Менская аб'яднаная арганізацыя РСДРП з усіх маючыхся у Менску соцыял-дэмакратычных груп. Выбран Камітэт. У «аб'яднанку» увайшлі і большэвікі г. Менска, чым зрабілі велізарнейшую памылку, супроць якой папярэджвау большэвіцкія арганізацыі В. І. Ленін у сваіх першых-жа пісьмах з-за граніцы.

**23 (10) сакавіка.**

**Петраград.** Рэзалюцыя Бюро Цэнтральнага Камітэта Р. С.-Д. Р. П (большэвікоў) аб вайне.

**Віцебск.** На вуліцах горада адбываюцца дэманстрацыі, мітынгі. Удзельнічаюць дзесяткі тысяч рабочых і салдат, якія згуртаваліся вакол сцягоў РСДРП.

**24 (11) сакавіка.**

**Менск.** Сход рабочых пекараў па пытанню арганізацыі профсаюза. Прысутнічае 115 чалавек. Сход аднагалосна пастанавіў неадкладна прыступіць да арганізацыі саюза. Выбрана арганізацыйная камісія.

✱ Сход салдацкіх дэпутатаў. Выбрана 11 прадстаўнікоў у Вык. Камітэт С. Р. і С. Д. Абмяркоўваецца пытанне аб арганізацыі салдат на фронце.

25 (12) сакавіка.

**Менск.** Сход краўцоў. шапачнікаў па пытанню арганізацыі прафесіянальнага саюза. Прысутнічае 400 чалавек. Выбрана часовая арганізацыйная камісія для выпрацоўкі статута і скліканьня новага сходу. Робіцца папярэдні запіс у члены саюза. Запісалася каля 200 чалавек.

✱ Сход рабочых шаўцоў, прысвечаны пытанню арганізацыі прафесіянальнага саюза. Выбрана часовая камісія, якой даручана склікаць праз некалькі дзён больш шырокі сход усіх рабочых шавецкай справы.

26 (13) сакавіка.

**Менск.** Сход чыгуначнікаў у колькасці 500 чалавек. Заслухан даклад члена Вык. К-та Совета Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў аб асновах арганізацыі рабочага класа ў сувязі з бягучым момантам і аб арганізацыі чыгуначнага саюза.

✱ Сход друкароў, прысвечаны пытанню арганізацыі прафесіянальнага саюза. Прысутнічае 130 чалавек. Выбрана арганізацыйнае бюро для падрыхтоўчых работ па арганізацыі прафесіянальнага саюза, якому даручана ў двухтыднёвы тэрмін скончыць падрыхтоўчыя работы і склікаць новы сход для канчатковай арганізацыі прафесіянальнага саюза.

27 (14) сакавіка.

**Менск.** Сход рабочых сталярнай справы для арганізацыі прафесіянальнага саюза. Выбрана арганізацыйная камісія.

**Замір'е.** Мітынг салдат. Прысутнічае больш 1500 чалавек.

Прымаецца рашэнне арганізаваць Совет Салд. і Раб. Дэпутатаў гарнізона м. Замір'я, задачай якога будзе: яднаць паасобныя часці гарнізона і трымаць сувязь з другімі советамі, Менскім, Петраградскім і Маскоўскім.

28 (15) сакавіка.

Пастанова Пецербургскага Кам. Р. С.-Д. Р. П. (большэвікоў) аб стварэнні бюро па рабоце сярод жанчын.

**Менск.** Сход работніц папяроснай фабрыкі Земскага Саюза. Прысутнічае каля 400 чалавек. Сход выбірае фабрычны камітэт для зносін з адміністрацыяй і для абмеркавання прафесіянальных патрэб. У склад камітэта ўвайшло 11 чалавек.

29 (16) сакавіка.

**Менск.** Сход фармацэўтаў пастанавіў аб'яднацца ў прафесіянальны саюз. Прысутнічае 81 чалавек.

**Заслаўе.** Мітынг салдат, арганізаваны па ініцыятыве рабочых Земгора.

* * *

30 (17) сакавіка.

**Менск.** 4-ае пасяджэнне Менскага Совета Раб. і Салд. Дэп. пад старшынствам Б. П. Позерна. Позерн робіць даклад аб дзейнасці Выканаўчага Камітэта: Асноўная задача, гаворыць дакладчык, заключаецца ў тым, каб арганізаваць рабочых і салдат на месцах у моцную і правільна дзеючую арганізацыю.

Пасля абмеркавання пытання аб 8-гадзінным рабочым дні на за-

водах і ў майстэрнях гор. Менска прымаецца наступная рэзалюцыя: прызнаць увядзенне 8-гадзіннага рабочага дня неабходным і даручыць Совету прыняць меры да скарэйшага правядзення 8-гадзіннага рабочага дня без змяншэння заработнай платы.

✱ Сход рабочых, вырабляючых прадметы ваеннага абмундзіравання. Прысутнічае звыш 200 чалавек. Выбрана арганізацыйная камісія для арганізацыі прафесіянальнага саюза.

**31 (18) сакавіка.**

**Менск.** Сход прыказчыкаў, прыказчыц і служачых гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў гор. Менска. Прысутнічае каля 700 чалавек. Прынята рашэнне аб'яднацца ў прафесіянальны саюз, для арганізацыі якога выбрана камісія ў складзе 10 чалавек.

**„Хроніка рэвалюцыйных падзей" складзена па матэрыялах Інстытута Гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б навуковым работнікам Інстытута—АНДРЭЕВАЙ**

---

# ЖЫЦЦЁ МЯСЦОВЫХ ПАРТАРГАНІЗАЦЫЙ

## Памылкі ў рабоце Барысаўскай партарганізацыі

Вераснёўскі пленум ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні аб выніках абмену партыйных дакументаў завастрыў увагу ўсёй КП(б)Б на неабходнасць узняць партыйную работу да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, зрабіць усе вывады з неаднаразовых указанняў таварыша Сталіна аб павышэнні рэвалюцыйнай пільнасці, рашуча разгарнуць крытыку і самакрытыку.

Барысаўская партыйная арганізацыя—адна з буйнейшых у КП(б)Б. Яна налічвае 73 пярвічныя партарганізацыі, у якіх больш тысячы камуністаў. У раёне—рад буйных прадпрыемстваў, больш 150 калгасаў, 2 МТС, 24 сельсоветы.

Для Барысаўскай партыйнай арганізацыі рашэнне пленума ЦК КП(б)Б мае выключнае значэнне. У Барысаве ў свой час вялася актыўная контррэвалюцыйная трацкісцкая і нацдэмаўская работа. Праверка партыйных дакументаў паказала, што ў раёне яшчэ і зараз ёсць рэшткі разбітых контррэвалюцыйных партый—Бунда, эсэраў.

Бюро ЦК КП(б)Б як у час праверкі, так і абмену партыйных дакументаў, спецыяльна ўказала Барысаўскаму райкому і ўсёй партарганізацыі, што яны не праяўляюць дастатковай рэвалюцыйнай пільнасці, слаба разгортваюць крытыку і самакрытыку, недастаткова мабілізуюць камуністаў на выкрыцце ворагаў партыі і народу, дрэнна паставілі партыйную работу.

Пасля абмену партыйных дакументаў прайшло 7 месяцаў.

Як-жа перабудавалася Барысаўская партарганізацыя, ці зрабіла яна вывады з праверкі і абмену партыйных дакументаў, з працэсаў над трацкісцка-зіноўеўскай бандай? Факты сведчаць аб тым, што такіх вывадаў яна не зрабіла.

У час праверкі партдакументаў Барысаўскі райком партыі выключыў 4 контррэвалюцыянераў-трацкістаў, у час абмену—4. Аднак, пасля выдачы новых партбілетаў прышлося выключыць яшчэ 10. Аб чым, як не аб прытупленні бальшэвіцкай рэвалюцыйнай пільнасці гавораць гэтыя факты?

Асабліва характэрнай з гэтага пункту погляду з'яўляецца справа трацкіста Лабзо (шклозавод)—члена партыі з 1929 года. У час абмену партдакументаў у партком завода і ў райком паступілі сігналы аб тым, што Лабзо ў 1927 годзе меў сувязь з трацкістамі і зараз вядзе контррэвалюцыйныя трацкісцкія размовы. Не гледзячы на гэта, трацкіст Лабзо атрымаў новы партыйны білет. Больш таго, сакратар райкома партыі тав. Мансееў 27 мая пры абмеркаванні вынікаў абмену партдакументаў на сходзе камуністаў шклозавода заявіў: «Лабзо будзе добрым камуністам, яму трэба толькі ажыць штукар-

скія выхадкі.» Зусім зразумела, што гэта выступленне не мабілізавала на барацьбу з трацкістамі, а наадварот,—аслабляла пільнасць партыйных мас завода.

Важна адзначыць, што Барысаўскі райком са справы Лабзо і іншых трацкістаў, выкрытых за апошні час, не зрабіў належных палітычных вывадаў, не вывучаў становішча ў партарганізацыях, дзе былі выкрыты трацкісцкія выродкі. Райком толькі пацвярджаў рашэнні партарганізацый аб выключэнні з партыі гэтых бандытаў і контррэвалюцыянераў.

Пярвічныя партарганізацыі і сам райком зусім не рэагавалі на цэлы рад вылазак класава-варожых элементаў. Партыйныя кіраўнікі раёна забылі ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што «рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва цяпер неабходна бальшэвікам».

У канцы мінулага года ў Барысаве меў месца рад класава-варожых вылазак: збіенне актывістаў, контррэволюцыйныя выступленні, прамое шкодніцтва і т. п. На барацьбу з варожымі дзеяннямі не была мабілізавана партыйная арганізацыя раёна. Ні райком, ні пярвічныя партарганізацыі не рэагавалі на факты збіення спачуваючага тав. Крулскага ў Глівенскім сельсовеце, на контррэволюцыйныя дзеянні майстра шклозавода Толсціка і т. п.

Больш таго, зараз высняецца, што рад партыйных арганізацый Барысава, асабліва рады спачуваючых, засмечаны класава-варожымі трацкісцкімі элементамі.

У партарганізацыі макароннай фабрыкі спачуваючы Карнюшка звязан са сваім дзядзькам—актыўным трацкістам.

У лошніцкай партарганізацыі спачуваючым лічыцца нейкі Снатковіч, які мае сувязь з кулаком Рашотнікавым, часта п'янствуе у яго і вядзе контррэволюцыйныя трацкісцкія размовы.

У канцы мінулага года ў Веляціцкім сельсовеце за контррэволюцыйную дзейнасць была прыцягнута да судовай адказнасці група антысавецкіх асоб. У студзені гэтага года адбываўся суд. Выкліканыя па гэтай справе сведкамі комуніст Петроўскі і спачуваючы Снатовіч далі рад заведама хлуслівых паказанняў, на аснове якіх суд апраўдаў усю групу контррэволюцыянераў. Як зараз устаноўлена, Петроўскі і Снатовіч да і пасля суда п'янствавалі з паасобнымі абвінавачанымі, адзначаючы сваю «перамогу» над палітшляпамі з суда і пракуратуры гор. Барысава. Да сярэдзіны лютага райком не рэагаваў на гэту справу, і Петроўскі аставаўся ў партыі.

Або ўзяць такі факт. У партарганізацыі Бярэзінскай веткі, якая не вядзе з рабочымі ніякай палітработы і не ведае іх палітычных настрояў, у час прапрацоўкі матэрыялаў працэса над трацкісцкай бандай мела месца варожае выступленне нейкага Валасача. Партарганізацыя не рэагавала на вылазку ворага. Парторг Дарыновіч растлумачыў: «Мы не рэагавалі, бо гэтыя контррэволюцыйныя размовы зыходзяць з вуснаў п'яніцы».

Аналагічныя факты былі ў лошніцкай партарганізацыі, у РВК і інш.

Чым тлумачыцца палітычная блізарукасць і страта пільнасці Барысаўскай партарганізацыяй? У першую чаргу тым, што яна не здолела разгарнуць сапраўды бальшэвіцкую крытыку і самакрытыку. Партыйныя кіраўнікі Барысаўшчыны падмянілі яе заклінаннямі, забыўшы, што «бальшэвіцкая крытыка і рэволюцыйная пільнасць—родныя сестры», што «сапраўдная пільнасць магчыма толькі там, дзе

шырока разгорнута большэвіцкая самакрытыка, не гледзячы на асобы» *).

Вось факты, якія самі за сябе гавораць.

На камбінаце «Комінтэрн» доўгі час тварыліся выключныя бясчынствы: кіраўніцтва п'янствавала, прысвойвала дзяржаўныя грошы, развальвала работу. Яно пастаралася стварыць такую абстаноўку, каб не дапусціць ні пратэсту, ні сігналаў. За крытыку людзей называлі ворагамі. Калі выканаўца па сыравіне тав. Барэнбаум, заўважыўшы ненармальнасці ў грашовай справаздачнасці прадстаўніка трэста Паніна, звярнуў на гэта ўвагу бухгалтара Выгоцкага, то праз некалькі мінут яго вызваў дырэктар камбіната Буценка і заявіў: «Калі пікнеш,—у Салаўках будзеш». Быў і другі выпадак. Тэхнічны дырэктар тав. Гебелеў неяк выказаўся супроць частых і непатрэбных раз'ездаў Буценка. Тут-жа экстрана збіраецца закрыты завком, на якім былы сакратар парткома Фіраго заяўляе: «Размовы Гебелева гэта дзеянні класавага ворага, іх трэба спыніць».

Як на гэта рэагаваў райком партыі?

Разбіраючы ў верасні мінулага года пытанне аб становішчы камбіната, ён ні словам не абмовіўся аб заціску самакрытыкі ў яго партарганізацыі.

Або такі факт.

Яшчэ ў 1934 годзе член партыі тав. Місуно папярэджвала райком аб тым, што адказны сакратар райвыканкома Каткоўскі—актыўны трацкіст і бундавец. Замест таго, каб чула аднесціся да гэтага сігналу, інструктар райкома Літвішка пусціў аб тав. Місуно чуткі, што яна, моў, пляткарка, капаецца ў бруднай бялізне і т. п. І больш таго, пагражаў паставіць на бюро райкома пытанне аб яе партыйнасці «за апарочванне чэснага комуніста».

Калі Катлоўскага выключылі з партыі і арыштавалі, як ворага трацкіста, тав. Місуно патрабавала вырашыць пытанне аб інструктару Літвішка. Справа цягнулася год. За гэты час тав. Місуно паспелі зняць з работы у РВК, нібы па скарачэнню, а той-сей нават параіў ёй выехаць з раёна.

Бюро РК змазала справу Літвішка, вынесшы такое заключэнне: «Тав. Літвішка, не ведаючы наяўных матар'ялаў аб Катлоўскім, не праявіў належнай пільнасці ў справе рэагавання на заяву тав. Місуно».

Не менш абураючы узор заціску самакрытыкі прадстаўляе справа студэнта Плеханаўскага інстытута члена партыі тав. Зазулі.

Прыехаўшы на канікулы ў Барысаўскі раён, тав. Зазуля напісаў у «Правду» артыкул аб злачынствах старшыні калгаса «Усход», Веляціцкага сельсовета, Канаплянікава (прысваенне дзяржаўных грошай, падлогі, грубыя адносіны да калгаснікаў, п'янства і т. п.). Сакратар райкома тав. Лысак, замест таго, каб спыніць злачынствы разлажыўшагася члена партыі Канаплянікава, збірае неабгрунтаваныя звесткі з мэтай кампраметацыі тав. Зазулі. Партарганізацыя інстытута імя Плеханава, грунтуючыся на даных Барысаўскага райкома, выключае тав. Зазулю з партыі. Факты, апісаныя тав. Зазуляй у газеце «Правда», пацвердзіліся. Канаплянікаў выключан з партыі і прыцягнут да судовай адказнасці.

Яркай ілюстрацыяй прытуплення пільнасці ў паасобных партарганізацыях Барысаўшчыны з'яўляюцца і такія характэрныя факты.

*) „Правда" ад 8/II-37 г.

У ноч на 1 мая класавы вораг Аліцыенка (калгас «Чырвоная рагатка», Халхоліцкага сельсовета) збіў і раніў актыўнага селькора комсамольца тав. Ніцыеўскага за тое, што ён змясціў у светавой газеце артыкул з крытыкай варожых дзеянняў Аліцыенка.

Рэдакцыя газеты «Большэвік Барысаўшчыны» матэрыял аб збіцці комсамольца накіравала пракурору і на гэтым супакоілася. Райкомы партыі і комсамола аб гэтай справе наогул нічога не ведалі. У ліпені адбыўся суд. Судовыя органы выхаласцілі палітычную сутнасць справы і кваліфікавалі ўчынак ворага Аліцыенка, як «звычайнае хуліганства».

8 лютага г. г. адбылася нарада сакратароў парткомаў па пытанню аб выніках студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б. Ні ў дакладзе сакратара райкома тав. Майсеева, ні ў выступленнях сакратароў парткомаў буйнейшых партарганізацый не было крытыкі і самакрытыкі. Рад абураючых недахопаў у рабоце партарганізацый і канкрэтныя носьбіты зла засталіся нявыкрытымі.

Усе адзначаныя факты прытуплення рэволюцыйнай пільнасці і зацiску самакрытыкі ў Барысаўскай партарганізацыі маглі мець месца толькі таму, што партыйная работа ў раёне не перабудавана, а ў радзе партарганізацый запушчана і нават развалена.

Нельга сказаць, што райком не займаўся перабудовай партыйнай работы не абмяркоўваў пытанняў партыйнага жыцця. У мінулым годзе бюро РК разглядала пытанні: аб падборы і зацвярджэнні прапагандыстаў, аб рабоце са спачуваючымі у паасобных партарганізацыях, аб падрыхтоўцы кандыдатаў да пераводу ў члены партыі, аб становішчы агітkалектываў і т. д. Аднак, райком зусім не цікавіўся тым, як выконваюцца яго рашэнні, не дапамагаў партыйным арганізацыям у іх рабоце. У выніку—усе рашэнні па канкрэтных пытаннях партыйнага будаўніцтва застаюцца нявыкананымі.

У час праверкі партдакументаў быў выкрыт і выгнан з партыі, як правакатар і шпіён, рэдактар райгазеты «Большэвік Барысаўшчыны» Стэфановіч. Што павінен быў зрабіць райком? Неадкладна ачысціць апарат рэдакцыі ад варожых і чуждых людзей, каб пакончыць са спадчынай Стэфановіча і стварыць моцны баявы калектыў. Райком-жа літаральна нічога не зрабіў. У рэдакцыйным калектыве засталіся людзі, якія мелі рад партыйных спагнанняў за палітычныя памылкі. Праўда, райком накіраваў на работу ў рэдакцыю члена партыі Усовіча. Але гэты чалавек аказаўся разлажыўшымся і таксама меў партспагнанне за тое, што, будучы раённым, дапусціў палітычную памылку ў газеце.

У маі мінулага года, заслухаўшы матэрыял абследвання барысаўскага Педтэхнікума, райком прыняў абшырнае рашэнне. Аднак, пасля гэтага нічога не змянілася ні ў палітычным становішчы, ні ў арганізацыі вучобы ў тэхнікуме. Застаўся на месцы выкладчык рускай літаратуры Марон, які падтрымліваў сувязь з трацкістам Шарлота, прыводзіў на лекцыях антысавецкія контррэволюцыйныя прыклады. Застаўся выкладчыкам і былы царскі афіцэр, сын палкоўніка Лысоўскі. Палітыка-выхаваўчай работы ў тэхнікуме да гэтага часу няма, чым карыстаецца вораг. Ў бібліятэкі засмечаны контррэволюцыйнай трацкісцкай літаратурай, ёсць рад выпадкаў антысавецкіх выступленняў сярод студэнтаў. Райком партыі своечасова не рэагаваў на гэта, не прыняў ніякіх мер да ўмацавання палітыка-выхаваўчай работы сярод студэнтаў і педагагічнага персанала тэхнікума.

Большасць партарганізацый раёна не наладзіла моцнай сувязі з комуністамі і беспартыйным актывам.

У партарганізацыі шклозавода да апошняга часу было 7 цэхавых партгруп. У кожную групу ўваходзіла 5—6 комуністаў. На чале некаторых партгруп стаялі нявопытныя у партыйнай рабоце, палітычна малаграматныя члены партыі. Сакратар парткома тав. Елькін, спадзеючыся на цэхпарторгаў, перадаручаў ім усю палітыка-выхаваўчую работу сярод комуністаў і беспартыйных рабочых. Партком не рабіў справаздач перад комуністамі са снежня 1935 года.

Або ўзяць партарганізацыю макароннай фабрыкі імя Леніна. Сакратаром парткома з'яўляецца тав. Галейша. Комуністы фабрыкі не паказваюць прыкладу ў рабоце, да партсходаў не рыхтуюцца, зусім не вучацца. Партсходы нічога комуністам не даюць. Так, напрыклад, 7 студзеня слухалі даклад аб выніках снежаньскага пленума ЦК ВКП(б). Комуністы гаварылі аб п'янстве і разлажэнні былога кіраўніцтва фабрыкі, аб антыпартыйных паводзінах паасобных членаў партыі, а рашэнне прынялі агульнае: стаханаўскі рух на фабрыцы не на належнай вышыні, тэхвучоба зусім не наладжана, тав. Кірэеву склікаць тэхнічную нараду, на якой прапрацаваць рашэнні пленума і намеціць план ліквідацыі вузкіх месц.

З таго часу прайшоў год, але стыль у рабоце партарганізацыі макароннай фабрыкі застаўся ранейшым. Такога-ж «стылю» прытрымліваецца і партарганізацыя Бярэзінскай веткі, і Лошніцкая, і рад іншых.

У рабоце партыйных арганізацый Барысава ёсць факты парушэння ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і статута партыі. Партспагнанні выносяцца парткомамі без зацверджання на агульных партсходах (макаронная фабрыка).

Партарганізацыя РВК 7 лютага, пры наяўнасці на сходзе 50 проц. комуністаў, правяла выбары дэлегатаў на партканферэнцыю. За члена партыі тав. Гаруновіча галасавала толькі шэсць комуністаў (у партарганізацыі 24 комуністы), не гледзячы на гэта, яго выбралі дэлегатам з дарадчым голасам.

У самым райкоме парушаецца ўнутрыпартыйная дэмакратыя і статут партыі. Так, у жніўні мінулага года бюро РК слухала інфармацыю аб рабоце партгрупы Запалкавага тэхнікума і пастанавіла: «Арганізаваць партгрупу. Парторгам зацвердзіць тав. Котава». Гэты факт яшчэ раз пацвярджае, што райком працягвае кіраваць пры дапамозе старых, даўно аджылых метадаў.

Нізкі ўзровень партработы, адсутнасць сапраўднай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі садзейнічалі таму, што паасобныя комуністы разлажыліся ў бытавых і палітычных адносінах. Барысаўскі райком не ўлічыў указання, зробленага яму ЦК КП(б)Б яшчэ ў час абмену партдакументаў аб тым, што ён «не надаў сур'ёзнага значэння факту крадзяжу партбілета ў члена партыі Войніча, якога напаілі з мэтай узяць партбілет». Гэта відаць хоць-бы з таго, што ў снежні мінулага года райком выключыў з партыі Кавальчука за тое, што ён, напіўшыся ў рэстаране, аддаў свой партбілет свайму сабутыльніку — п'яніцы Патэсу.

Інструктар райкома Ульяновіч сістэматычна п'янствуе на вачах у комуністаў і комсамольцаў [illegible] з імі. Быў выпадак, калі Ульяновіч, з'явіўшыся ў п'яным выглядзе на комсамольскі сход, пачаў лаяцца і дэбашырыць. Ульяновіч рэкамендаваў у партыю варожых лю-

дзей, з якімі ён разам п'янстваваў. Райком партыі, добра ведаючы аб разлажэнні Ульяновіча, аб кампраметацыі ім нашай партыі, усё яшчэ не вырашыў пытання аб яго партыйнасці.

У Лошыцкім сельсовеце быў у гэтым годзе такі выпадак. 23 студзеня ўся партарганізацыя сельсовета на чале з парторгам, двума інструктарамі райкома і загадчыкам райза пасля партсходу ўчыніла п'янку ў Дудзіцкага, пераведзенага на гэтым сходзе з кандыдатаў у члены партыі.

П'янка сярод камуністаў Барысаўшчыны—не рэдкая з'ява ў радзе калгасаў, сельсоветаў, прадпрыемстваў.

Палітычная агітацыя ў раёне пастаўлена павярхоўна, без палітычнай астраты. Давоannli сказаць, што такія гістарычныя дакументы, як Сталінская Канстытуцыя, даклад таварыша Сталіна былі зусім слаба даведзены да шырокіх мас насельніцтва, асабліва ў вёсцы.

Вывучэнне даклада таварыша Сталіна, матэрыялаў надзвычайнага VIII з'езда Советаў і Сталінскай Канстытуцыі не суправаджалася перабудовай усёй работы партыйных, советскіх і прафсаюзных органаў, выкрыццём ненармальных з'яў у калгасах, сельсоветах і ў самым РВК. Таму рад устаноў раёна ў практыцы работы усё яшчэ дапускае грубае парушэнне рэвалюцыйнай законнасці, масавыя штрафы, незаконнае выключэнне з калгасаў («Чырвоны навасёлец», «Пралетарская перамога» і інш.), незаконныя вобыскі ў калгаснікаў (калгас імя Варашылава, Лошыцкага сельсовета), шнараванне аднаасобніка і т. п.

Слабасць палітмасавай работы ў час перапісу насельніцтва выкарысталі ворагі народу для сваёй контррэвалюцыйнай работы (антысовецкая агітацыя ў вёсцы Малыя Негновічы, на шклозаводзе, з'біенне аднаасобнікам дачкі калгасніка ў Вяліка-Негновіцкім сельсовеце і т. п.

З усяго сказанага можна зрабіць адзін вывад. Барысаўская партарганізацыя не вынесла неабходных урокаў з вынікаў праверкі і абмену партдакументаў, яе кіраўніцтва не зразумела, што «чым поўнакроўней партыйнае жыццё калектыва, чым шырэй у ім самакрытыка, чым суровей захоўваюцца прынцыпы ўнутрыпартыйнай дэмакратыі, тым вышэй рэвалюцыйная пільнасць, тым мацней жалезная дысцыпліна партыйных радоў» («Правда»).

Лютаўскі пленум ЦК ВКП(б) па дакладу тав. Жданава паставіў перад усёй нашай партыяй задачу—перабудаваць партыйную работу на аснове безумоўнага і поўнага правядзення ў жыццё ўнутрыпартыйнай дэмакратыі. Паварот да палітычнага жыцця краіны ў сувязі з увядзеннем Сталінскай Канстытуцыі патрабуе, каб уся партыя і кожны камуніст сталі на чале гэтага павароту і забяспечылі поўнасцю кіруючую ролю ў надыходзячых выбарах вярхоўных органаў краіны» (з рашэння сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б)).

Барысаўская партыйная арганізацыя абавязана перабудаваць сваю работу на аснове рашэнняў Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна, забяспечыць разгортванне бальшэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, да канца праводзіць унутрыпартыйную дэмакратыю, цясней звязацца з масамі, узмацніць работу над павышэннем ідэйнай узброенасці, пільнасці кожнага члена і кандыдата партыі.

**В. Шпіцэр і А. Багданаў**

Інструктары АКПО ЦК КП(б)Б

## Партарганізацыя Жлобінскага чыгуначнага вузла

У партарганізацыі Жлобінскага чыгуначнага вузла ў наяўнасці поўныя правалы партыйна-масавай работы. Агітацыя і выхаваўчыя мерапрыемствы знаходзяцца на задворках. Вось факты. За увесь 1936 год на вузле быў праведзен толькі адзін паліт'дзень. З рабочымі станцыі абмежаваліся прачытаннем Сталінскай Канстытуцыі, замест таго каб гэты гістарычна важны дакумент дэталева вывучыць. Агітатары скрозь і ўсюды палітычна няграматны, не чытаюць газет, некаторыя нідзе не вучацца, не маюць пастаянна прымацаваных за сабою ўчасткаў і нікім не інструктуюцца.

Не лепш справа з партыйнай вучобай. К прыкладу, у гуртку па вывучэнню гісторыі партыі (станцыя) тэму аб народніцтве правялі за дзве гадзіны. У выніку не было такога слухача, які-б мог адказаць хоць-бы на адно з пытанняў па гэтай тэме. Члены партыі дрэнна наведваюць заняткі. Ёсць выпадкі, што некаторыя камуністы і зусім не вучацца. Сакратары партарганізацый лічаць, што партыйная вучоба і работа з прапагандыстамі — справа парткабінета, самі-ж ухіліліся ад кіраўніцтва партпрапагандай.

У дэпо 60 комсамольцаў і 300 чалавек беспартыйнай рабочай моладзі. Работа сярод беспартыйнай моладзі не праводзіцца

Тав. Кагановіч гаварыў, што «член партыі навучаецца і павінен навучацца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе». Гэтага не разумеюць у партарганізацыі Жлобінскага вузла. Да партсходаў не рыхтуюцца. На партсходах станцыі з 25 комуністаў, як правіла, прысутнічае 12—13 чалавек, прычым гаспадарчыя пытанні пераважаюць над палітычнымі. Партыйныя групы зусім бяздзейнічаюць. Са спачуваючымі работы не праводзіцца.

Са стаханаўцамі партарганізацыя не працуе, вопыт работы лепшых стаханаўцаў не папулярызуе. З месяца ў месяц колькасць стаханаўцаў змяншаецца. Гора-кіраўнікі дэпо Жлобін ігнаруюць ініцыятыву стаханаўцаў, не арганізуюць ім дапамогі. Стаханавец Якубоўскі—слесар дэпо—узяў на сябе абавязацельства працаваць без памочніка. Яму не стварылі ўмоў для работы, і ў выніку яна ў яго не клеілася. Толькі пасля ўмяшання прадстаўніка ЦК КП(б)Б тав. Безносава былі створаны нармальныя ўмовы, і тав. Якубоўскі паказвае цяпер узоры стаханаўскай работы.

Партарганізацыя Жлобінскага вузла прайшла і праходзіць міма контррэволюцыйных выступленняў. Працэс трацкісцка-зіноўеўскага контррэволюцыйнага цэнтра не навучыў яе пільнасці. Былы начальнік дэпо Гупаиловіч—стаўленік Владзімірскага (трацкіста-дывер-

санта) арганізаваў шкодніцкую групу, ігнараваў загады наркома, разваліў работу дэпо.

Сушчанскі—слесар дэпо, сын буйнага гандляра, скарыстаўшы рэтазейства комсамольскай арганізацыі, прабраўся ў рады ВЛКСМ і разам з былым сакратаром камітэта комсамола Маталыцкім, сынам кулака, арганізаваў шкодніцкую групу, якая сістэматычна псавала дэталі, выпускала брак. Гэты Сушчанскі па рэкамендацыі трыкутніка дэпо ўзнагароджан значком ударніка.

Класавы вораг Гусеў прабраўся парторгам станцыі, на працягу двух год распаўсюджваў трацкісцкую літаратуру. Члены парткома аб гэтым ведалі, але утойвалі ад партыйнай арганізацыі.

Карыстаючыся становішчам парторга, Гусеў падрабіў пратакол агульнага сходу партарганізацыі станцыі і зняў з учоту трацкіста Зрказа адказнага сакратара палітаддзела вузла. Гусеў «вучыў» комуністаў своеасаблівым метадам распазнаваць ворага: «Пры размовы з чалавекам, калі ен табе глядзіць прама у вочы, значыць ён чэсны чалавек, калі-ж не—ён трацкіст».

Па сутнасці-ж ен прытупляў пільнасць комуністаў партарганізацыі.

Гусеў быў адхілен ад работы. Аднак, не гледзячы на тое, што ен быў ужо выкрыт, як трацкіст, усё-ж справы партыйнай арганізацыі знаходзіліся яшчэ некаторы час у яго.

У партыйнай арганізацыі Жлобінскага вузла была заціснута крытыка і самакрытыка.

Грубейшы заціск самакрытыкі праявіў былы начальнік палітаддзела Смолін. Калі на раённай партыйнай канферэнцыі яго работа была падвергнута рэзкай крытыцы, ен, пад выглядам нарады, сабраў 13 дэлегатаў канферэнцыі і прапанаваў ім «выкрыць няправільнае выступленне» дэлегатаў канферэнцыі тт. Падзеліса і Пармонава, крытыкаваўшых работу палітаддзела і самога Смоліна. Гэты абураючы факт грубейшага заціску крытыкі быў выкрыт РК выпадкова.

Партарганізацыя Жлобінскага вузла павінна неадкладна зрабіць усе неабходныя вывады з таго становішча, якое стварылася ў яе рабоце, вывучыць і па-большэвіцку выканаць рашэнні апошняга Пленума ЦК ВКП(б), указанні таварыша Сталіна, якія ен зрабіў на Пленуме ў сваім дакладзе і заключным слове.

А. Раб-скі.

## Строга выконваць статут партыі

ЦК ВКП(б) у пастанове ад 29 верасня 1936 г. прапанаваў усім партыйным арганізацыям засвоіць да канца ўрокі праверкі і абмену партдакументаў і ў адпаведнасці з патрабаваннямі статута «адбіраць у партыю сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа, лепшых людзей нашай краіны, з рабочых перш за ўсё, а таксама з сялян і працоўнай інтэлігенцыі, правераных на розных участках барацьбы за сацыялізм».

Гэта патрабаванне ЦК ВКП(б) на практыцы груба парушаецца Петрыкаўскім, Заслаўскім, Уздзенскім і Сталінскім (Менск) райкомамі партыі. Усе яны дапусцілі рад грубейшых скажэнняў пры выкананні пастановы ЦК ВКП(б) аб аднаўленні прыёму ў партыю, не ўвязалі гэтага пытання з задачамі, якія выцякаюць з вынікаў праверкі і абмену партдакументаў.

Петрыкаўскі райком партыі яўна збіваецца на шлях валавога прыёму новых членаў у партыю. 13 лютага г. г. на пасяджэнні бюро РК у партыю было прынята адразу 6 чалавек і ў спачуваючыя адзін. Акрамя прыёму ў партыю было разгледжана 18 іншых пытанняў і прынята па іх 9 разгорнутых пастаноў. Натуральна, што пры такой вялікай павестцы дня не было часу для таго, каб усебакова абмеркаваць важнейшае пытанне—прыём у партыю новых членаў. Петрыкаўскі райком ігнаруе і патрабаванне статута аб тым, што кожны ўступаючы ў рады партыі павінен прадставіць, акрамя рэкамендацыі, водзыў з месца сваей работы, а райкомы партыі абавязаны праверыць усе гэтыя матэрыялы. Райком-жа абмяркоўвае пытанне аб прыёме ў партыю і ў тым выпадку, калі ўступаючы не прадставіў водзываў аб рабоце.

Фармальна, па-дзяляцку адносіцца да прыёму ў партыю і Заслаўскі райком. Прыводзім літаральны тэкст пастановы, якую ён прыняў на сваім пасяджэнні ад 28 студзеня: «Зацвердзіць рашэнне пярвічнай партарганізацыі калгаса «Полымя». Прыняць тав. Цярэшка Паўла Антонавіча ў кандыдаты партыі па чацвертай катэгорыі, як служачага. Прасіць ЦК КП(б)Б зацвердзіць гэта рашэнне». Такім чынам з гэтага дакумента ніяк нельга даведацца, дзе працуе Цярэшка, хто яго рэкамендуе, ці сапраўды ён з'яўляецца перадавым і правераным у барацьбе за сацыялізм.

Уздзенскі райком на сваім пасяджэнні ад 9 студзеня перавёў у члены партыі Гурскага І. П., не гледзячы на тое, што член бюро тав. Аронаў даў яму адвод, заявіўшы, што бацька Гурскага з'яўляецца баптыстам. Гурскага райком прыняў у партыю па першай катэгорыі, хоць ён працуе начальнікам пажарнай аховы на вузкакалейцы.

Не ўсё добра з прыёмам у партыю ў Сталінскім горрайкоме. Аб павярхоўным падыходзе да адбору лепшых людзей сведчыць факт пераводу ў члены партыі Цэйтэльмана М. А.—кандыдата партарганізацыі завода імя Кірава. Хто такі Цэйтэльман? На заводзе ён працуе з 1926 г. Спачатку быў рабочым ад станка, а зараз начальнікам кавальскага цэха. У кандыдаты прыняты ў 1932 г., хоць партарганізацыя не ведала прычыны, па якой ён выбыў з радоў комсамола. Будучы кандыдатам партыі, Цэйтэльман прыцягваўся да судовай адказнасці па аліментных справах, меў партыйнае спагнанне за зацiск крытыкі ў кавальскім цэху. Пасля абмену партдакументаў у партком паступілі матар'ялы аб сувязі Цэйтэльмана з трацкістамі. У жніўні партком абмеркаваў іх і вынес рашэнне вылучыць камісію для дадатковай праверкі. Пытанне аб сувязі Цэйтэльмана з трацкістамі на пасяджэнні парткома другі раз не ставілася. Сакратар парткома тав. Шамес заявіў, што паступіўшыя матар'ялы, нібы, не пацвердзіліся. На гэтым справа была вычарпана. У лютым г. г. на пасяджэнні парткома Цэйтэльман быў пераведзен у члены партыі, не маючы ад грамадскіх арганізацый водзываў аб рабоце. Рашэнне парткома было зацверджана на чарговым партсходзе, не гледзячы на тое, што член парткома тав. Асаенак зрабіў адвод Цэйтэльману і галасаваў супроць яго. Характэрна, што ні на пасяджэнні парткома, ні на агульным партсходзе ніхто словам не абмовіўся аб сувязі Цэйтэльмана з трацкістамі. Прамаўчалі аб гэтым і пры абмеркаванні пытання на пасяджэнні Сталінскага райкома. Калі-ж у сакавіку выпадкова былі выяўлены матар'ялы аб сувязі Цэйтэльмана з трацкістамі, то з пяці паручыцеляў трое заявілі, што не ведалі аб гэтым. Сярод іх—член партыі Сіўчук Л. М., які, здавалася-б, павінен быў ведаць, хто такі Цэйтэльман, бо да сакавіка г. г. працаваў парторгам кавальскага цэха.

Сакратар Сталінскага райкома тав. Літвін грубейшым чынам парушае указанне ЦК ВКП(б) аб тым, што «да разгляду заявы аб прыёме ў партыю пярвічныя партарганізацыі, райкомы і гаркомы ВКП(б) абавязаны праверыць прадстаўленыя ўступаючым у партыю рэкамендацыі і водзывы». Акрамя таго, ён забывае пра свой абавязак асабіста знаёміцца і гутарыць з уступаючым у партыю, перш чым ставіць гэта пытанне на разгляд бюро райкома.

Толькі забыццём указання Леніна аб тым, што наша партыя—«адзіная ўрадавая партыя ў свеце, якая клапоціцца не аб павелічэнні колькасці членаў, а аб павышэнні іх якасці» можна тлумачыць легкадумны падыход раду партыйных арганізацый Беларусі да прыёму ў партыю новых членаў.

Земцаў

# Заціск самакрытыкі ў Шклоўскай партарганізацыі

Таварыш Сталін заўсёды вучыў партыю, што самакрытыка ёсць неад'емная і стала дзеючая зброя ў арсенале большэвізма, непарыўна звязаная з самой прыродай большэвізма, з яго рэвалюцыйным духам.

Шклоўская партарганізацыя і яе сакратар тав. Ермакоў не зразумелі гэтай ісціны. У партарганізацыі дапускалася крытыка па рангах: крытыкаваць можна было толькі нізавых работнікаў—старшынь сельсоветаў і калгасаў. Калі ж справа ішла аб раённым кіраўніцтве, то яго стараліся крытыкаваць так, каб ад гэтай крытыкі ніхто не пацярпеў. Замест выяўлення канкрэтных вінаватых прарываў і недахопаў ужываліся выражэнні: «паасобныя таварышы», «некаторыя камуністы» і т. д. Такія агульныя разважанні не садзейнічалі разгортванню большэвіцкай крытыкі, не павышалі рэвалюцыйную пільнасць.

Райком партыі ўзяў таксама пад апеку зажымшчыкаў самакрытыкі.

На фабрыцы «Спартак» паасобных членаў партыі з ведама райкома за крытыку знімалі з работы і выводзілі са складу парткома.

Так, стары рабочы член партыі тав. Лукашэвіч, за тое, што на агульным сходзе рабочых «асмеліўся» крытыкаваць дрэнную работу тэхнічнага дырэктара Окснера, праз некалькі дзён быў зняты з работы змяннага мастра і пераведзен у другі цэх памочнікам мастра. Калі аб гэтым абураючым выпадку тав. Лукашэвіч расказаў на партсходзе, то ні сакратар райкома партыі тав. Шчэмераў, ні інструктар райкома партыі тав. Лабанок, якія выступілі на гэтым сходзе з доўгімі прамовамі, ні адным словам не абмовіліся аб заціску самакрытыкі.

Другі выпадак грубейшага заціску самакрытыкі райком партыі і партком фабрыкі «Спартак» дапусцілі ў адносінах члена партыі Казловай. Тав. Казлова на адным з партыйных сходаў расказала, як Харытонава і Люнаў (цяпер выключаныя з партыі як класава-чужыя элементы) аблічылі рабочых трох цэхаў. Сакратар райкома тав. Ермакоў, замест таго каб прыслухацца да гэтага сігнала, груба абарваў выступленне тав. Казловай. За райкомам партыі пайшоў і партком фабрыкі. Тав. Казлова, на падставе скарг рабочых, паведаміла дырэкцыі фабрыкі, што загадчык сталовай перавышае нацэнкі на прадукты. Пры праверцы факты не пацвердзіліся. Але партком, не ўнікаючы ў сутнасць справы, вынес рашэнне аб вывадзе тав. Казловай са складу парткома і паставіў гэта пытанне на партыйным сходзе. Партком дабіўся свайго. 27 кастрычніка агульны партсход зацвердзіў рашэнне парткома аб вывадзе тав. Казловай са складу парткома, што з'яўляецца грубым заціскам самакрытыкі.

Рабочыя фабрыкі гавораць: «Калі цяпер хто-небудзь асмеліцца крытыкаваць старшага майстра Блажэвіча (выключанага з партыі за сувязь з класавым ворагам),—не абярэцца бяды. Тады ён воўкам глядзіць; таго і чакай, што пры зручным выпадку адпомсціць».

Факты выключнай безадказнасці ўскрыты пры праверцы таго, як раённая партарганізацыя рэагуе на пісьмы працоўных. Яшчэ за 1936 год раённая газета «Прамень камунізма» не атрымала ад раённых арганізацый адказаў на 1800 пісем, сярод якіх ёсць сігналы аб збіцці селькора Юр'ева, аб здзеках над дзецьмі і т. п.

Яркі ўзор заціску самакрытыкі меў месца на раённым партсходзе 31 снежня, калі рэдактар газеты тав. Герцовіч у сваім выступленні правільна ускрыў рад недахопаў у рабоце раённага камітэта партыі і ўказаў на факты грубага заціску самакрытыкі яго сакратаром Ермаковым. Замест таго, каб правільна ўспрыняць гэту крытыку, інструктар райкома Лабанок і сакратар райкома Шчэмераў заявілі, што тав. Герцовіч выступіў з трацкісцкімі метадамі крытыкі. Гэтым яны хацелі даць зразумець многім камуністам, што раённых кіраўнікоў не смей крытыкаваць. У выніку партсход прыняў няправільнае рашэнне: «Сваё выступленне тав. Герцовіч накіраваў на падрыў работы бюро РК КП(б)Б і на дыскрэдытацыю першага сакратара РК КП(б)Б тав. Ермакова. Герцовіч стараўся метадамі, якія прымяняліся ў свой час антыпартыйнымі элементамі, трацкістамі, выкарыстаць трыбуну сходу і апеляваць перад агульным партсходам на зусім правільнае рашэнне бюро РК КП(б)Б аб памылках раённай газеты «Прамень комунізма». У гэтай-жа пастанове патрабавалася неадкладна зняць тав. Герцовіча з работы адказнага рэдактара і на бліжэйшым бюро РК КП(б)Б вырашыць пытанне аб яго партыйнасці.

Прамы заціск самакрытыкі, рэпрэсіі супроць крытыкуючых, грубое скажэнне лозунга партыі аб большэвіцкай крытыцы прывялі да прытуплення большэвіцкай пільнасці, ліберальных адносін да класавых ворагаў. На фабрыцы «Спартак», на лесазаводзе «Барацьба» у Фашчаўскай МТС ворагі народу і антысеміты Гаранін, Жычко і Кейро беспакарана вялі сваю контррэвалюцыйную работу і своечасова не былі выкрыты. Класава-чуждым элементам удалося пралезці ў спачуваючыя, каб потым прабрацца ў партыю. На фабрыцы «Спартак» з 16 спачуваючых чацвера аказаліся людзьмі класава-чуждымі: Оксвер—тэхнічны дырэктар, заціскач самакрытыкі, сын буйнага плантатара-табакавода з Бесарабіі; Сідараў—прахадзімец, жулік, у гады грамадзянскай вайны краў з фабрыкі часткі машын і спекуляваў імі; Саўчанка—п'яніца, які канчаткова разлажыўся, варварскі здзекваўся над сваёй жонкай.

Работу са спачуваючымі Шклоўскі райком партыі пусціў на самацёк. Даволі сказаць, што з 58 спачуваючых па раёну ні адзін не быў зацверджан бюро райкома партыі. Са спачуваючымі не праводзілася ніякай работы, калі не лічыць фармальнага прымацавання іх да гурткоў палітвучобы.

Кіраўніцтва райкома партыі яшчэ не зразумела, што палітычная агітацыя з'яўляецца адным з важнейшых звенняў у рабоце нашай большэвіцкай партыі, што баявая палітычная агітацыя выхоўвае і арганізуе масы на практычнае ажыццяўленне задач партыі і ўрада.

**С. Латышоў**
**Інструктар АКПО ЦК КП(б)Б**

Зусім мала зрабіў райком для стварэння калектываў агітатараў, чытчыкаў і бяседчыкаў. У лістападзе былі праведзены дзесяцідзенныя курсы агітатараў на 23 чалавекі. Райком палічыў, што гэтым усё ўжо зроблена, бо з таго часу нічым не дапамагаў у рабоце агітатараў.

Райком партыі і першасныя партарганізацыі забылі пра неабходнасць канкрэтнага кіраўніцтва палітагітацыяй. У выніку важнейшыя рашэнні партыі і ўрада не даводзяцца да шырокіх мас працоўных. У пераважнай большасці калгасаў выключна дрэнна арганізавана вывучэнне даклада таварыша Сталіна на Надзвычайным VIII З'ездзе Саветаў, Сталінскай Канстытуцыі СССР, новай Канстытуцыі БССР. У калгасах зоны Фашчаўскай МТС, у калгасах Вялікa-Лозіцкага, Камена-Лаўскага, Высоцкага і Стара-Воцінскага сельсаветаў няма ні аднаго гуртка па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі.

Дырэктар Фашчаўскай МТС член партыі тав. Сырамятнікаў, агрономы тт. Кацубенка і Аўдзееў апраўдваюцца тым, што яны перагружаны асноўнай работай і не маюць часу для агітацыі сярод працоўных. Яны па сутнасці адарваліся ад мас.

На адзінай у раёне буйнай папяровай фабрыцы «Спартак», дзе працуе каля 700 рабочых, палітагітацыя зусім не пастаўлена. У пачатку снежня парткомам распрацаваў было наладзіць сярод стаханаўцаў і спецыялістаў партмасавую работу, аднак далей арганізацыі палітгурткоў не пашоў.

Шклоўская партыйная арганізацыя павінна зрабіць для сябе сур'ёзныя вывады з допушчаных ёю грубейшых памылак і па-сапраўднаму павесці барацьбу за выкананне ленінска-сталінскіх указанняў аб разгортванні крытыкі і самакрытыкі, аб павышэнні бальшавіцкай пільнасці. Яна павінна шырока паставіць вывучэнне дакладаў таварыша Сталіна і Сталінскай Канстытуцыі.

Рашэнне Лютаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб падрыхтоўцы партыйных арганізацый да выбараў у вярхоўныя органы краіны на аснове Сталінскай Канстытуцыі патрабуе перабудовы партыйна-палітычнай работы. Барацьба за ажыццяўленне гэтых рашэнняў з'яўляецца святым доўгам кожнай партарганізацыі, кожнага камуніста.

Рашэнне пленума ЦК аб устанаўленні пры выбарах партыйных органаў закрытага (тайнага) галасавання магутная зброя ў барацьбе з элементамі бюракратызма ў партыйным апараце, з заціскачамі бальшавіцкай крытыкі, за далейшае паляпшэнне ўсей арганізацыйна-партыйнай і палітмасавай работы.

Шклоўскі райком партыі і ўся партарганізацыя ў цэлым абавязаны карэнным чынам перабудаваць сваю работу на падставе рашэнняў пленума ЦК ВКП(б) і указанняў таварыша Сталіна. Заціскачы бальшавіцкай крытыкі павінны быць прыцягнуты да суровай партыйнай адказнасці.

> «Партыйны работнік, які не ўмее карыстацца самакрытыкай, а тым больш заціскаючы яе,—не большэвік, а бюракрат, якога неабходна гнаць з партыйнага апарата» *).

*) „Правда" ад 7-III 1937 г.

# Небольшэвіцкі стыль работы райкома

Партыйна-палітычная работа ў масах, большэвіцкае выхаванне членаў і кандыдатаў партыі—гэта стрыжань, вакол якога павінна разгортвацца ўся работа кожнай партыйнай арганізацыі.

Як-жа пастаўлена гэта работа ў Чырвонапольскай партыйнай арганізацыі? Стаўшы на шлях дзялячтва, кіраўнікі Чырвонапольскай арганізацыі адарваліся ад партыйных мас, не мабілізавалі комуністаў на павышэнне большэвіцкай пільнасці і ўмацаванне боездольнасці партыйных радоў. Сур'ёзную і ўдумлівую работу па выхаванню актыва і радавых комуністаў райком падмяніў так званай «бягучай інфармацыяй». Кіраўнікі райкома адарваліся ад пярвічных партарганізацый, не ведаюць іх работы, не гутараць з паасобнымі членамі і кандыдатамі партыі, не наведваюць партсходаў.

Яркай таму ілюстрацыяй служаць заявы комуністаў, зробленыя інструктару ЦК КП(б)Б пры абследаванні работы у Чырвонапольскім райкоме партыі.

Парторг партарганізацыі соўгаса імя Калініна тав. Савіцкі заявіў: «Склікаюць нас рэдка. На нарадах парторгаў нас звычайна палохаюць, а што рабіць—не вучаць. Не было выпадку, каб мяне, як парторга, выклікалі кіраўнікі райкома і далі практычныя ўказанні аб партыйнай рабоце ў соўгасе. Кіраўнікі райкома бываюць у соўгасе часта, але з парторгам аб яго рабоце не гутараць, больш усяго цікавяцца тым, як ідуць гаспадарчыя справы у дырэктара соўгаса».

Парторг буйнейшай у раёне пярвічнай партарганізацыі РВК гаварыў: «Працую парторгам год. Райком наведваю часта па пытаннях маёй асноўнай работы—наргасучоту, але аб партрабоце з сакратаром ніколі не гутарыў. Інструктар райкома тав. Мельнікаў быў у нас некалькі раз і больш за ўсё цікавіўся тым, як мы афармляем пратаколы. За цэлы год ніхто з кіраўнікоў райкома не выбраў часу, каб пабываць на сходах нашай пярвічнай партарганізацыі. Як парторг, я ні разу не рабіў справаздачы на пасяджэнні райкома аб сваёй рабоце».

Факты сведчаць аб тым, што цэлы рад партыйных арганізацый у Чырвонапольскім раёне ператварыўся ў гаспадарчыя арганізацыі.

Так, партарганізацыя фінансава-банкаўскіх работнікаў за 7 месяцаў разгледзела на сваіх сходах 14 пытанняў, з якіх толькі два ўнутрыпартыйнага характару, а астатнія—аб фінансава-падатковай практыцы раёна.

Партарганізацыя райвыканкома разглядала на сваіх сходах пытанні работы аддзела аховы здароўя, аддзела комунальнай гаспадаркі і т. д. і т. п.

Захапіўшыся гаспадарчымі пытаннямі, райком прагледзеў работу па ўздыму ідэйна-палітычнага ўзроўню і выхавання комуністаў.

Канкрэтных партыйных даручэнняў комуністам райком не практыкуе. У партарганізацыі РВК з 14 комуністаў толькі адзін прымацаван да комсамольскай арганізацыі, астатнія фармальна лічацца прымацаванымі да калгасаў для правядзення культурна-масавай работы—у калгасах яны ніколі не бываюць.

У гуртку павышанага тыпу, якім кіруе сакратар райкома тав. Лапацін, партыйная асвета зведзена да фармальнай чыткі матэр'ялаў. Гурткі і партшколы Выдрынскага і Горнаўскага сельсоветаў на працягу кастрычніка і лістапада зусім не займаліся. Палітшколы ў раённым цэнтры хоць і збіраюцца раз у дэкаду, але заняткі праходзяць казённа. Ні кіраўнікі школ ні слухачы да заняткаў не рыхтуюцца, канспектаў не складаюць. Натуральна, што такая вучоба не дасягае мэты. Некаторыя кіраўнікі гуртка паніжанага тыпу па гісторыі партыі давалі слухачам яўна няправільныя і шкодныя ўстаноўкі.

Райком партыі павінен быў канкрэтна кіраваць сеткай партасветы, сачыць за тым, як кіраўнікі школ рыхтуюцца да заняткаў. Аднак, гэтага ён не зрабіў.

Не лепш пастаўлена палітагітацыя і культмасавая работа сярод працоўных раёна. Пры першасных партарганізацыях яшчэ не створаны агіткалектывы. Чыткі, палітгутаркі на прадпрыемствах і ў калгасах не праводзяцца. Даклад таварыша Сталіна на VIII з'ездзе Саветаў толькі прамітынгован. Ні ў цэнтры раёна, ні ў сельсоветах не створаны гурткі па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі.

У раёне налічваецца 16 дамоў соцкультуры. Усе яны знаходзяцца ў запушчаным і беспрытульным становішчы. Дом соцкультуры Выдрынскага ш.-завода усю зіму не апальваўся, пакоі не абсталяваны, няма бібліятэкі. Загадчыкі дамамі соцкультуры месяцамі не бываюць на рабоце, але рэгулярна з'яўляюцца за зарплатай. Ельнянскі дом соцкультуры заняты пад кватэру дырэктара няпоўнай сярэдняй школы.

Слабасць кіраўніцтва палітычнай агітацыяй і культмасавай работай выкарысталі трацкісцкія выраднікі для працягвання контррэволюцыйнай тэорыі аб немагчымасці пабудовы соцыялізма у нашай краіне.

Самасупакоенасць і дабрадушнасць раённых кіраўнікоў вораг выкарыстаў для шкодніцкай работы не толькі ў калгасах, але і ў школах. Вучань няпоўнай сярэдняй школы выступіў на ўрачыстым сходзе у калгасе імя Нарыманава з яўна антысавецкай прамовай. Пярвічная партарганізацыя, замест таго каб расследваць гэты факт, абыйшла яго маўчаннем. Райком партыі абмежаваўся тым, што даручыў загадчыку райана разгледзець пытанне аб магчымасці аставлення гэтага вучня у школе. Райком не зацікавіўся ні сістэмай выхавання ў школе, ні настаўніцкім складам, ні самым фактам антысавецкага выступлення. Ён нават не заўважаў, што ворагі арудвалі пад самым яго носам.

Чым, як не адсутнасцю большэвіцкай пільнасці, можна растлумачыць тую акалічнасць, што за параўнальна невялікі час на адказную кіруючую работу ў раёне прабралася не мала прахадзімцаў, жулікаў і чужакоў. Яны толькі нядаўна былі выяўлены і выключаны з партыі.

„Большэвік Бел., № 3.

Сямейственасць, падхалімства, адсутнасць бальшэвіцкай самакрытыкі — вось што ляжала ў аснове работы чырвонапольскіх кіраўнікоў. Ужо адзін той факт, што партарганізацыі Чырвонапольскага раена пышна адзначылі 40-гадовы юбілей сакратара райкома тав. Лапаціна, гаворыць сам за сябе. Раенныя кіраўнікі забылі, што не юбілеямі комуніст заваёўвае сабе аўтарытэт, а ідэйнай, бальшэвіцкай мэтаімкненасцю, крапатлівай і ўдумчывай работай. Калі-б яны ажыццяўлялі бальшэвіцкі стыль у рабоце на аснове шырокага разгортвання крытыкі і самакрытыкі, то не было-б глебы для вышэйадзначаных хваравітых з'яў.

Таварыш Сталін вучыць:

> «Лозунг самакрытыкі з'яўляецца асновай нашага партыйнага дзеяння, сродкам умацавання пролетарскай дыктатуры, душой бальшэвіцкага метада выхавання кадраў.
>
> ... Самакрытыка ёсць неад'ёмная і пастаянна дзеючая зброя у арсенале бальшэвізма, непарыўна звязаная з самой прыродай бальшэвізма, з яго рэвалюцыйным духам».

Гэтай астрэйшай зброяй сталінскага вучэння не карысталіся кіраўнікі Чырвонапольскага райкома партыі. Яны не ўзначалілі масы, а пляліся ў хвасце мас.

Чырвонапольскі райком партыі абавязан зрабіць сур'езны вывад з дапушчаных ім памылак у партыйна-арганізацыйнай і палітычнай рабоце і карэнным чынам перабудаваць яе на аснове рашэнняў лютаўскага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

**С—аў.**

---

# Да чаго прыводзіць запушчанасць партыйнай і палітычнай работы

Кіраўскі раён належыць да ліку новых раёнаў, перад якімі пастаўлены складаныя задачы.

Не было самога раённага цэнтра, яго пачалі будаваць на пустым месцы. Зусім нанова ствараўся партыйны, совецкі і гаспадарчы апарат.

Здавалася-б, што ў гэтых умовах патрэбна асабліва цесная сувязь раённага камітэта з пярвічнымі арганізацыямі, сур'ёзная, штодзенная работа комуністаў у масах калгаснікаў і аднаасобнікаў. Але іншы шлях, шлях прамога ігнаравання партыйнай работы выбрала кіраўніцтва Кіраўскага раёна. Пярвічнымі арганізацыямі ніхто не займаўся. Партыйныя сходы, якія маюць выключнае значэнне ў справе бальшэвіцкага выхавання членаў партыі, у радзе арганізацый месяцамі не скліканіся.

У партыйна-кандыдацкай групе Падрэцкага сельсовета сходаў не было 5 месяцаў, у партгрупе МТС—4 месяцы, у партарганізацыі РВК—3 месяцы і т. д. Да партыйных сходаў не рыхтаваліся. Гэта адбівалася на абмеркаванні пытанняў, не было вострай бальшэвіцкай крытыкі недахопаў работы, нізкім быў узровень выступленняў. Не была арганізавана праверка выканання прынятых рашэнняў. Несамакрытычныя, неглыбокія партыйныя сходы не пакідалі следу у свядомасці комуністаў. Сакратар і члены райкома на сходах пярвічных арганізацый не бывалі. Планаў работы партарганізацыі не мелі. Комуніст не стаяў у цэнтры іх увагі. Большасць членаў партыі не мела партыйных заданняў. Памылкі паасобных таварышоў або зусім не абмяркоўваліся, або абмяркоўваліся фармальна. Не дзіўна, што многія члены партыі пачалі адрывацца ад партарганізацыі, ад партыйнага жыцця. Комуністы—старшыні калгасаў Шыракаў і Шкленнік—без ведама райкома паставілі на праўленні калгаса пытанне аб вызваленні іх ад работы. Чырванская партыйная арганізацыя без згоды райкома партыі зняла комуніста Чарнова з работы старшыні сельсовета і паставіла аб ім пытанне на прэзідыуме сельскага совета.

Райком партыі адарваўся ад партыйнай арганізацыі, кіраўніцтва партыйнай работай перадаверыў інструктарам, якія працуюць без дапамогі і кантролю. Апрача таго, інструктары часта выкарыстоўваліся, як упаўнаважаныя на розных гаспадарчых і іншых кампаніях. У рэзультаце партыйная работа была пушчана на самацёк. Інструк-

тарам райкома сістэматычна даваліся гаспадарчыя даручэнні. Так, інструктар Дашкавец быў упаўнаважаным па дарожнаму будаўніцтву і нарыхтоўках мяса. Жывў ён за 40 кілометраў ад раённага цэнтра, у райком прыязджаў разы чатыры ў месяц для чарговай «накачкі». Інструктар Кароткін быў упаўнаважаным па будаўніцтву райцэнтра. Такое «сумяшчэнне» прывяло да таго, што ў арганізацыях сваёй зоны ён не бываў па 4—5 месяцаў.

У самым раённым камітэце не было плана работы.

У перыяд абмену партдакументаў, калі ўсе райкомы партыі займаліся сур'ёзным вывучэннем работы пярвічных арганізацый і слухалі на сваіх паседжаннях вынікі абмену, Кіраўскі райком на працягу двух месяцаў не правёў ніводнага паседжання. Ён не цікавіўся ні работай пярвічных арганізацый, ні партыйных школ, ні паасобных комуністаў. За ўвесь 1936 год райком абмеркаваў не больш 2—3 унутрыпартыйных пытанняў.

Партыйная гаспадарка, якой партыя ўдзяляе выключна сур'ёзную ўвагу, у Кіраўскім раёне аказалася закінутым участкам. Ні адна пярвічная партарганізацыя не вядзе кнігі пратаколаў. Пішуцца пратаколы на разрозненых лістках паперы. Райком даў партарганізацыям няправільнае ўказанне, што ўсе іх пратаколы павінны захоўвацца ў райкоме. У рэзультаце пратаколы ляжаць у райкоме ў неразабраным выглядзе, а пярвічныя арганізацыі, не пакінуўшы сабе нават копіі, не маюць магчымасці праверыць выкананне ўласных рашэнняў.

Пратаколы пасяджэнняў самога райкома знаходзяцца ў хаатычным становішчы. У час абследвання тэхнічны работнік райкома «нечакана знаходзіў» новыя пратаколы. Так, былі знойдзены пратаколы ад 23 ліпеня, ад 17 жніўня, ад 27 жніўня, ад 27 кастрычніка і інш.

Кіраванне райкомам партыйнай работы адбілася асабліва моцна на становішчы партыйнай прапаганды. Гэта—самы запушчаны ўчастак. Былы старшыня райвыканкома Блюмкін сістэматычна зрываў работу партыйных школ. У мінулым годзе 12 сакавіка заняткі былі адменены «з прычыны мясанарыхтовак», 24, 29 красавіка заняткі не адбыліся «з прычыны падрыхтоўкі да веснавой сяўбы», 18 ліпеня заняткі былі сарваны «з прычыны распаўсюджвання пазыкі». Некаторыя прапагандысты зрывалі заняткі сістэматычна. Інструктар райкома Кароткін перадаручыў свои абавязак кіраваць гуртком зусім непадрыхтаванаму таварышу. Гурткі камплектаваліся не па ўзроўню ведаў, а па тэрытарыяльнаму прынцыпу. Няграматныя залічваліся ў гурткі па гісторыі партыі. Урэшце, пушчаная на самацёк, няправільна ўкамплектаваная, з сістэматычнымі зрывамі заняткаў, сетка партасветы развалілася. З канца жніўня 1936 года гурткі спынілі работу.

Адсутнасць арганізацыйна-партыйнай і ідэйна-выхаваўчай работы прывяла да зніжэння боездольнасці і прытуплення большэвіцкай пільнасці партыйнай арганізацыі, да п'янства і разлажэння не толькі раду комуністаў, але і паасобных партыйных арганізацый. П'янства стала звычайнаю з'явай. Раённы камітэт партыі не заўважыў, што класавы вораг наўмысна спойваў найменш устойлівых сельскіх і раённых работнікаў. Парторг Чыгірынскай партарганізацыі Шмаенкоў, выконваючы абавязкі загадчыка лесаўчастка, у ліпені месяцы склікаў лясных вартаўнікоў для калектыўнай выпіўкі,

а ў гэты час загарэўся лес. Уручэнне калгасам актаў на вечнае карыстанне зямлёй суправаджалася абавязковай папойкай з удзелам раённых прадстаўнікоў. Афіцыйныя «сямейныя» вечары з выпіўкай наладжваліся кожнае свята. На вечар сустрэчы новага года райвыканком выклікаў у цэнтр старшынь сельсоветаў для чарговага п'янства, матывуючы гэта тым, што трэба было адцягнуць іх ад удзелу у папойцы на месцах. Загадчык райана наладжваў выпіўкі з работнікамі апарата у сваім службовым кабінеце. Намеснік старшыні райвыканкома праводзіў нараду старшынь сельсоветаў, ледзь трымаючыся на нагах. Адказны работнік раёна Дабрускін ноччу будзіў кааператараў і патрабаваў прадаць яму водку.

Гнілыя, прымірэнчыя адносіны да фактаў разлажэння комуністаў перш за усё глумачацца тым, што кіруючыя работнікі раёна самі прымалі ўдзел у п'янках і дыскрэдытавалі сябе. Райком партыі моўчкі абыходзіў гэтыя факты, чым ствараў глебу для яшчэ большай безадказнасці паасобных комуністаў за свае ўчынкі. Ясна, што такая сістэма партыйнага кіраўніцтва не магла забяспечыць палітычнага ўплыву і разгортвання палітычнай агітацыі сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў раёна.

Таварыш Сталін на I Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў гаварыў:

> «... Сіла большэвікоў, сіла комуністаў заключаецца ў тым, што яны ўмеюць акружаць нашу партыю мільёнамі беспартыйнага актыва. Мы, большэвікі, не мелі-б тых поспехаў, якія маем зараз, калі-б мы не ўмелі завяваць на бок партыі давер'е мільёнаў беспартыйных рабочых і сялян».

Партыйныя кіраўнікі Кіраўскага раёна не даражылі давер'ем працоўных мас. Яны злачынна падрывалі яго. Гістарычны дакумент нашай партыі і дзяржавы даклад таварыша Сталіна на Надзвычайным VIII Усесаюзным з'ездзе Советаў не быў даведзен да працоўных раёна. Даклады аб Канстытуцыі перадаручаліся другарадным работнікам. У самых вялікіх калгасах раёна, якія налічваюць па некалькі сот гаспадарак, даклады кіруючымі работнікамі раёна не рабіліся. Члены райкома лічылі залішнім турбаваць сябе дакладамі, наведваць калгасы. Замест жывой сувязі з масамі, яны аддавалі перавагу бюракратычнаму, кабінетнаму метаду кіраўніцтва.

Палітыка-масавая работа ў раёне падмяняецца адміністраваннем, зусім нецярпімым парушэннем рэволюцыйнай законнасці, глушэннем і заціскам крытыкі. Адказны раённы работнік член партыі Фельдман, будучы у сельсовеце упаўнаважаным па нарыхтоўках, узяў з сабой групу неправераных людзей, сярод якіх былі выключаныя з партыі трацкісты. Дзейнічаючы ад імя совецкай улады, гэтыя асобы злаўмысна здзекваліся над працоўнымі, жадаючы выклікаць нездавальненне сярод беспартыйных мас.

Заявы працоўных дзесяткамі ляжалі у аддзелах РВК і сельсовета на працягу многіх месяцаў.

Парушэнне сталінскага статута сельгасарцелі набыло масавыя памеры у калгасах раёна. Растлумачальная і выхаваўчая работа была падменена палітыкай штрафаў, якая нічога агульнага не мае з лініяй нашай партыі. Штрафы накладалі асобы, якія не мелі на гэта ніякага права (работнікі пошты, старшыні сельсоветаў і інш.). Дырэктар МТС загадам ад 27 кастрычніка аштрафаваў некалькіх рахункаводаў і старшынь калгасаў, аднаго рахункавода зняў з ра

бсты і папярэдзіў, што ў далейшым ен будзе ўжываць больш суровыя меры спагнання.

Класавы вораг, выкарыстаўшы разлажэнне і адрыў кіраўніцтва ад калгасных мас, страту класавай пільнасці і заціск крытыкі, ў апошні час узмацніў сваю падрыўную дзейнасць.

Раённыя кіраўнікі дакаціліся «да жыцця такога» толькі таму, што яны фармальна-бюракратычна аднесліся да неаднаразовых указаніяў ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна аб павышэнні рэвалюцыйнай пільнасці, аб бальшэвіцкім уздыме ўсей партыйна-палітычнай работы ў масах. Яны адарваліся ад мас, цалкам перадаверыўшы кіраўніцтва партыйнай работай другарадным асобам. Такія партыйныя кіраўнікі страцілі сваё бальшэвіцкае палітычнае чуццё, класавую пільнасць і, па сутнасці, перасталі быць палітычнымі кіраўнікамі мас.

**Якуб**
Інструктар АКПО ЦК КП(б)Б

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б

## Прытупленне большэвіцкай пільнасці ў кіраўніцтве Быхаўскага райкома КП(б)Б

Бюро ЦК КП(б)Б 8 жніўня 1936 года ўказала Быхаўскаму райкому партыі і яго сакратару тав. Рэзнікаву на тое, што яны нясвоечасова рэагавалі на контррэвалюцыйныя вылазкі класавых ворагаў на шклозаводзе імя Ільіча. Гэта абавязвала РК КП(б)Б і асабіста тав. Рэзнікава мабілізаваць на гэтым факце ўсю партыйную арганізацыю і кожнага комуніста на далейшае павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці і барацьбу з ворагамі партыі і савецкай улады. Аднак, Быхаўскі райком партыі і тав. Рэзнікаў не вынеслі ўрокаў з указання Бюро ЦК. Аб гэтым гавораць факты адкрытага контррэвалюцыйнага выступлення класавых ворагаў, меўшыя месца ў Быхаўскім раёне (УВСР—68, Глухаўскі сельсовет).

На гэтыя факты, не гледзячы на папярэджанне Бюро ЦК КП(б)Б, райком і тав. Рэзнікаў своечасова не рэагавалі; не мабілізавалі партыйнай арганізацыі на далейшае павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці.

Бюро ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні ад 7/II 1937 года «Аб прытупленні большэвіцкай пільнасці ў кіраўнікоў Быхаўскага райкома КП(б)Б» адзначыла:

> «Быхаўскі РК КП(б)Б і сакратар РК тав. Рэзнікаў, страціўшы рэвалюцыйную пільнасць, не толькі не мабілізавалі вакол гэтых палітычных фактаў партыйную арганізацыю ў духу павышэння большэвіцкай пільнасці, але па сутнасці эмазалі гэтыя факты, чым дэмабілізавалі партыйную арганізацыю ў яе барацьбе з класавым ворагам».

Сакратар РК тав. Рэзнікаў, не гледзячы на сур'ёзнае папярэджанне, зробленае яму ЦК КП(б)Б, не апраўдаў сябе, як палітычны кіраўнік раёна, і да вырашэння вострых палітычных пытанняў, меўшых месца ў Быхаўскім раёне, падышоў па-дзяляцку. Тав. Рэзнікаў, падмяняючы ў сваёй рабоце савецкія гаспадарчыя органы, заняўся вырашэннем дробных гаспадарчых пытанняў, закінуў партыйна-палітычнае кіраўніцтва раёнам, у выніку чаго была аслаблена сувязь райкома з пярвічнымі партарганізацыямі і комуністамі. Усё гэта прывяло да аслаблення боездольнасці Быхаўскай партарганізацыі, да страты рэвалюцыйнай пільнасці комуністамі, што было скарыстана класавым ворагам для яго контррэвалюцыйных выступленняў супроць партыі і савецкай улады.

Выходзячы з гэтага, Бюро ЦК КП(б)Б 7/II—37 г. вынесла рашэнне аб зняцці тав. Рэзнікава з работы першага сакратара Быхаўскага РК КП(б)Б з абвяшчэннем яму суровай вымовы і папярэдзіла яго, што «калі ён у сваёй далейшай рабоце не выправіць дапушча-

ных ім памылак, ЦК вымушана будзе паставіць пытанне аб яго партыйнасці».

Адначасова ў сваім рашэнні Бюро ЦК КП(б)Б намеціла рад канкрэтных мерапрыемстваў па выпраўленню дапушчаных Быхаўскім райкомам партыі памылак і ўзмацненню партыйна-палітычнай масавай работы ў раёне. Разам з тым Бюро ЦК даручыла промаддзелу паслаць на будаўніцтва УВСР—68 «брыгаду работнікаў для дапамогі Быхаўскаму РК у пастаноўцы партыйна-палітычнай масавай работы на будоўлі».

* * *

Быхаўскі райком партыі і ўся партыйная арганізацыя абавязаны зрабіць для сябе сур'ёзныя вывады з рашэння Бюро ЦК «Аб прытупленні большэвіцкай пільнасці ў кіраўніцтве Быхаўскага райкома КП(б)Б», каб дабіцца неадкладнага рашучага ўздыму ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітычна-масавай работы і павышэння рэвалюцыйнай пільнасці комуністаў.

У сваім рашэнні бюро ЦК КП(б)Б указвае, што важнейшай задачай Быхаўскага РК КП(б)Б на бліжэйшы перыяд з'яўляецца «павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці ў партыйнай арганізацыі, рашучая перабудова ўсёй партыйна-палітычнай работы ў раёне, разгортванне крытыкі і самакрытыкі і ўздым партыйна-масавай і выхаваўчай работы».

Задача Быхаўскага райкома партыі, усёй партыйнай арганізацыі і кожнага комуніста — па-большэвіцку выканаць рашэнне бюро ЦК КП(б)Б.

---



На ст
Дарыно
На ст
шча Ка
На ст
тычнага
жыцці.
Па т
тар А
стар. 1
канцы

Уп. Галоўлітбела № Л—1904.
Тыраж 6 000.
401.280 друк. зн. (7½ арк.)
Здана ў набор 25/III—37 г.
Падпісана да друку 9/IV—37 г.

*Рэдкалегія* Г. Рубінштэйн (адк. рэдактар), Л. Готфрыд, Н. Казюк

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 418

## Заўважаныя памылкі:

На стар. 100—у 10 радку знізу надрукавана «Парторг Дарыновіч»—трэба чытаць: Парторг Лаўрыновіч.

На стар. 101 (6-ты абзац, 2 радок зверху) замест прозвішча Каткоўскі, трэба чытаць Катлоўскі.

На стар. 104—у 11 радку знізу замест «Пзварот да палітычнага жыцця»—трэба чытаць: Паварот у палітычным жыцці.

Па тэхнічнаму недагляду подпіс «С. Латышоў—інструктар АКПО ЦК КП(б)Б» памылкова пастаўлена на стар. 110—замест старонкі 111. Трэба чытаць подпіс у канцы стар. 111.

040 ЦАНА 40 кап.




# УВАГА!

Рэдакцыя журнала „Большэвік Беларусі" даводзіць да ведама ўсіх падпісчыкаў, што на падставе пастановы Бюро ЦК КП(б)Б журнал „Большэвік Беларусі" з палітыка-эканамічнага штомесячніка рэарганізуецца ў журнал партыйнага будаўніцтва. Акрамя агульнага аддзела, у якім будуць асвятляцца пытанні арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, партыйнай прапаганды, палітагітацыі і пытанні большэвіцкага друку,—у журнале, пачынаючы з № 3, уводзяцца аддзелы: „У дапамогу прапагандысту", „У дапамогу парторгу і сакратару парткома", „Жыццё мясцовых партарганізацый" і „У Цэнтральным Камітэце КП(б)Б".

У аддзелах журнала „Большэвік Беларусі": „У дапамогу прапагандысту", „У дапамогу парторгу і сакратару парткома" сістэматычна будуць давацца кансультацыі па пытаннях партыйнай прапаганды, палітагітацыі і арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, а ў астатніх двух аддзелах будзе асвятляцца жыццё мясцовых партарганізацый і паведамленні аб важнейшых рашэннях ЦК КП(б)Б па пытаннях партыйнага будаўніцтва і ўнутрыпартыйнага жыцця.

**Назва журнала застаецца ранейшай—„Большэвік Беларусі"**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ РАНЕЙШЫЯ

| | |
|---|---|
| На 1 мес. — | 40 кап. |
| „ 3 „ — | 1 р. 20 „ |
| „ 6 „ — | 2 „ 40 „ |
| „ 9 „ — | 3 „ 60 „ |

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

штомесячна ўсімі райбюро „Саюздруку", упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, усюды на пошце і пісьманосцамі.